Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б
АДКАЗНЫ РЭДАКТАР А. ДЖЭЛЮН

СТУДЗЕНЬ 1934 г. 1

Выходзіць 2 разы ў месяц.
Адрас рэдакцыі і выдавецтва:
Менск. Совецкая 63.



## КП(б)Б У БАРАЦЬБЕ ЗА ГЕНЕРАЛЬНУЮ ЛІНІЮ ПАРТЫІ!

### (АРТЫКУЛ ПЕРШАГА САКРАТАРА ЦК КП(б)Б тав. ГІКАЛО)



К XVII з'езду ВКП(б) КП(б)Б ідзе згуртаванай маналітнай калонай. Па-большэвіцку ажыццяўляючы дырэктывы ленінскага ЦК ВКП(б) і ўказанні правадыра партыі **т. Сталіна**, Комуністычная партыя Беларусі, як неадрыўная частка вялікай ВКП(б), дасягнула велізарных поспехаў па ўсіх участках разгорнутага соцыялістычнага наступлення.

Ажыццяўленне **ленінскай нацыянальнай палітыкі**, энтузіязм рабочых і калгасных мас у барацьбе за справу пабудовы соцыялізма ў БССР, брацкая дапамога рабочага класа Совецкага Саюза і ў асаблівасці штодзённае кіраўніцтва ЦК ВКП(б) і правадыра партыі т. Сталіна, забяспечылі карэннае змяненне твару Беларусі — быўшай калоніі царскай Расіі.

Вось некалькі характэрных лічбаў. Валавая прадукцыя прамысловасці БССР у 1930 г. выражаецца ў 1.030 млн. руб., а ў 1913 г. уся прадукцыя прамысловасці Беларусі складала толькі 100 млн. руб.

На месцы старых халуп — саматужных майстэрань з сярэднявяковым абсталяваннем воляй пролетарыята, кіруемага нашай партыяй, створаны буйныя фабрыкі і заводы, абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі, маючыя агульнасаюзнае значэнне. Такія прадпрыемствы, як Магілеўская фабрыка штучнага шоўку, гомельскі механічны шкляны завод імя Сталіна, віцебская швэйная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», раённая электрычная станцыя імя Сталіна, якая абслугоўвае сваёй энергіяй прамысловасць 3-х буйнейшых цэнтраў Беларусі, дзесяткі іншых буйных фабрык і заводаў — усе гэтыя прадпрыемствы створаны пасля рэволюцыі сіламі рабочага класа і працоўных мас сялянства.

Яшчэ больш здзіўляючыя паказальнікі роста электрыфікацыі. Калі ў 1913 г. магутнасць усіх электрастанцый Беларусі складала, прыкладна, 5 тыс. кілават, дык ужо ў 1927 г. гэта магутнасць дасягнула 14,4 тыс. кілават, а ў 1933 г. электраўзброенасць

БССР дасягае 70 тыс. клв.

У 1913 г. па ўсіх прадпрыемствах Беларусі налічвалася не больш 1.000 рабочых; зараз у прамысловасці Беларусі занята каля 114 тыс. рабочых. Той факт, што ў складзе рабочага класа 62 проц. займаюць рабочыя беларусы, з усёй відавочнасцю сведчыць аб росце нацыянальных кадраў з мясцовага карэннага насельніцтва.

На базе індустрыялізацыі БССР рэзка змяніўся твар сельскай гаспадаркі Беларусі. 52 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак рэспублікі аб'ядналіся ў калгасы. Соцыялістычны сектар сельскай гаспадаркі — соўгасы і калгасы—займаюць 80 проц. усіх зямельных угоддзяў Беларусі. Значна вырасла пасеўная плошча.

У беларускай вёсцы да рэволюцыі жалезны плуг і барана былі здабыткам кулацтва. Беднякі і серадцякі апрацоўвалі свае вузкія жабрацкія палоскі драўлянай сахой і бараной з яловых сукоў. Гэтыя ўбогія «сродкі вытворчасці» складалі тую «самабытнасць», якую ўсхваляла беларуская контррэволюцыйная нацдэмаўшчына.

У гэту вёску прышлі 63 МТС, якія маюць 1.727 трактараў, што складае прыблізна палову ўсёй колькасці трактараў, якія працуюць на палях Беларусі. У вёску ўлілася аграмадная колькасць сельска-гаспадарчых машын, вызваляючых калгаснікаў ад непасільнай, зморваючай працы.

Лозунг т. **Сталіна** аб тым, каб зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі, пранік у самую шырокую гушчу працоўных калгасных мас. Гэты лозунг падняў вытворчую і палітычную актыўнасць беларускай калгаснай вёскі і прывёў да рашучага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, да значнага ўздыму матэрыяльна-бытавога добрабыту калгаснікаў. У гэтым годзе калгаснікі Беларусі атрымалі на працадзень у сярэднім па 3-3$^{1}/_{2}$ кгр. збожжавых і 8-10 кгр. бульбы супроць 1-1,5 кгр. збожжавых і 3-4 кгр. бульбы ў мінулым годзе. У гэтым-жа годзе тысячы калгаснікаў атрымалі на працадзень 7-8 кгр. зернавых і да пуда бульбы.

Развіццё соцыялістычнай эканомікі ў Беларусі забяспечыла адпаведныя поспехі і на культурным фронце. Калі звярнуцца да лічбаў, характарызуючых будаўніцтва соцыялістычнай культуры, дык яны прадстаўляюцца ў наступным выглядзе: у 1913 г. у Беларусі налічвалася да 70 проц. непісьменнага насельніцтва, а ў 1932 г. у БССР **поўнасцю ліквідавана непісьменнасць** і ўведзена ўсеагульнае пачатковае навучанне.

У 1913 г. на тэрыторыі Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы. У 1933 г. у Беларусі налічваюцца дзесяткі ВНУ і ВТНУ і больш 100 тэхнікумаў.

Шырока разгарнулася сетка масавых школ: беларускіх, яўрэйскіх, польскіх, рускіх. Зараз у БССР ёсць 7.131 школа. З гэтай колькасці беларускіх школ — 6.384.

У Беларусі разгарнула вялікую работу Акадэмія Навук з вялікай колькасцю навукова-даследчых інстытутаў па раду галін навукі і тэхнікі. У Беларусі выраслі кадры совецкіх беларускіх вучоных. Сярод іх — буйныя вучоныя з асяродзішча рабочых і калгаснікаў, напісаўшыя рад сур'ёзных прац па самых рознастайных галінах навукі.

Поспехі КП(б)Б у галіне развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі з'яўляюцца яркім паказальнікам трыумфа ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР.

Трэба мець на ўвазе, што нацыянальная палітыка партыі заключаецца не толькі ў мерапрыемствах культурнага парадку, якія ідуць па лініі правядзення беларусізацыі, па лініі стварэння беларускіх школ, выпуску беларускіх кніг, распрацоўкі мовы, нацыянальная палітыка прадстаўляе суму мерапрыемстваў, накіраваных на знішчэнне фактычнай, г. зн. гаспадарчай і культурнай няроўнасці нацыянальнасцяй Саюза рэспублік.

Яшчэ на XII з'ездзе партыі т. Сталін з усёй сілай падкрэсліў значэнне барацьбы за ліквідацыю фактычнай няроўнасці паміж раней панаваўшай нацыяй і раней прыгнечанай нацыяй.

«Неабходна, — гаварыў т. Сталін,— каб апрача школ і мовы, расійскі пролетарыят прыняў усе меры к таму, каб на акраінах, у адсталых у культурных адносінах рэспубліках — а адсталі яны не па сваёй віне, а таму, што іх разглядалі раней, як крыніцы сыраві-

ны—неабходна дабіцца таго, каб у гэтых рэспубліках былі пабудаваны ачагі прамысловасці».

Велізарны рост прамысловасці, уздым сельскай гаспадаркі і культуры ў БССР за гады рэволюцыі сведчыць аб тым, што працоўныя Совецкай Беларусі дабіліся, пры брацкім шчырым падтрыманні з боку Совецкага Саюза, найвялікшых поспехаў у справе будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу.

У асаблівасці трэба падкрэсліць той факт, што **тэмпы развіцця прамысловасці па БССР за пяцігодку былі значна вышэйшыя, чым па Саюзу ў цэлым.** Калі па Саюзу ў цэлым штогодні прырост прамысловай прадукцыі за пяцігодку складаў у сярэднім 21,6 проц., дык па БССР гэты сярэдні штогодні прырост складаў 48 проц. (па прадпрыемствах 4-х наркаматаў).

Вось вам яркая ілюстрацыя трыумфа ленінскай нацыянальнай палітыкі, накіраванай да ліквідацыі фактычнай няроўнасці паміж нацыямі.

Поспехі БССР асабліва рэльефна вырысоўваюцца на фоне эканамічнага крызіса і заняпаду гаспадаркі і культуры ў Заходняй Беларусі, якая знаходзіцца пад ярмом польскага фашызма.

У БССР—трыумф, росквіт соцыялістычнай эканомікі і пролетарскай культуры, рост матэрыяльнага добрабыта шырокіх працоўных мас.

У Заходняй Беларусі—крызіс, збяднеяне, галеча. Пролетарыят і шырокія працоўныя масы сялянства асуджаны на маруднае і пакутнае выміранне.

XVII з'езд ВКП(б) і XV з'езд КП(б)Б партыйныя арганізацыі Беларусі сустракаюць радам буйных перамог у практычным правядзенні генеральнай лініі партыі. У гэтым годзе ў Беларусі раней па тэрмінах і лепш па якасці быў праведзен амаль увесь цыкл сельска-гаспадарчых работ гэтага года. Хлебанастаўкі, адгрузка бульбы пролетарскім цэнтрам выкананы ў тэрмін і поўнасцю.

Нашы памылкі і недахопы своечасова адзначаліся ЦК ВКП(б) і т. СТАЛІНЫМ. Дзякуючы гэтаму нам удавалася правільна мабілізаваць усю партыйную арганізацыю і шырокія працоўныя масы на хуткую ліквідацыю памылак і недахопаў у нашай рабоце.

Яшчэ на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) т. Сталін падкрэсліў, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне паміраючых класаў. «Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады... На гэтай глебе могуць зававяліцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый, эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў, з трацкістаў і правых апартуністаў. Гэта, вядома, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асаблівых ахвяр».

Факты актывізацыі класава-чужых, нацыяналістычных, апартуністычных, трацкісцкіх і іншых антысовецкіх элементаў у Беларусі з усёй відавочнасцю пацвярджаюць правільнасць гэтага геніяльна-глыбокага аналіза, данага тав. Сталіным.

Яшчэ ў мінулым годзе па пытаннях ходу загатовак у Беларусі і па справе настаўніка Сцяпуры, якога праследвалі мясцовыя нацыяналісты за карыстанне рускай мовай у быту, ЦК ВКП(б) вынес канкрэтнае рашэнне, ускрываючае сутнасць і характар памылак КП(б)Б у практычным правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі.

ЦК ВКП(б) тады з усёй рашучасцю падкрэсліў наяўнасць у КП(б)Б гніла-ліберальных адносін да класава-чужых нацдэмаўскіх элементаў, якія зачастую прыкрываліся партбілетам і праводзілі сваю антысовецкую работу пад фальшыва-нацыянальным сцягам. Больш таго. ЦК указаў, што ў Беларусі няма дастатковай большэвіцкай барацьбы за правядзенне асноўных прынцыпаў пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Пасля рашэння аб ходзе загатовак і па справе Сцяпуры КП(б)Б правяла вялікую работу ў галіне выкрыцця і разгрому нацыяналістычных элементаў.

КП(б)Б, як неадрыўная арганічная частка вялікай ВКП(б), расла і загар-

тоўвалася ў барацьбе з ухіламі ад генеральнай лініі партыі, ад ленінскай нацыянальнай палітыкі. Класавы вораг, выбіваемы са сваіх пазіцый, усімі сіламі імкнуўся і імкнецца аказаць шалёнае супраціўленне разгорнутаму наступленню соцыялізма па ўсяму фронту.

У 1933 г. у Наркамасветы, у Наркамземе, Акадэміі Навук было ўскрыта шкодніцтва і астаткі нацдэмаўскіх уплываў. У Наркамземе да апошняга часу пралезшыя ў апарат контррэволюцыйныя нацыяналістычныя элементы па заданню імперыялістычных інтэрвентаў прадаўжалі праводзіць разбітую партыяй палітыку былога наркамзема Прышчэпава, палітыку насаджэння кулацкіх хутароў і рэстаўрацыі капіталізма.

У Наркамасветы нацдэмаўскае ахвосце працягвала ў падручніках і праз школы сваю контррэволюцыйную ідэалогію, расстаўляла па розныя ўчасткі культурнага фронту свае сілы.

За апошні год таксама пачасціліся выпадкі вылазак нацыяналістычных элементаў у літаратуры, тэатры і т. д.

Цяпер даволі выяўлена, што рад былых лідэраў нацыянал-апартунізма ў Беларусі (Ігнатоўскі і інш.) былі прамымі агентамі контрразведак некаторых капіталістычных дзяржаў. Паміж нацыянал-апартуністамі і контррэволюцыйнымі нацыянал-дэмакратамі была самая цесная ідэйная і бытавая сувязь. Стварыўся, такім чынам, адзіны фронт нацыянал-апартуністаў, нацыянал - дэмакратаў, шпіёнаў, накіраваны супроць совецкай улады, супроць большэвікоў.

Таксама як і на Украіне, перакідваліся агенты польскай дэфензывы (Гаўрылюк, Дварчанін, Мятла, Рак-Міхайлоўскі, Бурсевіч і інш.), якія імкнуліся тут, у БССР, стварыць контррэволюцыйны нацыянал-дэмакратычны цэнтр з мэтай звяржэння совецкай улады і ператварэння Беларусі ў калонію заходняэўрапейскіх імперыялістаў.

Паказанні ўдзельнікаў гэтых контррэволюцыйных груповак гавораць, якія шырокія планы будаваліся контррэволюцыянерамі, беларускімі нацыяналістамі, якія прадаліся замежным памешчыкам і капіталістам.

Аказалася, што ўся гэта зграя яшчэ задоўга да прыхода фашызма да ўлады мела непасрэдную сувязь з нямецкімі фашыстамі, мела даволі дэтальна распрацаваную антысовецкую праграму дзеяння. Гэтым контррэволюцыянерам удалося самкнуцца з унутранымі ворагамі, пралезшымі і папаўшымі нават у рады партыі, а ў некаторых выпадках нават на кіруючыя адказныя партыйныя пасты.

Вось чаму задача своечасовага ўскрыцця новых манеўраў класавага ворага ў такім пытанні, як нацыянальнае, дзе зараз адбываецца змыканне беларускіх нацыяналістаў і вялікарускіх шавіністаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, набывае асабліва важнае палітычнае значэнне.

Не выпадкова пленум ЦК КП(б)Б, аб мяркоўваючы пытанні, звязаныя з правядзеннем ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі, прышоў да тых-жа вывадаў, што і пленум ЦК КП(б) Украіны, а іменна, што ва ўмовах Беларусі мясцовы беларускі нацыяналізм з'яўляецца ў даны момант галоўнай небяспекай у галіне нацыянальнага пытання.

Праведзеная чыстка з усёй нагляднасцю паказала, як класавы вораг, прабраўшыся ў КП(б)Б, у блоку з апартуністамі ўсіх масцей тармазіў, а ў некаторых звеннях нават зрываў выкананне задач, якія стаяць перад партарганізацыяй.

Чыстка рашуча ўдарыла па астатках сямейнасці, групоўшчыны і месніцтва, якія меліся ў КП(б)Б. Чыстка дапамагла партарганізацыі і яе кіраўніцтву выявіць новыя кадры большэвіцкага актыва, згуртаваць яго вакол ЦК для далейшай, яшчэ больш паспяховай барацьбы за чоткае своечасовае выкананне ўказанняў ЦК ВКП(б) і правадыра партыі і сусветнага пролетарыята тав. СТАЛІНА.

Зараз КП(б)Б, значна ачысціўшыся ад класавых ворагаў пролетарыята і нашай партыі, больш узмацнілася, загартавалася, што знаходзіць сваё выяўленне ва ўсё больш паспяховым выкананні чарговых задач КП(б)Б, у барацьбе за генеральную лінію партыі.

Асноўнай і важнейшай задачай КП(б)Б, з якою яна прыходзіць да свайго XV з'езда, з'яўляецца далейшая барацьба за поўнае выкананне ўсіх нашых гаспадарча-палітычных кампаній.

Калі ўзяць работу прамысловасці, дык
трэба адкрыта сказаць, што на працягу
апошніх двух год яна не выходзіць з
палясы сур'ёзнага адставання. Невыка
нанне промфінплана каштуе дзесяткі
мільёнаў рублёў нашай пролетарскай
дзяржаве. Асноўнай прычынай невыка-
нання промфінплана з'яўляецца некан-
крэтнасць, дэкларацыйнасць у сістэме
кіраўніцтва прамысловасцю. Партый-
ныя ячэйкі і профсаюзы у сваёй прак-
тычнай рабоце кепска праводзяць 6 гі-
старычных указанняў т. Сталіна—асно-
ву барацьбы за промфінплан.

Рад новых фабрык і заводаў, пабуда-
ваных у першай пяцігодцы, яшчэ не
працуюць на поўную сваю магутнасць.
Гэта тлумачыцца выключна тым, што
комуністы не аўладалі тэхнікай, не па
ставілі ў цэнтры задачу асваення тэх-
нікі новых прадпрыемстваў.

Асабліва важнай задачай КП(б)Б
з'яўляецца далейшая барацьба за соцы-
ялістычную перабудову сельскай гаспа-
даркі, за поўнае выкананне лозунга
т. Сталіна—зрабіць усе калгасы боль-
шэвіцкімі, а ўсіх калгаснікаў заможны-
мі. Перад намі таксама стаіць задача—
рашуча палепшыць работу соўгасаў і
асабліва жывёлагадоўчых. У гэтых ад-
носінах намі пакуль што зроблена мала,
а магчымасці ў нас велізарныя.

БССР яшчэ не выканала сваіх абавя-
зацельстваў перад дзяржавай па здачы
ільнавалакна. Пакуль яшчэ кепска вы-
конваюцца пастановы ЦК аб ліквідацыі
бескароўнасці. Беларусь займае таксама
адно з апошніх месц і ў справе рамонту
трактароў. Апошні пленум ЦК КП(б)Б
прыняў рад канкрэтных рашучых мер,
якія, безумоўна, павінны забяспечыць
поўнасцю к з'ездам партыі выкананне
гэтых задач.

Далейшае ажыццяўленне ленінскай
нацыянальнай палітыкі партыі ставіць
перад КП(б)Б задачу рашучай барацьбы
за баявы пролетарскі інтэрнацыяналізм
ва ўсёй нашай рабоце.

Мы ні ў якай меры не можам спыніц
ца на дасягнутых поспехах. Росквіт на
цыянальнай па форме і соцыялістычнай
па зместу культуры высоўвае перад на
мі задачу паляпшэння ўсёй нашай ра-
боты па ўсіх без выключэння звеннях
нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

Рашаючым звяном у барацьбе за ле-
нінскую нацыянальную палітыку з'яў-
ляецца праблема далейшага вырошчван
ня новых большэвіцкі-праверапых про-
летарскіх кадраў з нацыянальнасцяй ка
рэннага насельніцтва і ў першую чаргу
з ліку беларусаў. У гэтых адносінах
праробдена ўжо вялікая работа. Але
трэба сказаць, што яна яшчэ ўна не-
дастаткова. Паляпшэнне работы навуко
вых арганізацый, органаў Наркамасве-
ты, паляпшэнне работы тэатраў, кіно
і т. д.—усё гэта настойна патрабуе ад
нас падрыхтоўкі большэвіцкі-вытрыма-
ных, правераных кадраў.

***

КП(б)Б к свайму XV з'езду і к XVII
з'езду ВКП(б) прыходзіць з велізарней
шымі дасягненнямі ва ўсіх без вы-
ключэння галінах соцыялістычнага бу-
даўніцтва. Гэта акалічнасць высоўвае
перад намі задачу рашуча і хутка лік-
відаваць тыя недахопы, якія яшчэ
ёсць у нашай рабоце. Для іх ліквідацыі
ў нас ёсць усе ўмовы.

Рашаючым звяном у барацьбе за ле-
ку і самакрытыку, рашуча выкарчоўва-
ючы сямейнасць, месніцтва, якія яшчэ
маюць месца ў паасобных звеннях
КП(б)Б, рашуча зжываючы славесна-дэ
кларацыйныя адносіны да правядзення
генеральнай лініі нашай партыі, перама
гаючы канцылярска-бюракратычныя ме
тады кіраўніцтва, мы здолеем забяспе-
чыць у нашай рабоце большэвіцкую апе
ратыўнасць, канкрэтнасць. На аснове
правільнай расстаноўкі людзей і сапраў
днага знання справы ва ўсіх звеннях
партыйных, совецкіх і гаспадарчых ор-
ганаў мы здолеем хутка ліквідаваць на
шы недахопы.

Асноўнай зарукай да гэтага з'яўляец-
ца далейшая, яшчэ больш непрымпры-
мая барацьба за генеральную лінію пар
тыі, за ленінскую нацыянальную палі-
тыку, КП(б)Б яшчэ вышэй падыме
сваю рэволюцыйную пільнасць, яшчэ
больш згуртуе свае рады вакол ленін-
скага ЦК і правадыра партыі т. СТА-
ЛІНА.

# ГІСТАРЫЧНЫЯ ДАТЫ

15 з'езд КП(б)Б супадае з пятнаццацігоддзем першага з'езда КП(б)Б, супадае з пятнаццацігоддзем існавання Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і 10-годдзем з дня смерці Уладзіміра Ільіча Леніна.

Рабочы клас і шырокія працоўныя масы пад кіраўніцтвам партыі ЛЕНІНА-СТАЛІНА скінулі ярмо памешчыкаў і капіталістаў і ўстанавілі дыктатуру пролетарыята.

Окцябрская рэволюцыя раз і назаўсёды пакончыла з палітычнай няроўнасцю нацыянальнасцяй, якія раней прыгняталіся царскім самаўладствам. Партыя большэвікоў, вырашыўшы правільна нацыянальнае пытанне, адкрыла перад народамі вялікага СССР нечуваныя перспектывы для эканамічнага і культурнага будаўніцтва.

Стварэнне БССР ёсць рэзультат правільнага ленінскага вырашэння нацыянальнага пытання, ёсць рэзультат гераічнай перамогі пролетарыята над памешчыкамі і капіталістамі.

15 год працоўныя БССР пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і правадыра сусветнага пролетарыята тав. СТАЛІНА, у брацкім саюзе і пры дапамозе пролетарыяў усяго СССР, пераможна ідуць ад перамогі да перамогі, будуюць новае светлае, імя якому соцыялізм.

Праходзіўшыя перад з'ездам партыйныя канферэнцыі і падрыхтоўка да XVII з'езда ВКП(б) з усёй яркасцю лішні яшчэ раз прадэманстравалі тыя велізарнейшыя перамогі, якія атрыманы партыяй і рабочым класам.

«Надыходзячы XVII з'езд ВКП(б), наперакор шалёнай злобе гінучага капіталістычнага света, наперакор супраціўленню класавых ворагаў нашай краіны і іх агентуры ў радах партыі—правых і «левых» апартуністаў, контррэволюцыйнага трацкізма, з'яўляецца лепшым доказам для працоўных усяго света, што рабочы клас не толькі руйнуе, але стварае лепшае, нечуванае ў параўнанні з капіталістычным светам. XVII з'езд партыі з'яўляецца выражэннем волі рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных нашай вялікай Совецкай краіны, іх гераічным падтрыманнем у ажыццяўленні вялікіх ідэй ЛЕНІНА, ідэй СТАЛІНА ў справе пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, у справе ператварэння нашай краіны ў аплот, ў несакрушальную цвярдыню сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

XVII з'езд з'явіцца дэманстрацыяй тых найвялікшых дасягненняў і перамог соцыялізма ў краіне Советаў, якія кожны край, вобласць, рэспубліка, кожная партыйная арганізацыя, кожны рабочы, кожны калгаснік з любоўю, з небывалым энтузіязмам і натхненнем нясе сваёй роднай большэвіцкай партыі ў асобе яе з'езда» (ТІКАЛО).

Вучэнне Леніна-Сталіна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне гераічны авангард рабочага класа—Комуністычная партыя ператварыла ў рэальную матэрыяльную сапраўднасць. Совецкая Беларусь, як неадлучная састаўная частка вялікага СССР, ператварылася ў магутную індустрыяльна-аграрную рэспубліку.

Буйнейшыя перамогі, атрыманыя нашай партыяй у будаўніцтве соцыялізма ў краіне, забяспечылі росквіт эканомікі і культуры ў Совецкай Беларусі. Няма і не можа быць ніякіх параўнанняў паміж старой царскай Беларуссю, калоніяй рускага самаўладства і Беларуссю Совецкай, якая дзякуючы кіраўніцтву партыі, дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы, геніяльна праводжанай тав. СТАЛІНЫМ, забяспечыла ўздым эканомікі і пролетарскай культуры і дабрабыт шырокіх працоўных мас.

Праілюструем некаторымі лічбовымі данымі. Валавая прадукцыя прамысловасці БССР у 1930 годзе вызначаецца ў 1.030 млн. руб., а ў 1913 годзе ўся прадукцыя прамысловасці Беларусі складала толькі 100 млн. рублёў. Аб'ём прамысловай прадукцыі параўнальна з 1913 годам вырас у дзесяць раз. Колькаснасць рабочага класа вырасла з 13.000 чал. у 1913 годзе да 114.000 у 1933 годзе.

Яшчэ больш знамянальны паказальні

кі росту электрыфікацыі. Калі ў 1913 годзе магутнасць усіх электрастанцый БССР складала прыкладна 5.000 кіловат, дык ужо ў 1927 годзе гэта магутнасць дасягнула 14.4 тыс. кіловат, а ў 1933 годзе электраўзброенасць БССР дасягае 70.000 кіловат.

За годы рэволюцыі пабудаваны такія гіганты прамысловасці, як фабрыка штучнага валакна ў Магілеве, механізаваны шклозавод у Гомелі, буйнейшы цэментны завод у Крычаве, раённая электрастанцыя імя Сталіна ў Оршы і т. д.

На базе росту індустрыялізацыі карэнным чынам змяніўся твар сельскай гаспадаркі. 52 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак аб'яднаны ў калгасах. Соцыялістычны сектар сельскай гаспадаркі займае 80 проц. усіх зямельных угоддзяў Беларусі. Значна выралі пасеўныя плошчы.

Карэнным чынам змянілася тэхніка сельскай гаспадаркі. Соўгасныя і калгасныя палі ўсеяны навейшымі складанымі і поўскладанымі с.-г. машынамі. 63 МТС з трактарным паркам звыш 1.700 трактараў, аграмадная колькасць іншых с.-г. машын аж да камбайнаў—вось рэзультаты тэхнічнай узброенасці сельскай гаспадаркі.

На базе развітай экономікі расце і пролетарская культура. Зараз у Беларусі налічваецца 19 ВНУ і ВНТУ і 45 розных навукова-даследчых інстытутаў. У Беларусі разгарнула вялікую работу Акадэмія навук. БССР першай у Саюзе ўвяла ўсеагульнае навучанне і поўнасцю ліквідавала непісьменнасць. Значна вырасла колькасць вучняў ва ўсіх без выключэння звеннях.

Вырасла і літаратура. Зараз у БССР налічваецца 75 гарадскіх і раённых друкаваных газет з разавым тыражом у 298 тыс. экземпляраў. Тыраж цэнтральных беларускіх газет складае 297.500 экз. Агульны тыраж газет па Беларусі складае 775.434 экземпляры.

Усе гэтыя перамогі не прыйшлі самацёкам. Усе яны даліся ва ўпартай працы, суправаджаючыся разгорнутай барацьбой з класавым ворагам і яго агентурай. Ушчэнт разбіты ў адкрытым баі класавы вораг не раз прабаваў свае подлыя здрадніцкія дзеянні, свой контррэволюцыйны інтэрвенцыянісцкі твар прыкрыць пад фальшыва-нацыянальным сцягам. Дзейнічаючы пад фальшыва-нацыянальным сцягам, прымяняючы тактыку «ціхай сапы», ён пускаў карэнні ўсюды, дзе партарганізацыі трацілі сваю класавую пільнасць.

Іменна ў барацьбе з апартунізмам, з шавінізмамі розных масцей і адценняў, у барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам і астаткамі дробна-буржуазных партый расла і загартоўвалася КП(б)Б.

Нашы поспехі ёсць рэзультат таго, што КП(б)Б быстра і аператыўна выпраўляла асобныя недахопы, якія падмячаліся ЦК ВКП(б) і тав. СТАЛІНЫМ.

Дасягнутыя намі поспехі абавязваюць нас да таго, каб яшчэ больш энергічна, больш шпарка ліквідаваць паасобныя недахопы, якія ёсць у нашай практычнай рабоце. «Мы адкрыта гаворым — нашы поспехі яшчэ недастатковы. Яны маглі-б быць яшчэ большымі, калі-б КП(б)Б, яе ЦК не дапусцілі раду памылак у сваёй практычнай рабоце, на якія ў свой час ленінскі ЦК ВКП(б) заастрыў увагу і дапамог нам іх выправіць.

Мы маем усе даныя для таго, каб канчаткова ліквідаваць якое-б там ні было адставанне на ўсіх участках практычнай работы як у галіне сельскай гаспадаркі, у асабліvасці па ільназагатоўках, лесавывазцы, так і ў галіне прамысловасці, па ажыццяўленню задач партыі па выпуску лепшай якасці і ў большай колькасці тавараў шырспажыву, а таксама ў галіне культурнай і ў справе далейшага паляпшэння матэрыяльна-бытавога становішча рабочых і калгаснікаў.

Мы маем усе даныя, каб поўнасцю ажыццявіць лозунг правадыра партыі тав. СТАЛІНА аб тым, каб зрабіць усе калгасы большэвіцкімі і калгаснікаў заможнымі» (ГІКАЛО).

На большэвіцкі друк, як на вастрэйшую зброю нашай партыі, ускладзены выключна вялікія і адказныя задачы. Апублікаваныя тэзісы па дакладах т. т. Молатава, Куйбышэва, Кагановіча даюць разгорнутую праграму работы для ўсёй партыйнай арганізацыі і для нашага друку.

Выканаць указанні ЛЕНІНА аб тым, што друк з'яўляецца не толькі калектыўным прапагандыстам, агітатарам, але і калектыўным арганізатарам,—баявая практычная задача для кожнай га-

зеты, для кожнага рабкора.

Тав. СТАЛІН не раз падкрэсліваў, што друк з'яўляецца магутнай зброяй нашай партыі, пры дапамозе якой яна гаворыць з рабочым класам на роднай, зразумелай для яго мове. Тав. Сталін з выключнай пераконанасцю паказаў арганізуючую ролю нашага друку і намеціў баявую праграму для яго работы. Публікуемыя ў сёнешнім нумары матэрыял аб рабоце паасобных газет сведчыць, што гэтыя практычныя глыбокай важнасці ўказанні не заўсёды яшчэ перат вараюцца паасобнымі газетамі ў жыццё.

Арганізаваць масы, сапраўды на практыцы пабольшэвіцку выканаць лозунг уцягнення мільёнаў ударнікаў у работу нашага друку з'яўляецца пярвейшым абавязкам кожнай газеты. Лозунг — «Кожны ўдарнік—рабселькор і кожны рабселькор—ударнік»—павінен быць асабліва востра пастаўлен зараз ва ўсёй практычнай рабоце газет.

Друк зможа выканаць ускладзеныя на яго задачы толькі пры той умове, калі яшчэ мацней, яшчэ з большай непрымірымасцю будзе змагацца за генеральную лінію партыі, супроць усякіх спроб апартуністаў і шавіністаў затармазіць наш пераможны рух наперад. Для гэтага асноўнай умовай з'яўляецца павышэнне большэвіцкай пільнасці. Выкрытая нядаўна контррэволюцыйная нацдэмаўская арганізацыя ў Беларусі з усёй яркасцю сведчыць, як класавы вораг, карыстаючыся прытупленнем класавай пільнасці з боку паасобных комуністаў, праводзіў сваю антысавецкую работу. Ён асабліва імкнуўся скарыстаць у сваіх контррэволюцыйных мэтах друк. І трэба сказаць, гэта яму ўдавалася там, дзе кіраўнікі страцілі рэволюцыйную пільнасць.

Беларуская нацдэмаўшчына на ўсіх сваіх стадыях барацьбы супроць Саветаў трымала стаўку на адрыў БССР ад Совецкага Саюза. Для працоўных мас Беларусі гэты адрыў азначае зварот пад уціск капіталістаў і памешчыкаў, гэты адрыў азначае ператварэнне Беларусі ў калонію імперыялістаў, у дзейсны фарпост сусветнай контррэволюцыі. Вось чаму снежаньскі пленум ЦК КП(б)Б вынес рашэнне аб тым, што «вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Совецкага Саюза і ўсей ВКП(б), але гэта ні ў якай меры не супярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі. Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на цяперашнім этапе блакуюцца паміж сабой на агульнай плацформе адрыва БССР ад СССР для аслаблення пазіцый СССР і ўмацавання пазіцый капіталізма».

Абавязковай умовай далейшых перамог у будаўніцтве соцыялізма з'яўляецца поўны разгром беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызма, узмацненне барацьбы з вялікадзяржаўнымі шавіністамі і рашучае павышэнне рэволюцыйнай пільнасці на ўсіх участках нашай работы.

На XVI партыйным з'ездзе тав. Сталін гаварыў, што «перыяд дыктатуры пролетарыята і будаўніцтва соцыялізма ў СССР ёсць перыяд росквіту нацыянальных культур соцыялістычных па зместу і нацыянальных па форме». На практыцы існавання Совецкай Беларусі гэта ўстаноўка тав. Сталіна цалкам і поўнасцю пацвердзілася.

Росквіт экономікі і культуры Совецкай Беларусі ёсць рэзультат неаслабнага кіраўніцтва і дапамогі з боку ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна. Ён з'яўляецца рэзультатам безупыннай барацьбы КП(б)Б і яе ЦК на чале з тав. ГІКАЛО за генеральную лінію.

Пад сцягам пролетарскага інтэрнацыяналізма і далейшага павышэння большэвіцкай пільнасці, пад сцягам барацьбы за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства, пад сцягам барацьбы за генеральную лінію партыі праводзіць свае работы XV з'езд КП(б)Б. Мабілізацыя мас на заваяванне далейшых перамог у справе будаўніцтва соцыялізма, на барацьбу за генеральную лінію нашай партыі з'яўляецца пярвейшай задачай нашага большэвіцкага друку.

І няма сумнення ў тым, што большэвіцкі друк пад выпрабаваным кіраўніцтвам партыі гэтыя задачы выканае з гонарам.

# Моваю канкрэтных спраў

## „Большэвік ільнаводства“ —газета палітаддзела Дрысенскай МТС

Першыя нумары газеты з матэрыяламі пра падрыхтоўку да з'езду партыі нельга прызнаць удачнымі. Прыклад —нумар за 12 снежня. Над першай паласой дана вялікая «шапка»: «Сустрэць 15 з'езд КП(б)Б і 17-ы з'езд ВКП(б) з новымі перамогамі». Матэрыялу-ж пра падрыхтоўку калгасаў МТС да з'езда ў нумары змешчана зусім мала: самаабавязацельства калгасаў з калгаса імя **Варашылава** і некалькі радкоў у перадавым артыкуле — вось і ўсё.

Перадавы артыкул «Узняць большэвіцкую пільнасць на барацьбу за выкананне пастаўленых партыяй задач» не зусім канкрэтны, невыразны. Асноўны яго недахоп у тым, што ў ім **адразу** гаворыцца амаль пра **ўсе** задачы, што стаяць зараз перад партыяй на вёсцы. Атрымалася павярхоўна, «аб усім па трысе». Газета, напрыклад, заяўляе, што «засыпка насенных фондаў у калгасах пушчана на самацёк». Гаворыцца пра ўсе калгасы агулам, невядома, якія адстаюць, якія ўперадзе, хто кіраўнікі гэтых калгасаў. Таксама агульна, між іншым закранае газета і пытанні рамонта трактароў, размеркаваиня ўраджаю, ільназагатовак. Толькі ў канцы артыкула ўспамінаецца пра з'езд ВКП(б): «усю работу праводзіць пад лозунгам — прыйсці да 17-га з'езда ВКП(б) з яшчэ большымі поспехамі на фронце сацбудаўніцтва». Адразу відаецца ў вочы, што канчатак штучна прыроблены да артыкула.

Але ў наступных нумарах «Большэвік ільнаводства» рашуча выпраўляе свой недахоп: падрыхтоўку да з'езду партыі газета пераводзіць **на мову канкрэтных спраў.** Вось нумар за 20 снежня. Асноўны змест яго — падрыхтоўка да веснавой сяўбы. На першай і другой старонках нумара змешчана 8 заметак, якія даюць малюнак хода падрыхтоўкі да сяўбы ў радзе калгасаў. Паказаны перадавікі і адстаючыя.

Брыгада селькораў паведамляе, што ў калгасе **«Ленінскі шлях»** з поспехам разгортваецца паход імя 17 з'езда ВКП(б). У якасці падарунка з'езду калгас здаў дзяржаве звыш плана 80 цэнтн. ільнатрасты. Калгаснікі калгаса імя **Максіма Горкага** ў лісце начальніку палітаддзела т. Плаўніку паведамляюць аб поспехах калгаса ў падрыхтоўцы да з'езду партыі. Калгас і па колькасці і па якасці значна перавыканаў план ільназагатовак.

Тут-жа побач у карэспандэнцыях паказваюцца і тыя калгасы, якія адстаюць у вытворчым паходзе імя 17-га з'езда партыі. Газета піша пра калгас **імя Красіна,** які яшчэ не прыступіў да рамонта інвентара, і калгас **«Большэвік»,** дзе насенная калюшына ляжыць пад снегам і т. д. Так газета палітаддзела цесна звязвае пытанні падрыхтоўкі да гістарычных з'ездаў нашай партыі з важнейшымі задачамі, якія зараз стаяць перад калгасамі.

У наступным нумары за 1 студзеня газета прадаўжае змяшчаць матэрыялы аб тым, як ідзе падрыхтоўка да з'ездаў партыі. Гэтымі матэрыяламі запоўнены амаль цалкам усе чатыры старонкі павялічанага ўдвая нумара. Старшыні калгасаў, калгаснікі і калгасніцы, ударнікі, жывёлаводы расказваюць на старонках газеты палітаддзела пра тое, з чым прыходзяць іх калгасы да з'ездаў партыі, якія рыхтуюцца падарункі.

У гонар 17-га партз'езда калгас **«Комінтэрн»** звыш плана здаў дзяржаве 120 цэнт. добраякаснай ільнатрасты і выклікаў на спаборніцтва іншыя калгасы сельсовета. На агульным сходзе калгаснікі вылучылі сваіх лепшых ударнікаў т. т. Крупеню, Лысенку і інш. для дапамогі Цестоўскаму сельсовету ў завяршэнні ільназагатовак. Па-баявому сустракае з'езды партыі і калгас **«Пацігодка»:** рыхтуецца чырвоны абоз з валакном і трастою звыш плана, арганізован паліттурток для калгаснікаў

Паданыя вышэй матэрыялы толькі невялікая частка з вялікай масы заметак пра падрыхтоўку да з'ездаў партыі, змешча-

ных у нумары за 4 студзеня. З-за недахвату месца шэльга спыніцца на заметках **Шчаснай** Наталы калгасніцы з калгаса імя Будзённага, **Рынга Я.** — жывёлавода калгаса «Ленінскі шлях», **Скробавай** Кацярыны з комуны імя Леніна і інш. — усе яны расказваюць пра дасягненні іх калгасаў, пра светлае, радаснае сваё жыццё і пра тое, як рыхтуюцца яны да з'езда партыі.

«Большэвік ільнаводства» ў двух сваіх апошніх нумарах узяў правільны напрамак у справе падрыхтоўкі калгасаў раёна дзейнасці МТС да з'езду партыі. Трэба зрабіць «Большэвіку ільнаводства» толькі дзве заўвагі. Газеце неабходна ў бліжэйшых-жа нумарах узяць галоўны ўпор на **праверку выканання самаабавязацельстваў,** узятых калгасамі ў сувязі з набліжэннем з'езду Ні аднаго невыканапага самаабавязацельства не павінна быць. **«Большэвіцкае слова — закон»**—такі лозунг надрукавала газета на ўвесь разварот нумара за 4 студзеня і яна павінна дабіцца яго поўнага ажыццяўлення. І другая заўвага—да гэтага часу газета яшчэ не надрукавала ні аднаго артыкула папулярызуючага пытанні, якія будуць ставіць на 17-м з'ездзе партыі, таму ў бліжэйшых-жа нумарах «Большэвік ільнаводства» павінен змясціць некалькі такіх артыкулаў, на зразумелай мове растлумачыць калгаснікам апублікаваныя тэзісы к дакладам т. т. Молатава і Кагановіча. Інакш кажучы, грандыёзныя і складаныя задачы, якія будзе вырашаць 17-ты з'езд ВКП(б) і 15 з'езд КП(б)Б, **павінны быць праз газету палітаддзела даведзены да кожнага калгасніка і працоўнага аднаасобніка.**

# АРГАНІЗАТАР МАСАВАГА ВЫТВОРЧАГА ПАХОДА

## „ПРЫМЕЖНЫ КАЛГАСНІК“

**Орган Ушацкага райкома КП(б)Б РВК і РПС**

Газета па-баявому разгортвае падрыхтоўку да XVII з'езда партыі. У кожным яе нумары змяшчаецца шмат матэрыялаў аб падрыхтоўцы да з'езда.

Пад лозунгам: **«Рабселькоры-ўдарнікі! Давадзіце да шырокіх мас пастановы свайго раённага злёта»** — газета ад **3 снежня** дае справаздачу рабселькораўскага раённага злёта.

500 лепшых рабселькораў-удзельнікаў райзлёта ўключыліся ў вытворчы паход імя XVII з'езда партыі і ўзялі на сябе абавязкі: уключыцца ў рэйд праверкі становішча апрацоўкі і загатовак ільнавалакна, з тым, каб да 15 снежня поўнасцю выканаць план па валакну і не ніжэй як 10 нумарам, праверыць становішча засыпкі насенных і страхавых фондаў і забяспечыць кожны калгас і вытворчую брыгаду штодзеннай насценгазетай.

**5-га снежня** «Прымежны комунар» змяшчае паведамленне калгаса «Чырвоны барацьбіт» (Глыбацкі сельсовет) аб тым, што загатоўкі ільну калгас выканаў. Зараз у калгасе шырока разгорнута работа па падрыхтоўцы да вясны. Змяшчае карэспандэнцыю з калгаса «Будаўнік», які поўнасцю разлічыўся з дзяржавай, закончыў ссыпку насеннага і страхавога фонда. У калгасе працуе спецыяльная брыгада па рамонту інвентара. Створан самы лепшы догляд каня, коні кормяцца 4 разы ў дзень і пояцца 3 разы. Змешчаны лісты з іншых калгасаў раёна, ліст аднаасобнікаў в. **Мосар,** якія ўжо ссыпалі насенны і страхавы фонды.

**8 снежня** газета паведамляе, што перадавыя калгасы раёна арганізавалі чырвоныя абозы **імя XVII партз'езда,** што агульны сход комсамольцаў калгаса «Чырвоны Окцябр» рашыў 14 снежня арганізаваць чырвоны комсамольскі абоз з ільном імя 15-годдзя ЛКСМБ і XVII з'езда ВКП(б), арганізаваць агратэхгурток і ўцягнуць у яго 70 проц. калгаснікаў і прасіць выпусціць раённы значок **«Гатоў к барацьбе за высокі ўраджай».**

У гэты-ж дзень газета змяшчае **ліст 80 селькорак-ударніц** — удзельнікаў раённага злёта рабселькораў, якія ўзялі на сябе абавязацельства арганізаваць соцспаборніцтва паміж калгасніцамі па наладжанню кругласутачнай работы мяльна-сушыльных пунктаў і трапальшчыкаў ільну, на правільнае сартаванне ільну па нумарах, на лепшую падрыхтоўку да вясны 1934 года.

Так газета на сваіх старонках разгортвае і арганізуе падрыхтоўку да XVII з'езда партыі.

# У ХВАСЦЕ МАС

## Больш адказнасці комуністаў




Жлобінская райгазета **«Шлях сацыялізма»** упершыню загаварыла пра набліжэнне 17 з'езда ВКП(б) і 15 з'езда КП(б)Б у нумары за 2 снежня. На ўсю першую старонку гэтага нумара надрукавана «шапка»: «Вытворчы паход імя 17 з'езда адзначым ударнаю апрацоўкаю і поўным выкананнем загатовак прадукцыі ільна і канапель у тэрмін». Калі верыць гэтай «шапцы», дык у Жлобінскім раёне ўжо разгарнуўся вытворчы паход імя 17 з'езда ВКП(б). Але дарэмна шукаць у матэрыялах гэтага нумара хоць-бы адзін радок пра вытворчы паход. Ні адной заметкі не змешчана пра тое, як паход праходзіць, што практычна робіцца. Больш таго, газета апрача «шапкі» больш у гэтым нумары нават не ўспамінае пра з'езды партыі. Здарыўся звычайны ў практыцы жлобінскай газеты выпадак—«шапка» аказалася не ў ладах з тэкстам.

У наступным нумары амаль тая-ж гісторыя—пра з'езд ВКП(б) гаворыцца **толькі ў «шапцы»**. Перадавы артыкул нумара прысвечан падрыхтоўцы да вясны, засыпцы насенфондаў, рамонту інвентара і т. д. Але газета нават і не імкнецца ўвязаць усе гэтыя пытанні з надыходзячымі партыйнымі з'ездамі.

Перагортваеш нумар за нумарам, жадаючы, нарэшце, убачыць хоць-бы невялічкае паведамленне, што-ж робіцца ў парт'ячэйках Жлобіншчыны па падрыхтоўцы да з'ездаў партыі, як працоўныя раёна рыхтуюцца сустракаць гістарычнай важнасці дні, калі будуць працаваць 17 з'езд ВКП(б) і 15 з'езд КП(б)Б. Але «Шлях сацыялізма» ўпарта не жадае аб гэтым гаварыць.

Нарэшце, 10-га снежня газета надрукавала артыкул, спецыяльна прысвечаны падрыхтоўцы да з'езда. Называецца артыкул «Прафсаюзы павінны па-баявому сустрэць 17 з'езд партыі». На працягу сотні радкоў аўтар гэтага артыкула «вызначыў задачы» ў падрыхтоўцы да з'езда перад усімі прафсаюзамі, якія толькі ёсць па Жлобіншчыне, перад калгаснікамі, чыгуначнікамі і т. д. Артыкул складзен са збітых шаблонаў. Прыкладам можа служыць хоць-бы наступнае месца:

> **«Мы павінны яшчэ з большым энтузіязмам, яшчэ з большай напружанасцю працаваць з тым, каб да 17 з'езда партыі канчаткова ліквідаваць маючыйся недахоп у нашай рабоце, на выт ворчасці, у мясцкомах».**

Што гэта за недахопы, на якіх прадпрыемствах, у якіх калгасах, па чыёй віне—аб усім гэтым рэдакцыя «Шлях сацыялізма» лічыць непатрэбным гаварыць. Але ў гэтым-жа і заключаецца **галоўнае.** Падрыхтоўка да з'езда партыі павінна праходзіць пад знакам рашучага паляпшэння работы ўсіх звенняў народнай гаспадаркі і нашай краіны. Задача гэта—дапамагчы партарганізацыям, працоўным масам знайсці канкрэтныя недахопы ў кожным прадпрыемстве, соўгасе і калгасе, арцелі і дапамагчы іх ліквідаваць. А якую карысць прынеслі, напрыклад, наступныя радкі з таго-ж артыкула ў «Шляху сацыялізма» за 10 снежня:

> **«Прафарганізацыі чыгункі ў часе падрыхтоўкі да 17 партыйнага з'езда павінны забяспечыць поўнае выкананне кантрольных лічб па асення-зімовых перавозках, змагацца за здаровы паравоз, здаровы вагон, ліквідаваць паўторныя рамонты»** і т. д. і т. д.

Калі ў іх ні слова пра тое, як-жа працуе буйны Жлобінскі чыгуначны вузел, у якім становішчы паравозная і вагонная гаспадаркі, ні слова аб тым, як чыгуначнікі рыхтуюцца да партыйных з'ездаў. Агульнымі фразамі жлобінская газета падмяніла сваю першачарговую справу—**барацьбу за сустрэчу 15 і 17 з'ездаў канкрэтнымі справамі, новымі вытворчымі перамогамі.**

**Да 19 снежня газета не змясціла ні аднаго водгука з месц на паведамленні ПК**

ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб з'ездах партыі. І толькі ў нумары за 19 студзеня чытаем у «Шляху соцыялізма» першыя водгукі «У гонар 17 партз'езда» называецца заметка з калгаса **імя Войкава** пра падрыхтоўку да 17 з'езда партыі. 15 пунктаў, уключаюць у сябе самаабавязацельствы калгаснікаў. Але справа ў тым, што большасць гэтых самаабавязацельстваў, згодна пастановы схода калгаснікаў, павінны былі быць выкананы **значна раней, чым надрукавана заметка.** Выканаць планы ільназагатовак калгаснікі калгаса імя Войкава абавязаліся **да 14 снежня,** да **15 снежня** яны абавязаліся засыпаць насенне, **да 12**— ацяпліць свінарнік і т. д. Газета-ж змяшчае гэтыя абавязацельствы **19 снежня,** гэта тады, калі трэба было **правяраць,** як яны выкананы. Даны факт гаворыць аб **адсутнасці аперацыйнасці** ў рэдакцыі жлобінскай газеты, аб **недапушчальным эдставанні газеты ад жыцця,** ад практычных спраў, што робяцца ў раёне. Газета «Шлях соцыялізма» не ўзначаліла творчага ўздыма працоўных мас Жлобіншчыны, выкліканага набліжэннем з'ездаў партыі, і па сутнасці **цягнецца ў хвасце мас,** задняй датай фіксуючы падзеі.

Да гэтага ганебнага становішча рэдакцыю газеты «Шлях соцыялізма» прывяло неразуменне ўсёй велізарнай важнасці, якую мае баявая падрыхтоўка партыйнай арганізацыі і працоўных мас да з'ездаў партыі. Гэта пацвярджаецца і той **зусім малой** колькасцю матэрыялаў, што змяшчаюцца ў газеце, і іх надзвычай **нізкай** якасцю. У той час, калі газета павінна была ўсе свае матэрыялы, усе падборкі прысвяціць іменна падрыхтоўкай да з'ездаў партыі, яна калі-ні-калі змяшчае агульныя шаблонныя артыкулы і заметкі і даўно пратэрмінаваныя самаабавязацельствы.

## НЕДАПУШЧАЛЬНАЯ БЯЗДЗЕЙНАСЦЬ

«Калгаснік кармяншчыны»—прыклад недапушчальных адносін да падрыхтоўкі да XVII з'езда ВКП(б). За ўвесь снежань «Калгаснік кармяншчыны» абмежаваўся адным перадавым артыкулам «Семнаццатаму з'езду партыі — большэвіцкую сустрэчу» (10 снежня), паведамленнямі аб уключэнні ў вытворчы паход імя XVII з'езда партыі парткалектыва Спрукачэўскай ШКМ (13 снежня), настаўнікаў Карацкаўскага сельсовета, мясцкома ўдарнай ШКМ і Ворнаўскага сельсовета. Вось і ўся работа кармянскай райгазеты па разгортванню вытворчага пахода імя XVII партз'езда, па арганізацыі новага вытворчага ўздыма ў сувязі з падрыхтоўкай да з'езда.

Гэта сведчыць аб адным: выконваючы абавязкі рэдактара газеты, тав. С. Гуркоў не разумее і недаацэньвае велізарнай палітычнай важнасці арганізацыі працоўных мас на ўдарную падрыхтоўку да XVII з'езда нашай партыі, не разумее ролі газеты ў гэтай справе.



А. ІОФФЕ.



# НА ЗАЎТРА ПАСЛЯ ЧЫСТКІ

Чыстка КП(б)Б скончана. На снежаньскім пленуме ЦК КП(б)Б былі падведзены вынікі чысткі. У выніку чысткі ўмацаваліся партыйныя арганізацыі на прадпрыемствах, выраслі і ўмацаваліся партыйныя арганізацыі вёскі. Чыстка падняла новую магутную хвалю актыўнасці партыйных і беспартыйных мас. У выніку падняцця гэтай вытворчай актыўнасці значна палепшылася выкананне прамфінплана па цэламу раду галін прамысловасці, палепшылася правядзенне чарговых сельскагаспадарчых кампаній у вёсцы.

Пленум ЦК у рэзалюцыі аб выніках чысткі адзначыў рад недахопаў, выяўленых чысткай. Адным з істотных недахопаў з'яўляецца тое, што «ПАРТЫЙНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ КП(б)Б НЕДАСТАТКОВА ПЕРАБУДАВАЛІ ПАРТРАБОТУ Ў АДПАВЕДНАСЦІ З ЗАДАЧАМІ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА. ПАРТЫЙНАМАСАВАЯ РАБОТА Ў ГОРАДЗЕ І Ў АСАБЛІВАСЦІ НА ВЁСЦЫ ДА ГЭТАГА ЧАСУ НЕ ЎЗНЯТА НА НАЛЕЖНУЮ ВЫШЫНЮ».

З гэтага ўказання пленума ЦК зусім выразна задача друку. Яна заключаецца ў тым, каб дапамагчы партыйным арганізацыям у перабудове партыйна-масавай работы, каб праз газету ўзяць пад грамадскі кантроль выкананне ўказанняў камісій па чыстцы.

Мы знаходзімся ў сучасны момант у паласе значна ўзросшай актыўнасці партыйных арганізацый, рабочых і калгаснікаў у сувязі з падрыхтоўкай да XVII з'езда партыі. Друк павінен развіць максімальную актыўнасць, ініцыятыву, павінен паказаць сапраўдныя большэвіцкія ўзоры арганізацыі агітацыі і прапаганды. Шырока паказваючы станоўчы вопыт замацавання вынікаў чысткі, энергічна змагаючыся з фармальна-бюракратычнымі адносінамі да ўказанняў камісій па чыстцы, друк гэтым самым адыграе аграмадную ролю ў паляпшэнні работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

## „ЧЫРВОНАЯ ПОЛАЧЧЫНА"

—ОРГАН ПОЛАЦКАГА РАЙКОМА КП(б)Б, РАЙВЫКАНКОМА І РАЙПРАФСОВЕТА

У другой палове кастрычніка і ў лістападзе 1933 г. «Чырвоная Полаччына» аддае вялікую ўвагу замацаванню вынікаў чысткі. 27 кастрычніка газета дае перадавы артыкул на гэту тэму. 4 лістапада яна змяшчае вялікую карэспандэнцыю аб замацаванні вынікаў чысткі ячэйкай цагельні. Яна паказвае, як на аснове выканання ўказанняў камісіі па чыстцы паляпшаецца якасць прадукцыі і т. д. 16 лістапада газета прысвячае цэлую паласу замацаванню вынікаў чысткі. У гэтай паласе даволі шырока паказана работа 3-х ячэек пасля чысткі. 20 лістапада змешчана карэспандэнцыя аб рабоце ячэйкі Ветрынскай МТС пасля чысткі. 22 лістапада даецца вялікая падборка аб рабоце з кандыдатамі. У гэтай падборцы змешчан ліст пераведзенага ў кандыдаты тав. Гапанюка, у якім ён піша:

> «Пасля чысткі я цвёрда рашыў заняцца вучобай. Разлічваў уступіць у палітгурток, атрымаць там патрэбныя веды. Але гэтак не вышла. Вось ужо звыш месяца, як палітгурток у нашай вагоннай майстэрні не займаецца».

Атрымаўшы гэты ліст, рэдакцыя парашыла больш падрабязна азнаёміцца са становішчам работы з кандыдатамі ячэйкі вагонных майстэрань. І вось што яна выявіла:

> «У ячэйцы 5 кандыдатаў, з якіх 3 пераведзены ў кандыдаты ў часе чысткі. Усе кандыдаты прадастаўлены самі сабе. Што яны робяць, як падрыхтоўваюцца ў члены партыі—аб гэтым не ведае сакратар ячэйкі Глушкоў, не ведае бюро і ячэйка ў цэлым».

4 снежня «Чырвоная Полаччына» таксама дала вялікую падборку па замацаванню вынікаў чысткі. І гэта падборка добрая па зместу.

Але вось мы сталі перагортваць камплект «Чырвонай Полаччыны» далей. На жаль, у нумарах, якія ідуць следам за нумарам ад 4 снежня, мы нічога не знайшлі аб замацаванні вынікаў чысткі. 4 снежня прагучаў апошні акорд. А якраз у снежні разгарнулася падрыхтоўка да перавыбараў парторганаў. У пастанове пленума ЦК КП(б)Б аб перавыбарах парторганаў сказана: «Пленум ЦК прапануе бюро ЦК і РК разгарнуць да перавыбараў масавую праверку выканання ўказанняў зроб леных па чыстцы і выпраўленні выкрытых чысткай недахопаў». Полацкая газета абыйшла гэта ўказанне ЦК, лічачы, што яна ўжо ўсё зрабіла.

І гэта—асноўны недахоп у рабоце газеты па замацаванню вынікаў чысткі. Гэта работа павінна весціся не рыўкамі, а штодзенна, сістэматычна, арганізавана і глыбока. Барацьбой за замацаванне вынікаў чысткі павінен быць пранізан увесь змест газеты.

## „ЧЫРВОНАЯ ВАГРАНКА"
### ШМАТТЫРАЖКА ЗАВОДА «ПРОЛЕТАРЫЙ» (ГОМЕЛЬ)

Рэзалюцыя снежаньскага аб'яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б аб выніках чысткі ўказвае, што **«чыстка КП(б)Б была не толькі праверкай асабістых якасцяй членаў і кандыдатаў партыі, яна пранікла ва ўсе стораны работы партыйных, савецкіх і гаспадарчых арганізацый, прыкавала ўвагу мільённых мас к важнейшым пытанням соцыялістычнага будаўніцтва. Чыстка была вялізарнейшай школай большэвіцкага выхавання не толькі комуністаў, але і соцень тысяч рабочых, калгаснікаў і савецкай інтэлігенцыі».**

А **«Чырвоная вагранка»**, калі асвятляе замацаванне вынікаў чысткі, то толькі з пункта погляда падцягвання асобных комуністаў. Паказаць, як асобныя комуністы выконваюць указанні праверкома, безумоўна важна і неабходна, але гэтым толькі нельга вычарпаць усёй задачы.

Возьмем, напрыклад, нумар ад 16 снежня. Шматтыражка змясціла даволі многа матэрыяла аб замацаванні вынікаў чысткі. Сярод гэтага матэрыяла ёсць нададвыгай каштоўныя заметкі аб тым, як тры комуністы—**Спартовіч, Малец і Гармель**—выконваюць указанні камісіі па чыстцы. Але ў гэтых заметках больш за ўсё гаворыцца аб тым, як гэтыя комуністы выпраўляюць свае недахопы. Толькі мімаходам закранаецца іх арганізуючая роля, іх барацьба за замацаванне таго вытворчага пад'ёма, які быў створан чысткай. А побач з гэтым матэрыялам газета змяшчае артыкул, у якім канстатуе, што:

> **«Чыгуна-ліцейны цэх выканаў план на 105,3 проц., але пагражаюча ўзрос брак, дасягнуўшы 11,3 проц. 15 карпусоў было скінута пасля апрацоўкі ў такарным цэху з прычыны ракавінь у цыліндры, у 5 карпусах былі запіты ленты».**

Гэты факт гаворыць аб тым, што комуністы чыгуна-ліцейнага цэха не змагаюцца за якасць ліцця, што парт'ячэйка гэтага цэха не выканала ўказанняў камісіі па чыстцы аб паляпшэнні якасці вырабляемай прадукцыі. Газета падае гэты факт абасоблена, не звязваючы яго з замацаваннем вынікаў чысткі, не ўскрываючы прычын, не аналізуючы становішча партыйна-масавай работы ў чыгуна-ліцейным цэху.

Але нават і гэту адну старану замацавання вынікаў чысткі газета асвятляе зусім мала.

Возьмем хоць-бы такі факт. На заводзе «Пролетарый» ёсць значная група пераведзеных у кандыдаты і спачуваючых. Перагортваючы «Чырвоную вагранку», нічога нельга даведацца, як вядзецца з імі работа, як іх выхоўваюць, як іх падрыхтоўваюць і як яны самі працуюць над павышэннем свайго тэарытычнага ўзроўня, падрыхтоўваюцца да перахода ў кандыдаты і члены партыі. Гэтым пытаннем газета не занялася.

«Чырвоная вагранка» даволі ініцыятыўная і баявая газета. Тым больш прыкра, што яна да гэтага часу не зразумела ўсёй важнасці замацавання вынікаў чысткі, а паставіўшы аднойчы гэта пытанне, не змагла звязаць яго з усёй шматтраннай работай партарганізацыі.

Сапраўды выканаць сваю ролю ў барацьбе за замацаванне вынікаў чысткі «Чырвоная вагранка» зможа толькі тады, калі яна будзе змагацца за гэту справу сістэматычна і ўпарта, калі разгорне сапраўдную барацьбу за ўзняцце арганізуючай і авангарднай ролі комуністаў у сувязі з пэўнымі і канкрэтнымі вытворчымі задачамі, за ўзняцце палітычных ведаў комуніста, за рост яго ролі як арганізатара мас, арганізатара работы і натхніцеля новых пачынанняў.

«Мы павінны цяпер дабіцца таго, каб зрабіць яшчэ адзін крок наперад і дапамагчы ўсім калгаснікам, і былым беднякам, і былым серадняком, падняцца да ўзроўня заможных. Гэтага можна дабіцца, гэтага мы павінны дабіцца ва што-б там ні стала».

(З прамовы тав. Сталіна на ўсесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў).



Тав. Сталін і тав. Молатаў у прэзідыуме 1-га ўсесаюзнага з'езда калгаснікаў.

Г. ФАЛКІН

# ЦІ ТОЛЬКІ З НАСТУПЛЕННЕМ СВЯТА?

Пятрок Клюйко, Пятрок Яўгенаў Саковіч, удава Крывіцкая, Дзям'ян Казляк... Гэтыя людзі вядомы на Случчыне, як ударнікі калгасаў. Яны ў 1933 г. упершыню так моцна адчулі сілу калгаснага ладу. Клюйко, Саковіч, Крывіцкая, Казляк — гэта прадстаўнікі тых людзей Случчыны, якіх у ліку другіх па ўсяму СССР «НЕ МЕНШ 20 МІЛЬЁНАЎ СЯЛЯНСКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА, НЕ МЕНШ 20 МІЛЬЁНАЎ БЕДНЯКОЎ ВЫРАТАВАЛІ АД ГАЛЕЧЫ І РАЗБУРЭННЯ, ВЫРАТАВАЛІ АД КУЛАЦКАЙ КАБАЛЫ І ПЕРАТВАРЫЛІ ДЗЯКУЮЧЫ КАЛГАСАМ У ЗАБЯСПЕЧАНЫХ ЛЮДЗЕЙ» (СТАЛІН). Клюйко і Саковіч, Крывіцкая і Казляк зараз падымаюцца яшчэ вышэй; яны становяцца людзьмі заможнымі, людзьмі, вядучымі культурнае жыццё.

Для калгаснай Случчыны цікава мінулае жыццё Клюйкавых і Саковічаў. Гэта разумее і слуцкая газета «ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ». Аб Саковічу яна напамінае, што гэта:

«Той, што ездзіў у Амерыку шукаць «шчасця»... Да ўступлення ў калгас ён быў бедняком, зямлі ў яго было 1,3 га пахаці. Хлеба да «каляд» ледзь хапала. Хадзіў усё ў заработкі».

Яшчэ горш жылося на зямлі ўдаве Крывіцкай. Мачыхай была зямля для Пятра Клюйко. Рукамі яму прышлося вы карчоўваць дзве дзесяціны ляд, якія прадаў яму «міласцівы» пан.

ІНШАЕ СЁННЯ ЖЫЦЦЁ.... З першых дзён калгаснага жыцця яно пачало пера-

кроіваццa.

**«Пятру і яго брату Івану, як лепшым калгаснікам-ударнікам, прапануюць пераехаць на ўмацаванне малочнай фермы. А справы на ферме былі кулацкія. Каровы падалі кожны дзень...»**

На ферме калгаса «1 мая» з прыходам ударніка Клюйко справы пайшлі ўверх і спыніўся адыход.

«ПРАЦАВАЛІ З УСЕЙ СІЛАЙ, ШЧЫРАСЦЮ, З УСЕЙ ЭНЕРГІЯЙ. Тым, хто енчыў, Пятрок тавапыў:

— ПРАЦАВАЦЬ ТРЭБА, А НЕ ПЛАКАЦЬ. ГЛЯДЗЕЦЬ, КАБ РОС КАЛГАС».

Першая радасць Пятра была яшчэ ў 15 гадавіну Окцябра, калі яго

**«як ударніка прэміруюць кажухом, ды яшчэ пару штаноў і пару ботаў выдалі. Дачцы Серафіме 10 метраў мануфактуры ў прэмію далі».**

І як моцна, упэўнена і пераможна гучаць 2 радкі слуцкай газеты аб Серафіме, якая

**«упершыню за ўсё сваё жыццё пашыла сабе прыгожае плацце».**

Клюйко зараз жыве значна лепш. 3.600 рублёў адных грошай. А хлеб, а бульба...

Як далёка ад Клюйко-батрака, вымаліўшата ў пана фон-Дэрліха міласці, да Клюйко-калгасніка. Гэты вялікі, сусветна-гістарычны разбег совецкага селяніна паказаў «Ленінскі шлях». На «выдатна» вытрымала ў дадзеным выпадку слуцкая газета.

ТАК ЗРАБІЛА ГАЗЕТА. НА ЖАЛЬ, АДЗІН ТОЛЬКІ РАЗ ЗА АПОШНІЯ 2 МЕСЯЦЫ. А магчымасць і мэтазгоднасць паказа нараджэння і роста новых людзей напрошваецца ў кожны нумар. Гэта адчуваецца па «Ленінскаму шляху». Паказваць гэта можна літаральна ў кожным дапісе, які ідзе ў тую ці іншую паласу.

Вось прыкладна падборка першай паласы газеты за 30 лістапада 1933 года «РАЎНЯЦЦА ПА ПЕРАДАВІКАХ БАРАЦЬБЫ ЗА ЯКАСЦЬ» — заклікае «Ленінскі шлях». У падборцы паведамляецца, што калгас «СОВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» здаў 184 кілаграмы валакна 16-м нумарам, а калгас «ЧЫРВОНАЯ НІВА» прывёз на дзяржаўны прыёмачны пункт 272 кілаграмы валакна 14-м і 16-м нумарам. І адначасова—аб калгасе «ЧЫРВОНЫ ВОЛАТ», дзе да канца лістапада нават не пачалі мяць лён. Дарэмна мы шукалі у радках гэтых трох дапісаў аб выгадах, аб прэміях, якія атрымалі калгасы «Совецкая Беларусь» і «Чырвоная Ніва», і аб тым, што трапяць калгаснікі і калгасніцы «Чырвонага волата» ад расхлябанасці, кулацкага сабатажа іх праўленнем справы ільнаапрацоўкі і ільназагатовак. Тут «ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ» НЕ ВЫТРЫМАЎ. Ён не здолеў звязаць асабістыя інтарэсы калгасніка, інтарэсы ўсяго калгаса з абавязкамі іх перад дзяржавай.

10 снежня «Ленінскі шлях» дае падборку, у якой паказвае на катастрафічнае становішча з коньмі і кармамі ў калгасах «6 З'ЕЗД СОВЕТАЎ», «НОВАЕ ЖЫЦЦЁ», «НОВЫ СВЕТ», «ПРОЛЕТАРСКАЯ НІВА». Ва ўсіх 4-х заметках—ніводнага прозвішча. Усе яны заканчваюцца: «ПРАЎЛЕННЕ ПАВІННА НЕАДКЛАДНА І РАШУЧА»... І ні ў адной няма намёка на тое, ва што гэта абыдзецца калгасу і калгаснікам. «Ленінскі шлях» абыходзіць указанне правадыра, што добрасумленная праца — аснова для заваявання заможнасці.

На гэтых канкрэтных прыкладах газета магла-б паказаць, хто ставіць палкі ў калёсы, якія рухаюць сотні людзей да заможнага жыцця. Газеце не пашкодзіла-б выклікаць на гэта новых Клюйковых, іх сумленнасць, іх жаданне жыць заможна, весці зусім культурнае жыццё.

І такі ЗВЫЧАЙНА СТЫЛЬ «ЛЕНІНСКАГА ШЛЯХА»—аб заможнасці жывых людзей у святочных нумарах, астатнія дні—не гаварыць з калгаснікам, не ўздымаць яго ярасці супроць усіх тых, хто шкодзіць яму, яго калгасу, яго дзяржаве. Гэтым газета прыніжае сваю ролю прапагандыста лініі партыі, якая блізка, зразумела і падхоплена мільёнамі. Гэтым газета прыніжае сваю ролю штодзеннага арганізатара тысяч Клюйковых і Крывіцкіх, якія цвёрда і ўпэўнена ўздымаюцца «да ўзроўня людзей, карыстаючыхся багаццем прадуктаў і вядучых у поўнай меры культурнае жыццё».

Калгаснае заможнае жыццё творыцца штодзенна і штогадзінна. Яно творыцца на полі, на ферме, ля малатарні, ля трыера...

Ззаду ўжо засталіся абыякавыя адно-

сіны калгаснікаў і калгасніц да ўсяго таго, што робіцца ў калгасе.

**Пад націскам масы калгаснікаў праўленне калгаса абгаварыла пытанне становішча фермы і высунутыя жанчынамі мерапрыемствы, —**

паведамляе газета палітаддзела Слуцкай МТС «ЗА ТЭМПЫ І ЯКАСЦЬ» аб свіной ферме калгаса «Прамень Камуны». У другім выпадку, калі ў брыгадзе БАРТОША калгаса «Чырвоны ўдарнік» пралічыліся ў расстаноўцы людзей, газета піша, што

**«Сабраўшыся актыў палажыў канец гэтаму халадку. З злоўкам у руках падлічылі...»**

КАЛГАСНІК—ГАСПАДАР КАЛГАСА. І ў газеце пішуць калгасніцы:

**«Даручылі мы нашаму праўленню абмеркаваць пытанне аб электрычнасці. Кажуць, што гэта будзе каштаваць 7.000 руб. Мы так мяркуем, што 7.000 можна будзе на гэту справу адпусціць».**

Вось дзе паказ карыстання багаццем прадуктаў!

Палітаддзельская газета здолела на сваіх старонках не святочнага нумара прадставіць месца расказу калгасніц калгаса «Новае жыццё», аб тым, што яны

**«пабялілі ўсе хаты, прыбралі ўсе двары і зараз сочаць, каб усё было ў акураце».**

114 радкоў прысвяціла 11 снежня газета паказу таго, як калгасніцы старой ШЫЛОВІЧ ужо ніяк нельга было заставацца непісьменнай. Яна вырасла. ЯЕ ЗАМОЖНАЕ ЖЫЦЦЁ ПАПАЎНЯЕЦЦА ПІСЬМЕННАСЦЮ.

А ЦЁЛКА? Не зразумеў «Ленінскі шлях», што цёлка ў хляве раней бескароўнага калгасніка—гэта перамога лініі партыі. Па палітаддзельскай газеце, па асобных заметках адчуваецца сіла гэтай перамогі. 26 снежня—першая старонка з аншлагам: «МЫ ЎЖО БОЛЬШЭВІКІ ПАСТАРАЕМСЯ, КАБ УСЕ КАЛГАСНІКІ МЕЛІ Ў НАС ПА КАРОВЕ». Перамогай дыша заметка:

**«Калгасы «Васілінкі», «Новыя Гергазішчы» і «Колас» надзялілі цёлкамі бескароўных за кошт маладняка з калгаснай фермы і закупілі цёлак у калгаснікаў».**

Або паведамленне аб пахаванні бескароўя ў калгасе «Случ № 2», дзе

**«107 калгасных двароў, і на сёнешні дзень няма ўжо ў калгасе бескароўных».**

Не ўлічыў «Ленінскі шлях» і таго, што неаднолькава можа скласціся жыццё асобных калгаснікаў у адным калгасе, хай сабе аднолькавая ў іх колькасць працадзён. У газеце не арганізавана барацьба за процантную накідку працадзён тым брыгадам, якія дабіліся лепшых рэзультатаў у сваёй рабоце.

На гэтым газета не выхоўвае мас калгаснікаў у перыяд падрыхтоўкі да веснавой сяўбы 1934 г. у той час, як іменна зараз рашаецца справа засыпкі, ачысткі і захавання «залатога фонда будучага ураджаю».

Супроць разбазарвання працадзён змагаецца ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКАЯ ГАЗЕТА. Упускае гэта раённая, быццам не разумеючы, таго, што ПРАЦАДНЕМ ВЫЗНАЧАЕЦЦА СТУПЕНЬ ЗАМОЖНАСЦІ.

***

Не толькі пісаць аб заможных калгасніках і тым больш у адны святочныя дні; не толькі даваць праўдзівы паказ разбега жыцця, але арганізоўваць кожны крок работы калгасніка, яго жыцця—вось у чым задача. Менш гаворак з праўленнем калгаса, з судом, з раённымі арганізацыямі, больш з масай, якая расце, якую ўздымаць вышэй і вышэй абавязана газета. Вырошчваць штодзенна сотні заможных і культурных людзей, уздымаць ярасць мас супроць дармаеда, кулака і яго падлечпіка-гультая, якія прысуседзіліся да калгаса і пажыраюць плады працы добрасумленных калгаснікаў,—вось у чым задача, вось што павінен зрабіць «Ленінскі шлях».

ПАКАЗ ЖЫЦЦЯ КАЛГАСНІКА КЛЮЙКО—ВЯЛІКІ ПЛЮС ГАЗЕТЫ. АДСУТНАСЦЬ ШТОДЗЕННАЙ БАРАЦЬБЫ ЗА ВЫРОШЧВАННЕ НОВЫХ СОЦЕНЬ КЛЮЙКО—ЯЕ ВЯЛІКІ МІНУС.

**ЮР. РУДЗЬКО**

# ГАЛОПАМ ПА ЎХАБАХ

**„ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ“**
ОРГАН ЛЁЗНЕНСКАГА РК КП(б)Б, РВК і РПС

Пачалося з восені. Лён убіралі марудна. Выцерабленым доўга ляжаў ён у пуках на полі, не прыбраным. Лёзненскі раён па ўборцы, абмалоту і расцілу ільну трапіў на адно з апошніх месц у рэспубліцы.

Раённая газета **«Ленінскі шлях»** гэтага не магла не бачыць і 15-га верасня выступіла з патрабаваннем «мабілізацыі ўсіх сіл і энергіі на звозку і прасушку ільну».

За гэтым прайшла дэкада. Як быў падхоплен заклік «Ленінскага шляху» — невядома, бо ў наступных нумарах пра гэта не знаходзім ніякага паведамлення.

У канцы верасня раён уключаецца ва ўсебеларускую сталінскую ільна-эстафету. Газета дае некалькі допісаў пра зусім няўцешнае становішча з апрацоўкай ільну, аб невыкарыстанні машын і інш. На працягу наступнага месяца — кастрычніка «Ленінскі шлях» толькі калі-ні-калі варочаецца да пытання апрацоўкі ільну, змяшчае заметкі аб непаладках у асобных калгасах. Але ўсе гэтыя выступленні газеты характарызуюцца вялікай павярхоўнасцю. Газета не ставіць галоўнага, да чаго-б прыкоўвалася ўвага, што-б давала арыентыроўку для партарганізацыі і ўсёй грамадскасці раёна ў барацьбе за лён.

Напрыклад «Ленінскі шлях», змясціўшы не адну заметку аб злачынным ігнараванні машыннай апрацоўкі ільну, не ўзняў гэта пытанне на прынцыповую вышыню, не выкрыў сапраўдных кулацкіх сабатажнікаў і не дабіўся поўнага выкарыстання і кругласутачнай работы ільнаапрацоўчых машын. А газета магла гэта зрабіць, згуртаваўшы вакол сябе селькораў — лепшых калгаснікаў-ударнікаў і выкарыстаўшы ўсю сваю сілу, сілу бальшэвіцкага друку, як калектыўнага прапагандыста, агітатара і арганізатара мас.

Што робіць «Ленінскі шлях»?

Подборкі, прысвечаныя ільназагатоўкам, складаюцца з 2-3 заметак — павярхоўных, часамі агульных — аб адставанні асобных калгасаў за подпісамі: «Сумны», Аверчанка, А-ка, А. Гор супрацоўнікаў газеты і калі-ні-калі селькораўскага допіса. У гэтых сваіх падборках «Ленінскі шлях» з нумара ў нумар канстатуе, што аднаасобнікі **«зрываюць дзяржаўныя пастаўкі»**, у калгасах **«замест канкрэтнай справы — дэкларацыі»** і т. д.

Газета не ставіць задачай ускрыць прычыны наяўнага становішча, глыбокага адставання Лёзненскага раёна ў ільназагатоўках. Кажа газета пра невыкарыстанне машын і маўчыць пра тое, чаму машыны не выкарыстоўваюцца, не выкрывае кулацкіх сабатажнікаў, зрываючых апрацоўку і здачу ільну дзяржаве.

Усю работу з селькорамі рэдакцыя «Ленінскі шлях» абмяжоўвае змяшчэннем прысланай заметкі, не ўстанаўляючы пастаяннай сувязі з селькорамі, каб праз іх дабіцца ажыццяўлення заклікаў газеты на месцах. Таму шматлікія заклікі і лозунгі, кінутыя газетай, так і заставаліся заклікамі. З гэтай прычыны «Ленінскі шлях» 17-га лістапада прымушан быў прызнаць, што **«амаль два месяцы працягваецца сталінская ільнаэстафета, але большасць сельсаветаў уключыліся ў яе фармальна, па бюракратычнаму. На 15-е лістапада мы выканалі план па трасце на 17,5 проц., па валакну — на 5,4 проц.»** — і гэта вынік таго, што і «Ленінскі шлях» фармальна падышоў да праведзення эстафеты.

У канцы лістапада ЦК КП(б)Б вынес па дакладу б. сакратара Лёзненскага РК КП(б)Б т. **Міцькова** спецыяльнае рашэнне, у якім было ўказана: **«Раённыя арганізацыі, палітаддзел МТС і зараз яшчэ не арганізавалі масавай апрацоўкі і здачы ільну дзяржаве, не мабілізавалі партыйныя і комсамольскія арганізацыі, сельсоветы, калгасны актыў і калгасніц-ударніц на большэвіцкую барацьбу за лён»**.

Гэта бязумоўна поўнасцю датычылася і газеты. Які-ж вывад для сябе зрабіў «Ленінскі шлях»? Прагледзім снежаньскія нумары.

4-га снежня ў «Ленінскім шляху» чытаем, што ў калгасе «Бязбожнік»:

**«У брыгадзе № 2 па віне брыгадзіра Жураўлёва значная колькасць ільну пагніла на сцелішчах, шмат яе валяецца дзе папала і патрабуе дасканальнай сартыроўкі. Выпучаныя сартыроўшчыкі: Лахвзенка, Салаўёва, Фраленка і Арцёменка пры сартыроўцы трасты наўмысля наклалі ў сярэдзіну снапоў сырой трасты, а таму 24 лістапада накіраваны 8 вазоў ільнатрасты на завод былі вернуты».**

Прыведзены факты злоснага кулацкага сабатажа. Што-ж гаворыць аб гэтым далей газета? Яна адносіцца да гэтага досыць «мірна».

**«Усе вышэйпералічаныя факты гавораць аб тым, што кіраўніцтва калгаса «Бязбожнік» не вядзе сапраўднай бальшэвіцкай барацьбы за лён» — і кропка.**

З нумара ў нумар на старонках «Ленінскага шляху» знаходзім толькі разрозненыя заметкі і выпадковыя падборкі.

10 снежня газета ўзняла пытанне аб ажыццяўленні пастановы ЦК КП(б)Б, каб перавесці еўні і ільнамяльныя машыны на кругласутачную работу. Гэтага патрабавала газета ў «шапцы». Матэрыяла-ж з месц, растлумачэння калгаснікам важнасці ажыццяўлення гэтага мерапрыемства газета не дала ні тады, ні пазней.

Работа рэдакцыі праходзіць увесь час адарвана ад мас. І сама газета не гутарыць, не звярачаецца непасрэдна да калгасніка, брыгадзіра, ільназдатчыка. Яе матэрыялы—«шапкі», перадавіцы, лозунгі і нават самі заметкі—арыентуюцца на партыйны, савецкі актыў, гэта ў лепшым выпадку, ці даюцца «наогул».

Лёзненскі раён і цяпер у глыбокім тыле рэспублікі па ільназагатоўках. Гэта ставіць перад рэдакцыяй «Ленінскага шляху» задачу рашучай перабудовы і разгортвання баявой работы для мабілізацыі грамадскасці на выращэнне неадкладнейшай задачы—завяршэння ільназагатовак і баявой работы па падрыхтоўцы да вясны, барацьбы за новы багаты ўраджай.

# НА ЎЗРОЎНІ ЗАДАЧ

**„КОМУНАР“**
ОРГАН СЕННЕНСКАГА РК КП(б)Б, РВК і РПС

Лепшыя майстры зямлі, ударнікі—вопытнікі ільнаводы Сенненшчыны 14 верасня сабраліся на нараду, і газета выкарыстала гэта для ўстанаўлення на сваіх старонках трыбуны ільнавода-вопытніка.

18 верасня газета дае слова намесніку старшыні калгаса «Галынка» т. **Латышову** Прахору, які 45 год займаецца ільнаводствам. Ён падрабязна расказаў аб доглядзе за пасевам ільну ад 1-га дня, калі ўкінута зерне ў зямлю, і да канчатковай апрацоўкі. Падрабязней ён спыніўся на тых працэсах апрацоўкі ільну, што павінны былі зрабіць калгасы.

**«На полі стаяць у конусах паднятаму ільну доўгі час нельга. Лён трэба зараз-жа звезці, падняўшы яго сухім, і расставіць пад навесамі, а пасля звозкі ільну са сцелішча зараз-жа трэба прыступіць да яго сушкі і апрацоўкі. Сушку ільну ў еўнях трэба ўтвараць толькі на сухіх альховых дровах, ні ў якім разе не дапускаючы вялікай парнасці, каб ён не папарыўся».**

Падрабязна расказаў т. Латышоў і пра тое, як трэба мяць лён машынамі.

Газета імкнецца не кідаць голых заклікаў, а гутарыць з калгаснікамі і працоўнымі аднаасобнікамі. Змяшчаючыца матэрыялы, зразумелыя для шырокіх мас, даецца слова самім калгаснікам і канцэнтруецца ўвага на асноўных пытаннях. У верасні газета паставіла задачу:

**«Сушыць, мяць і трапаць лён — сюды галоўную ўвагу калгасаў. Арганізаваўшы бесперабойную апрацоўку ільнавалакна, кожны калгас зможа выканаць план здачы валакна ў 15-20 дзён».**

3 верасня газета вядзе спаборніцтва на лепшую апрацоўку і здачу ільнапрадукцыі сельсаветамі і калгасамі: Беліца—Ла-

тыгаль, Нямойта—Новае сяло, Застадолле—Ходцы і інш.

Зводкі і матэрыялы аб ходзе спаборніцтва змяшчаюцца ў кожным нумары, што робіць спаборніцтва сапраўды дзейсным і аператыўным.

З 25 па 28 верасня «Комунар» правёў трохдзённік агляду падрыхтаванасці калгасаў да масавай апрацоўкі ільну, мабілізаваўшы на гэта ўвагу ўсёй грамадскасці раёна.

Няроўны, цяжкі шлях прайшоў Сенненскі раён да сваёй канчатковай перамогі, да першага месца сярод ільнаводчых раёнаў БССР. У канцы жніўня і пачатку верасня Сенненшчына атрымала пераходны сцяг ЦК і СНК. Потым аслаблі тэмпы ільнаапрацоўкі, здачы ільну дзяржаве і сцяг быў страчан.

«Комунар» разгортвае вялікую работу, змагаецца за тое, каб адваяваць пачэсную ўзнагароду, за новы ўздым, за новыя перамогі.

Першае мерапрыемства газеты — трохдзённік загатовак у аднаасобным сектары (з 1-га лістапада).

Асноўны курс у гэтым перыядзе газета бярэ на выраўноўванне найбольш занядбанага ўчастка — правядзенне сартавання трасты і адпраўкі яе па заводы, палепшэнне якасці работы па апрацоўцы ільну.

**«У кожным калгасе і брыгадзе павінна быць устаноўлена здзельшчына за выхад валакна. Калі трапальшчыца дае з мятай трасты звыш 30 проц. выхаду валакна, яна атрымлівае палову хлеба і грошай, якія яна эканоміць калгасу сваёй добрасумленнай работай. Калі трапальшчыца дае выхад ніжэй 30 проц., павінен быць зроблен адпаведны вынік».**

Падрабязна расказвае «Комунар» аб вынадах, якія атрымаюць калгаснікі, поўнасцю выканаўшыя свой кантрактацыйны дагавор з дзяржавай па здачы ільну. Вось 25-га лістапада ў перадавым чытаем:

**«Калгас Сталая Беліца здае 270 цнт. трасты і 27 цнтн. валакна. Ён атрымлівае за гэта 60 цнтн. хлеба, г. зн. 6.000 кілограм. Працадзён, затрачаных на пасеў, уборку і апрацоўку ільну, у калгасе будзе не больш 5.000. Такім чынам трапальшчыца, працуючы на ільне, атрымае хлеб не толькі па агульнаму размеркаванню, але і больш аднаго кіло хлеба атрымліваемага за пйн».**

У канцы лістапада тэмпы ільназдачы былі яшчэ вельмі марудныімі і «Комунар» паставіў задачу:

**«Трапаць валакно не толькі днём, але і ноччу. Калгасніцы, прымайце выклік ударніц-трапальшчыц калгаса Менюцева, выходзьце на тропку ільну пры ліхтары».**

Газета папулярызуе заклік трапальшчыц калгаса Менюцева, якія пісалі:

**«Каб выканаць наш ільняны абавязак перад дзяржавай, каб забяспечыць здачу нашым калгасам усяго валакна дзяржаве не пазней 10 снежня, мы, ніжэйпадпісаўшыеся, абавязваемся да за канчэння нашага плана па ільну штодзенна працаваць не толькі ўдзень, але і ноччу».**

З 1 па 15 снежня абвяшчаецца ўсераённы штурм па ліквідацыі адставання Сенненшчыны ў ільназагатоўках. З нумара ў нумар газета паведамляе аб уключэнні калгасных брыгад у гэты штурм, аб кругласутачнай рабоце трапальшчыц-ударніц. Практыкуецца і грамадскі буксір, пра які шырока расказвае на сваіх старонках «Комунар».

Ставячы задачу «дагнаць і перагнаць Дрысу і Полацак», якія спаборнічаюць з Сянном і ідуць уперадзе, «Комунар» мабілізуе калгасніка на тое, каб сустрэць 15 з'езд КП(б)Б з перавыкананнем плана ільназагатовак.

І гэта дасягнута. Сенненшчына атрымала першынства, адваявала пераходны сцяг ЦК КП(б)Б і СНК БССР. І безумоўна вялікую ролю ў гэтай перамозе адыграла раённая газета — баявы памочнік партарганізацыі.

Сакратар ЦК КП(б)Б тав. Гікало, пасля выканання Сенненскім раёнам плана ільназагатовак, у спецыяльным лісце пісаў: **«Упэўнен, што комуністы, комсамольцы, усе беспартыйныя калгаснікі і калгасніцы Сенненшчыны пакажуць у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы ў барацьбе за ўраджай 1934 года яшчэ лепшыя ўзоры ўдарнай бальшэвіцкай работы».**

Гэта ўказанне т. Гікало—бальшэвіцкая праграма для «Комунара» і на далейшы час. Выкарыстаўшы багаты вопыт барацьбы за выкананне плана ільназагатовак, узмацніўшы сваю сувязь з масамі, узбагаціўшыся сотнямі новых байцоў бальшэвіцкага друку—селькорамі, «Комунар», павінен з'явіцца баявой зброяй партарганізацыі па замацаванню Сенненскага раёна на перадавых пазіцыях рэспублікі.

Юр. ТАКАРЧУК

# „РАЁННАЯ АБМЕЖАВАНАСЦЬ“

## АБО

## ЧАМУ „КАЛЕКТЫВІСТ“ ІГНАРУЕ МІЖНАРОДНУЮ ІНФАРМАЦЫЮ

Безнадзейная справа шукаць міжнародную інфармацыю на старонках увзравіцкага «КАЛЕКТЫВІСТА». Газета з дзіўнай паслядоўнасцю ўтойвае ад сваіх чытачоў нават важнейшыя падзеі з міжнароднага жыцця.

Азнаёмімся з кампілектам «Калектывіста» за апошнія месяцы (лістапад-снежань 1933 года). Матэрыялы аб міжнародных падзеях можна пералічыць у газеце, літаральна, па пальцах адной рукі. Пяці пальцаў хопіць поўнасцю.

І гэта на трынаццаць нумароў, вышаўшых у перыяд такіх буйных сусветнага значэння падзей, як устанаўленне нармальных дыпламатычных адносін паміж СССР і Злучанымі Штатамі, як міжнародная кампанія за вызваленне т. т. Дзімітрава, Торглера, Панова і Танева і т. д., і т. д.

Наш калгаснік культурна вырас і расце. Яго востра цікавяць падзеі за мяжой. Ён хоча ведаць, што адбываецца і ў фашысцкай Германіі і на Далёкім Усходзе. Ён цікавіцца жыццём і барацьбой зарубежных пролетарыяў і працоўных сялян.

Сістэматычная міжнародная інфармацыя, складзеная на жывой зразумелай мове — адзін з важнейшых участкаў у раённай газеце, моцная зброя інтэрнацыянальнага выхавання мас.

«Калектывіст» выпусціў са сваіх рук гэту зброю. Ён ідзе міма запатрабаванняў, запросаў сваіх чытачоў. Міжнародная інфармацыя ў гэтай газеце — выпадковы матэрыял, які служыць для падвёрсткі.

Даволі ўказаць, што ў снежні, напрыклад, газета змясціла фактычна ўсяго толькі адну заметку аб падзеях за мяжой — наступную тэлеграму БЕЛТА:

**«НАНКІНСКІ ЎРАД АДНАЎЛЯЕ СУВЯЗЬ З МАНЧЖОУ-ГО.**

**ШАНХАЙ.**

**Паводле слоў кітайскіх газет пачалася эвакуацыя японскіх войск у Цзінчжоў.**

**Чакаюць, што ў бліжэйшыя дні Шанхайгуань будзе перадан кітайскім паліцэйскім уладам.**

**Згодна паведамлення агенцтва «Гомін», Ван Цзін-вей заявіў, што нанкінскі ўрад разглядае пытанне аб аднаўленні чыгуначнай, паштовай і мытчай сувязі з Манчжоу-Го і т. д., і т. д.».**

Што зразумее чытач «Калектывіста» з гэтай тэлеграмы, калі газета ні да снежня, ні ў снежні зусім нічога не пісала аб становішчы ў Кітаі, не растлумачыла, што такое Манчжоу-Го, не выкрыла перад чытачом сутнасці палітыкі японскага імперыялізма.

І, нарэшце, як ацаніць той факт, што за ўвесь месяц «Калектывіст» абмежаваўся толькі адной гэтай тэлеграмай. Ясна, што яна трапіла ў газету выпадкова пры дапамозе рэдакцыйных ножніц і толькі для таго, каб запоўніць пустое месца, для якога ў «Калектывіста» не хапіла матэрыялаў.

23-га снежня ў лейпцыгскім судзілішчы быў вынесен прыгавар па справе т. т. Торглера, Дзімітрава, Папова і Танева. Вымушаны пад напорам мас апраўдальны прыгавар ярка прадэманстраваў скандальнае банкруцтва германскіх нацыянал-соцыялістаў з іх правакацыйным падпалам рэйхстага.

Як можна было прайсці міма гэтай падзеі, прыкаваўшай увагу ўсяго зямнага шара.

А «Калектывіст» маўчыць. Ні слова. Ні радка. Ні намёка на тое, каб расказаць сваім чытачам аб палітычнай сутнасці лейпцыгскай судовай правакацыі, аб гераічнай барацьбе таварыша Дзімітрава, сарваўшага маскі з сапраўдных падпальшчыкаў германскага рэйхстага — фашыстаў.

Яшчэ адзін факт, які красамоўна паказвае, наколькі казённа, наколькі без-

адказна адносіцца «Калектывіст» да міжнароднай інфармацыі, наколькі газета праяўляе часамі палітычную блізарукасць.

У лістападзе мінулага года адбылася буйнейшая міжнародная падзея — устанаўленне нармальных дыпламатычных адносін паміж СССР і Злучанымі Штатамі.

Што расказаў «Калектывіст» сваім чытачам аб гэтай вялікай перамозе савецкай палітыкі міра, як ён растлумачыў значэнне гэтай важнейшай падзеі апошняга часу?

Ніяк.

Зноў змяшчаюцца толькі выпадкова трапіўшыя ў газету рэдкія тэлеграмы без усякіх каментарыяў, без усякіх заўваг ад рэдакцыі. «Калектывіст» нават нідзе ні ў адным загалоўку не сказаў аб тым, што паміж СССР і ПАЗШ устаноўлены нармальныя дыпламатычныя адносіны.

Вывады: уваравіцкі «Калектывіст» не разумее ўсёй важнасці баявой палітычна-завостранай міжнароднай інфармацыі па старонках газеты. Рэдакцыя зусім ігнаруе пытанні міжнароднага жыцця, пытанні інтэрнацыянальнага выхавання мас. Няўжо-ж «Калектывіст» нічога не бачыць далей граніц свайго раёна?

***

На старонках газеты «ЧЫРВОНЫ СЦЯГ» (Камарын) амаль у кожным нумары змяшчаецца аддзел «ПА ТОЙ БОК МЯЖЫ». Газета сістэматычна змяшчае матэрыялы па ўсіх бягучых міжнародных падзеях.

Але колькасць яшчэ не вырашае справы. Аснова — У ЯКАСЦІ падачы, у змесце і палітычным афармленні матэрыялаў міжнароднай інфармацыі. І вось тут у газеты «Чырвоны сцяг» шмат хібаў, шмат недахопаў.

Рэдакцыя не ўлічвае запросаў сваіх чытачоў, не разумее сваіх спецыфічных задач у пытаннях міжнароднай інфармацыі.

Той ці іншы факт можа зрабіць пэўны эфект, пэўны ўплыў у цеснай залежнасці ад таго, ЯК ён пададзены. Трэба дабівацца, каб матэрыял дайшоў да чытача, каб гэты матэрыял быў вылажан на жывой простай мове, свабоднай ад усякіх незразумелых замежных слоў, каб кожнаму калгасніку было ясна, аб чым ідзе гутарка, у чым палітычнае значэнне данага факта і т. д.

Не сакрэт, што тэлеграмы ТАСС і БЕЛТА напісаны часта такой бюракратычнай незразумелай мовай з такой колькасцю малаўжываемых замежных тэрмінаў, што далёка не ўсякі калгаснік, рабочы соўгаса, трактарыст разбярэцца, у чым справа, а то і проста не будзе такой тэлеграмы чытаць.

«Чырвоны сцяг» не клапоціцца аб інтарэсах сваіх чытачоў. Ён бярэ тэлеграмы (прычым не па сістэме, не па краінах, не па канкрэтных паасобных пытаннях, а наўгад) са старых нумароў цэнтральнай і рэспубліканскай прэсы і перадрукоўвае іх на сваіх старонках.

31-га снежня «Чырвоны сцяг» перадрукоўвае раней апублікаваную ў рэспубліканскай прэсе наступную карэспандэнцыю:

**«Вайна Нанкін — Фуцзян.**

**ШАНХАЙ, 22 снежня.**

**Усе газеты паведамляюць аб пачатку значных баёў паміж нанкінскімі войскамі і арміяй «народна-рэвалюцыйнага ўрада» ў паўночнай частцы Фуцзяна».**

Кропка. Ці дойдзе да калгасніка такая тэлеграма, ці разбярэцца ён, што азначае вайна паміж Нанкінам і Фуцзянам і што гэта за «народна-рэвалюцыйны ўрад»? Далёка не ўсякі. Куды было-б лепш і эфектыўней, калі-б газета на простай мове растлумачыла сваім чытачам сутнасць падзей у Фуцзяне.

Або яшчэ адзін факт. Газета ў тэлеграме БЕЛТА з Берліна паведамляе аб тым, колькі галасоў пры «выбарах» у германскі рэйхстаг было падана за фашыстаў і колькі галасоў было абвешчана «несапраўднымі».

Назваўшы голыя лічбы, «Чырвоны сцяг» больш да пытання аб «выбарах» у фашысцкай Германіі не варочаецца.

Чытачу прадстаўляецца самому здагадвацца, што паказалі «выбары» ў Германіі, чаму частка галасоў была абвешчана «несапраўднымі» і т. д., і т. д.

Нельга працаваць па прынцыпу — абы з рук. Якасць пастаноўкі міжнароднай інфармацыі вымяраецца не колькасцю тэлеграм, а іх зместам, іх мовай, іх палітычнай актуальнасцю і формай падачы.

Не аказёньваць мовы, не ганяцца за колькасцю, а выбіраць з міжнароднай

інфармацыі найбольш важнае, асноўнае і падаваць гэтыя матэрыялы проста, жыва, ясна, партыйна завострана — вось у чым задача.

Недаацэнка ролі міжнароднай інфармацыі—шкодная памылка. Гэта павінна цвёрда ўсвядоміць кожная раённая газета.

Але справа зусім не ў тым, каб ТОЛЬКІ змяшчаць (нават хоць і сістэматычна) паасобныя тэлеграмы БЕЛТА аб тых ці іншых замежных падзеях. Рабіць так, значыць ісці па лініі найменшага супраціўлення, не разумець ролі міжнароднай інфармацыі ў раённай газеце. Урок камарынскай газеты «Чырвоны сцяг»—красамоўная ілюстрацыя.

Міжнародную інфармацыю трэба падпарадкаваць задачам інтэрнацыянальнага выхавання мас, задачам барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм. Ва ўмовах БССР, як нацыянальнай рэспублікі, гэта набывае асаблівае значэнне.

Нельга абмежавацца перадрукаваннем тых ці іншых тэлеграм з цэнтральнай прэсы. Гэта далёка не заўсёды дасць неабходны вынік. З тэлеграм трэба выбіраць найбольш важныя, найбольш актуальныя і характэрныя для данага часу, групуючы іх па канкрэтных пытаннях, паасобных краінах і т. д. і т. д.

Што хутчэй дойдзе да свядомасці калгасніка, што хутчэй і з цікавасцю ён прачытае? Ясна, што не сухое паведамленне аб пакце і ратыфікацыі, а матэрыял аб тым, што гэта азначае, якое яно мае значэнне.

Рэальную практычную дапамогу раённай газеце павінна аказаць БЕЛТА. Гэта ўстанова з рэдкай паслядоўнасцю праходзіць міма сваіх асноўных задач. І па сёнешні дзень мы не маем з боку БЕЛТА ніякіх сапраўдных мер па снабжэнню раённых газет пастаяннай палітычна завостранай і папулярна, зразумела складзенай міжнароднай інфармацыяй, атлядамі на важнейшыя міжнародныя тэмы.

Пара разварушыцца, пара, даўно пара заняцца гэтай неабходнай справай.

---

**Расце індустрыяльна-аграрная Савецкая Беларусь.**



**Асінстан.**

В. ЛІЛІН

# ЗАВАЮЕМ НЕПАЧАТЫ КРАЙ НОВЫХ МАГЧЫМАСЦЯЙ

Настойлівае і няўхільнае правядзенне генеральнай лініі ленінскай партыі вядзе нас ад адной перамогі да другой. З ростам фабрык і заводаў, з умацаваннем калгаснага ладу безупынна паляпшаецца матэрыяльна-бытавое становішча рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных.

Культурна выраслы рабочы і стаўшы на шлях заможнага жыцця калгаснік прад'яўляюць усё большы попыт на тавары шырокага спажывання. Рабочы і калгаснік хочуць мець добрую вопратку, моцны абутак. Яны хочуць, каб дома ў іх была новая культурная абстаноўка.

Партыя і ўрад у радзе сваіх рашэнняў выключную ўвагу аддаюць павялічэнню выпуска тавараў шырокага спажывання і павышэнню іх якасці. У гутарцы з дэлегацыяй калгаснікаў Одэскай вобласці тав. **Сталін** сказаў, што **тавараў шырокага спажывання мы будзем выпускаць адгэтуль у два і тры разы больш.**

Мільёны рабочых успрынялі заяву тав. Сталіна як баявую дырэктыву. Уключыўшыся ў вытворчы паход імя XVII партыйнага з'езда, сотні і тысячы прадпрыемстваў пачалі бальшэвіцкую барацьбу за ажыццяўленне лозунгаў правадыра партыі — даць у два і тры разы больш тавараў шырспажыва.

Выкананне гэтай задачы ляжыць на абавязку не адной толькі буйнай дзяржаўнай прамысловасці. Не меншыя абавязацельствы ляжаць на мясцовай прамысловасці і прамысловай кааперацыі.

**«Выходзячы [illegible]о, што мясцовая прамысловасць можа з'явіцца сур'ёзным дадатковым фактарам у справе ўсебаковага задавальнення хутка ўзрастаючых патрэб рабочых і калгаснікаў, з'езд вызначае рост вытворчасці прадметаў шырокага спажывання мясцовай прамысловасці ў другой пяцігодцы ў тры разы і абавязвае мясцовыя органы да праяўлення максімальнай ініцыятывы ў справе развіцця мясцовай прамысловасці і вышуквання новых відаў сырцу».**

(З тэзісаў «Аб другім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР» да XVII партз'езда).

Асабліва вялікае значэнне мясцовая прамысловасць мае ў БССР. Даволі ўказаць, што план саматужна-прамысловай кааперацыі (разам з лясной) на 1933 год перавышаў 263 млн. руб. Прадпрыемствы райвыканкомаў мелі план у 8 млн. руб. Аб аграмаднай ролі прамкааперацыі ў вытворчасці тавараў шырспажыва сведчыць той факт, што яе **доля ў вырабе тавараў шырспажыва па БССР складае 50 проц.**

Велізарныя сырцовыя рэсурсы і наяўнасць кваліфікаваных кадраў саматужнікаў дазваляюць саматужнай прамысловасці БССР выпусціць у гэтым годзе тавараў шырокага спажывання значна больш, чым намячаецца планам. Зусім правільна старшыня Соўнаркома БССР тав. Галадзед адзначае, што «прамысловыя арцелі, райвыканкомаўскія і гарсавецкія прадпрыемствы маюць невычарпальныя магчымасці для пашырэння сваіх вытворчасцяй шляхам выкарыстання ў першую чаргу мясцовых сырцовых рэсурсаў. Мясцовая прамысловасць Беларусі можа даць на мільёны рублёў новых тавараў — культтавараў, харчовых і інш. Багацці сырцовых рэсурсаў Беларусі (лясны, сельскагаспадарчы сырэц, выкапні і т. д.) дазваляюць шырока развіць выраб мэблі, сельска-гаспадарчага інвентара, шчапных тавараў, рымарных вырабаў, драўляных лыжак, будаўнічых матэрыялаў, культтавараў, усемагчымых прадметаў хатняга ўжытку і інш.





**Растуць гіганты буйнай і лёгкай прамысловасці БССР.** На здымках: 1) Віцебская швэйная фабрыка „Сцяг індустрыялізацыі“, 2) Віцебскі мясны камбінат, 3) Крычаўскі цэментны завод, 4) Віцебская панчошная трыкатажная фабрыка „КІМ“. 5) Гомсельмаш, 6) Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, 7) Касцюковіцкі шкло-гігант, 8) Барысаўская запалкавая фабрыка „Пролетарская перамога“

Барацьба за максімальнае развіццё мясцовай прамысловасці стаіць зараз, як адна з цэнтральных задач усіх партыйных і совецкіх арганізацый БССР. Вакол пытанняў работы мясцовай прамысловасці неабходна сканцэнтраваць увагу ўсёй грамадскасці. Асабліва вялікая роля бальшэвіцкага друку ў барацьбе за развіццё мясцовай прамысловасці і лепшае выкарыстанне мясцовых таварных рэсурсаў.

У святле сказанага аграмаднае палітычна-гаспадарчае значэнне набывае рэспубліканскі паход за лепшае выкарыстанне мясцовых таварных рэсурсаў, абвешчаны па БССР «Звяздой» і пачаты па Совецкаму Саюзу па ініцыятыве газеты «Снабжение, кооперация и торговля». Вітаючы пачын «Звязды», тав. Галадзед адзначыў, што «Беларусь мае ўсе магчымасці выйсці ў лік перадавых і заняць першае месца ў спаборніцтве рэспублік і абласцей на лепшае выкарыстоўванне мясцовых рэсурсаў для выраба тавараў шырокага спажывання».

***

Гарадскі, раённы і нізавы друк БССР абавязан актыўна дапамагчы партыі ў развіцці мясцовай прамысловасці, саматужных промыслаў. Наш друк павінен стаць застрэльшчыкам барацьбы за лепшае скарыстанне мясцовых таварных рэсурсаў і забяспечыць Беларусі першае месца ў спаборніцтве рэспублік і абласцей у гэтай рабоце.

На жаль, да гэтага часу ні адна з гарадскіх і раённых газет практычна не адгукнулася на выклік «Звязды». Ні адна з газет Беларусі фактычна не ўключылася ў рэспубліканскі паход за лепшае скарыстанне мясцовых таварных рэсурсаў, нават **«Віцебскі пролетарый»** і **«Палеская праўда»**, якія абслугоўваюць раёны з асабліва развітай саматужнай прамысловасцю.

Адзінае выключэнне — аршанская газета **«Ленінскі прызыў»**. Для таго, каб намеціць практычную праграму барацьбы за развіццё саматужных промыслаў, «Ленінскі прызыў» склікаў спецыяльную нараду людзей, ведаючых мясцовыя ўмовы і магчымасці. Нарада паказала, што няма ніякіх перашкод для ажыўлення саматужнай прамысловасці. Мясцовая вяровачная арцель, напрыклад, яднае толькі 544 саматужнікаў, а сырцу хапае, каб загрузіць 800 саматужнікаў. Уся астаноўка з-за адсутнасці памяшкання. Калі РВК дапамажа ў гэтай справе, то арцель можа павялічыць выпуск вяровак на 150 проц.

Аршанская швэйная арцель таксама не працуе з поўнай нагрузкай. Калісці яна атрымлівала адкіды магілеўскіх фабрык, а цяпер іх не атрымлівае. Арцель можа рабіць з самых дробных шматкоў нядрэнныя дзіцячыя коўдры, галаўныя ўборы. Трэба толькі дагаварыцца са швэйнымі фабрыкамі аб водпуску арцелі адкідаў, і справа наладзіцца.

Мясцовы старажыла Лыскін унёс на нарадзе некалькі вельмі дзельных прапаноў. Па яго думцы Лясноўская арцель па вырабу беларускіх лыжак, можа павялічыць сваю вытворчасць у некалькі раз. Сырцу хапае. У вёсцы Смятанка ёсць стары будынак у былым памешчыцкім маёнтку, які лёгка можна прыстасаваць пад ганчарную вытворчасць. Гліны добрай многа. Спецыялісты ў калгасе ёсць. Вёска стаіць на беразе Днепра — танны транспарт пад бокам.

Нарада вынесла такія прапановы:

— Арганізаваць да XVII з'езда партыі трыкатажную арцель.

— Вагушэўскай арцелі па вырабу гнутай мэблі арганізаваць выраб славянскіх шаф, крэслаў і рознай дробнай мэблі.

— Лесдрэўхімсаюз павінен к з'езду партыі наладзіць пяць новых смалакурных вытворчасцяй.

— Арцелі, выпускаючыя грубую каламазь, павінны наладзіць выраб коліпотнай (лепшай) калёснай мазі.

— Аршанская арцель «Трудмебель» павінна наладзіць выраб кошыкаў і павялічыць выраб валасяных і мачальных матрацаў.

Намеснік старшыні РВК па прамысловасці тав. Марчанка згадзіўся з прапановамі нарады, арганізаванай газетай.

Даволі было «Ленінскаму прызыву» пачаць барацьбу за развіццё саматужных промыслаў, як з боку раду калгасаў паследавалі практычныя водгукі. Так, у адказ на пастанову нарады калгаснікі арцелі «Чырвоны сад» парашылі аднавіць вытворчасць кафлі, якая да рэволюцыі належала купцу Шалыто. Калгаснікі пачалі рамонт закінутага будынка, загатоўку гліны і форм. Калгас без страты асноўнай вытворчасці зможа даць кафляныя пліты для абліцоўкі печак і сцен, цацкі і пісьмовыя прылады на 200 тысяч рублёў у год.

На жаль, «Ленінскі прызыў», добра па-

чаўшы паход за развіццё мясцовай прамысловасці, абмежаваўся толькі гэтай нарадай. Пры самым уважлівым чытанні спошніх дзесяці нумароў газеты мы не маглі выявіць, як-жа «Ленінскі прызыў» змагаецца за рэалізацыю ўсіх добрых прапаноў, вынесеных нарадай.

Што наш друк павінен практычна рабіць, каб дабіцца рашучага пералома ў рабоце мясцовай прамысловасці, каб выклікаць да жыцця рад новых промыслаў па вырабу тавараў шырокага ўжытку?

Неабходна ў першую чаргу пры дапамозе нізавога друку і рабселькораў праверыць сапраўдныя магчымасці кожнай арцелі, кожнага прадпрыемства райвыканкома для ўстанаўлення рэальнай вытворчай праграмы.

Наш друк павінен пры дапамозе пасцен ных газет і рабселькораў павесці самую рашучую барацьбу за паляпшэнне якасці прадукцыі мясцовай прамысловасці, за максімальнае расшырэнне асартымента, у прыватнасці за расшырэнне мылаварэння, вырабу мэблі, с.-г. інвентара і інш. Трэба дабіцца аднаўлення і расшырэння сеткі рамонтных майстэрань (швайных, шавецкіх, сельска-гаспадарчых), асабліва на буйных прадпрыемствах і ў калгасах, звярнуўшы належную ўвагу па паляпшэнне якасці рамонта.

На беларускім рынку адчуваецца недахват культтавараў. Мясцовыя прадпрыемствы і прамысловыя арцелі маюць усе магчымасці для павялічэння выпуска культтавараў — цацак, спортінвентара, канцылярскіх прыналежнасцяй і інш. **мінімум у дзесяць раз.** За ажыццяўленне гэтай задачы павінен упарта змагацца ўвесь наш друк. Трэба, каб на мясцах газеты з'явіліся ініцыятарам і арганізатарам вырабу культ тавараў, прыцягнуўшы да абмеркавання гэтага пытання работнікаў прамкаапераныі, педагогаў, мастакоў, рабочую грамадскасць.

Вялікім тормазам у развіцці мясцовай прамысловасці і прамкааперацыі служыць адсутнасць у іх дзелавых сувязяй з гандлюючымі арганізацыямі. У прыватнасці, спажывецкая кааперацыя Беларусі не ведае, не цікавіцца саматужнымі промысламі, не шукае саматужных тавараў. Такія адносіны да мясцовай прамысловасці не могуць быць цярпімы, бо спажывецкая кааперацыя нясе адказнасць за забеспячэнне спажыўца ўсімі неабходнымі яму таварамі.

**Якая ў сувязі з гэтым практычная задача стаіць перад друкам?**

Газета павінна дабівацца, каб не было ні адной кааперацыйнай арганізацыі, якая не прадугледзела-б у плане 1934 года ўцягненне ў таваразварот прадукцыі мясцовай прамысловасці, актыўнага ўдзела ў разгортванні саматужнай вытворчасці. Друк павінен арганізаваць сумесныя канферэнцыі вытворцаў і работнікаў кааперацыі для абмеркавання пытанняў развіцця вытворчасці і асартымента тавараў.

***

Выключнай увагі заслугоўвае пачын **«Крестьянской газеты», абвясціўшай усесаюзны паход за разгортванне мясцовай прамысловасці і саматужных промыслаў у калгасах.** «Крестьянская газета» паставіла перад сабой задачу — прадставіць дэлегатам XVII партыйнага з'езда тысячы прапаноў аб скарыстанні мясцовых рэсурсаў.

На заклік «Крестьянской газеты» адгукнуліся многія калгасы розных абласцей і рэспублік Саюза. Заклік газеты шырока падхоплен раённым і палітаддзельскім друкам, які павёў ужо актыўную барацьбу за арганізацыю вырабу тавараў шырспажыва ў калгасах.

На гэты заклік павінны адгукнуцца раённыя і палітаддзельскія газеты БССР. Яны павінны разгарнуць сярод калгаснікаў масавую работу па арганізацыі прадпрыемстваў шырспажыва. Яны павінны склікаць нарады лепшых майстроў саматужнай справы з калгаснікаў, на якіх абмеркаваць пытанне аб арганізацыі калгасных промыслаў. Выявіўшы наяўныя магчымасці, раённыя і палітаддзельскія газеты абавязаны ўпарта біцца за поўнае і неадкладнае скарыстанне гэтых магчымасцяй.

Да XVII партыйнага з'езда засталося мала часу. Аднак, яшчэ да яго адкрыцця можна многа дасягнуць, калі сур'ёзна, па-большэвіцку ўзяцца за справу. Дасягнуць рашучага пералома ў рабоце мясцовай прамысловасці і прамысловай кааперацыі, дабіцца арганізацыі новых промыслаў па вырабу тавараў шырокага спажывання ў раёнах і калгасах — вось баявая задача, якая стаіць перад друкам БССР і аб ажыццяўленні якой яна павінна рапартаваць XVII з'езду партыі.

**Большэвіцкі друк абавязан па-большэвіцку змагацца за аўладанне непачатым краем новых магчымасцяй!**

С. ШОК

# АБ ПАМЫЛКАХ РЭДАКТАРА І ЗАЦІСКУ САМАКРЫТЫКІ

### У баку ад цэнтральнай задачы

Менскі хлебакамбінат ужо на працягу 3-х кварталаў знаходзіцца ў прарыве. Прамфінплан сістэматычна не выконваецца. Якасць выпякаемага хлеба нізкая. За адных толькі 6 дзён з 10 па 16 снежня хлебазавод выпусціў 58 тон хлеба другога і трэцяга сорта, дзве тоны хлеба, якога зусім нельга было пусціць у продаж.

На хлебакамбінаце выходзіць друкаваная газета шматтыражка «УДАРНЫ ХЛЕБАПЁК» (чаго варта адна толькі назва?!). У святле апошняй пастановы ЦК ВКП(б) аб рабоце харчовай прамысловасці зусім выразнымі становяцца задачы гэтай газеты ў барацьбе за паляпшэнне работы камбіната, за паляпшэнне якасці выпускаемай ім прадукцыі.

ЦК ВКП(б) абавязаў усе партыйныя арганізацыі:

«У НАЙКАРАЦЕЙШЫ ТЭРМІН ПАЛЕПШЫЦЬ РАБОТУ НА ХАРЧОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ, ПАВЕСЦІ БАРАЦЬБУ З ІХ АНТЫСАНІТАРНЫМ СТАНОВІШЧАМ І ДАБІЦЦА ВЫПУСКА ХАРЧОВЫМІ ФАБРЫКАМІ І ЗАВОДАМІ ВЫСОКАЯКАСНАЙ ПРАДУКЦЫІ».

Як-жа газета камбіната ў сувязі з гэтай пастановай перабудавала сваю работу? Як яна мабілізуе і арганізуе рабочых камбіната на выкананне прамфінплана, ажыццяўленне важнейшай пастановы партыі аб рабоце харчовай прамысловасці?

Яшчэ за месяц да пастановы ЦК ВКП(б) аб харчовай прамысловасці «Ударны хлебапёк» уключыўся ў вытворчы паход імя т. Гікало. У сувязі з гэтым паходам газета заклікала рабочых даць 100 проц. якасць выпякаемага хлеба, 20 проц. эканоміі на выдаткаванні расліннага масла, 12 проц. эканоміі на светавой і сілавой энергіі, 15 проц. на паліве, павышэнне прыпёка да 52 проц. на жытнім і 40 проц. на пшанічным хлебе і т. д.

Такую задачу паставіла газета перад рабочым калектывам.

Але мала паставіць задачу. Трэба выкрыць прычыны і канкрэтных вінаватых у адставанні камбіната. Трэба правесці вялікую прапагандысцкую, арганізацыйна-масавую работу ў цэхах, брыгадах, зменах, каб забяспечыць ажыццяўленне пастаўленай задачы.

Адна з прычын невыканання камбінатам прамфінплана — гэта аграмадныя прастоі падоў. Таму на вопыце другой брыгады газета дабіваецца, каб:

**«Не было ніводнай хвіліны халастога хода падоў на высеўных печах».**

Паказваючы метады, якія забяспечылі перамогу другой брыгады ў выкананні прамфінплана на 101,5 проц., газета заяўляе:

**«Гэта паказвае, што прамфінплан рэальны, выконваць яго можна».**

Газета выкрывае і канкрэтных вінаватых у невыкананні прамфінплана. Вось комуніст Каплан, які:

**«Згубіў партыйнае чуццё і забыў аб авангарднай ролі комуніста на вытворчасці».**

Газета выкрывае твар бракароба Лейбовіча Барыса, які ў свой час быў зняты з працы, але, пралезшы зараз зноў на завод, сістэматычна выпускае сыры хлеб.

На старонках газеты можна знайсці цэлую плеяду бракаробаў.

Але гэтым газета і абмежавалася. Яна выкрывала, заклікала, а вось замацаваць свае-ж заклікі разгорнутай масавай аперацыйнай работай у цэхах, брыгадах, зменах газета не здолела. Яна не ўцягнула ў актыўны ўдзел у вытворчым паходзе, у барацьбу за прамфінплан рабкораў камбіната. Насценгазеты ў цэхах і ў брыгадах не выпускаюцца. Арганізаваныя ў свой час рабкораўскія пасты за рэдкім выключэннем бяздзейнічаюць.

Больш таго, самы тэрмін «ВЫТВОРЧЫ ПАХОД ІМЯ т. ГІКАЛО» на старонках газеты больш не сустракаецца. Пастанова ЦК ВКП(б) ад 22-Х—33 года аб харчовай прамысловасці не была скарыстана газетай для далейшай мабілізацыі рабочых мас на выкананне прамфінплана, па-

ляпшэнне якасці прадукцыі. Прычым сама пастанова ЦК ВКП(б) не была нават своечасова даведзена да рабочых. Яе газета „Ударны хлебапёк» надрукавала са спазненнем на 12 дзён.

«Ударны хлебапёк» не зразумеў усёй палітычнай важнасці пастановы ЦК ВКП(б) аб рабоце харчовай прамысловасці, не ўключыўся ў барацьбу за ажыццяўленне пастаўленых ЦК задач і ў гэтым яе буйнейшая палітычная памылка

### Як на хлебакамбінаце „кіруюць" нізавым друкам

Азнаёміўшыся са зместам работы шмат тыражкі «УДАРНЫ ХЛЕБАПЁК», рэдакцыя, натуральна, зацікавілася пытаннем: чым тлумачацца буйнейшыя памылкі і недахопы газеты. На камбінат быў накіраван работнік рэдакцыі. І вось вынікі праверкі становішча парткіраўніцтва работай шматтыражкі на камбінаце.

Памылкі і недахопы газеты крыюцца не толькі ў асабістых якасцях самога рэдактара тав. Сліпіцына. Яны маюць глыбокія карэнні ва ўсёй працы партыйната калектыва хлебакамбіната, які не цікавіўся і не займаўся становішчам нізавога друку на сваіх прадпрыемствах. Больш таго, бюро парткалектыва не толькі не кіравала і не дапамагала рэдкалегіі, але стала фактычна на шлях заціска самакрытыкі.

Прывядзем хоць-бы такі абураючы факт заціска крытыкі і самакрытыкі.

Ужо пасля чысткі парткалектыва камбіната, выкрыўшай рад момантаў безгаспадарчасці і самазабеспячэння з боку асобных членаў партыі, у рэдкалегію шматтыражкі паступіла калектыўная карэспандэнцыя ад 11 рабочых завода аб самазабеспячэнні ў ЗРК. Рэдактар газеты паставіў пытанне перад бюро парткалектыва аб стварэнні камісіі для расследвання фактаў, выкрываемых у карэспандэнцыі. Патрабаваліся 2 тыдні пакуль такая камісія была створана. «Факты, моў, устарэлыя і не трэба імі займацца», — заявілі сакратар калектыва т. МАРОЗ і старшыня заўкома т. РОЗЕНБЕРГ.

### Гісторыя адной карэспандэнцыі

Нарэшце, камісія была створана ў складзе 3-х рабочых хлебазавода на чале з пастом РСІ т. Бабічам.

Прывядзем толькі некалькі прыкладаў з выкрытых камісіяй фактаў раскрадвання і разбазарвання прадуктаў з ЗРК:

**«ГРЫНГЛАЗ праз сваю сястру і грамадзяніна Розіна атрымаў мяса і рыбы 3 разы. ГУРСКІ, ЗІСМАН, МАЛЯЎСКІ атрымалі паёк па 2 разы.**

**«5-га лістапада а 7 гадзіне ў краму з'явіліся 7 невядомых грамадзян і па загаду ЗЕЛЬЦЭРА і ДАВІДАВА атрымалі самае лепшае мяса без усякай нормы.**

**6-га лістапада ўвечары з'явіліся працаўнікі трэста ў колькасці 7 асоб і атрымалі мяса ў той час, калі яны не з'яўляюцца пайшчыкамі ЗРК хлебакамбіната.**

**6-га-ж пасля зачынення крамы працаўнікамі была ўтворана дзялёжка вопраткі, у прыватнасці, белых фуфаек, якія былі атрыманы для прэміявання ўдарнікаў».**

ЗРК атрымлівае малочныя прадукты для рабочых, але гэтыя прадукты не даюцца ў буфет, а робіцца дзяльба малака паміж самім штатам ЗРК.

Намеснік дырэктара хлебакамбіната т. ГРЫНГЛАЗ, каб атрымаць цвікі ў Белметалааб'яднанні, рашыў падкупіць там некаторых працаўнікоў добрым пайком са свайго ЗРК. Старшыня ЗРК МАРКОЎСКІ па пісульку т. ГРЫНГЛАЗА на выдачу прадуктаў «прадстаўнікам» Белметалааб'яднання налажыў рэзалюцыю «ВЫДАЦЬ».

На бюро парткалектыва абгаворваюцца вынікі камісіі. І, не глядзячы на тое, што бюро прызнала, што «З БОКУ РЭДКАЛЕГІІ БЫЎ УЗЯТ ПРАВІЛЬНЫ НАПРАМАК» і што «ДЗЕЯННІ РЭДКАЛЕГІІ БЫЛІ ПРАВІЛЬНЫМІ», адпаведнага рэагавання на выкрытыя факты не было. У пастанове бюро парткалектыва зусім абойдзен факт выдачы прадуктаў з ЗРК работнікам Белметалааб'яднання ў абмен на цвікі. Замазан удзел члена партыі загсталоўкі т. КУРЦМАНА ў разбазарванні прадуктаў ЗРК, нічога не сказана аб тых, хто ўвесь час незаконна па 2-3 разы атрымліваў за кошт рабочых прадукты з ЗРК.

І гэта называецца рэагаваннем! Тутжа на бюро пасля разбора вынікаў камісіі асобныя члены бюро заняліся вышукваннем «грахоў» у рэдактара шматтыражкі. А бюро парткалектыва замест

таго, каб даць адпор тым, хто пад відам выпраўлення памылак рэдактара, фактычна стаў на шлях заціска самакрытыкі, рашыла вылучыць камісію для праверкі работы т. Сліпіцына.

У т. Сліпіцына бязумоўна шмат недахопаў і памылак, на якія яму моцна ўказала камісія па чыстцы. Яму трэба дапамагаць, кіраваць яго работай, указваць яму на памылкі. Але на хлебакамбінаце ўжо заведзена так: аб памылках і недахопах рэдактара пачынаюць гаварыць не тады, калі ён іх робіць, але тады, калі газета ці асабіста рэдактар выступае з выкрыццём тых ці іншых недахопаў на камбінаце.

Прывядзем зноў такі факт.

На агульным сходзе парт'ячэйкі хлебазавода член бюро парткалектыва т. Курцман, спасылаючыся на «аб'ектыўныя прычыны», даказваў, што невыкананне прамфінплана па хлебазаводу тлумачыцца выключна тым, што завод у свой час пераходзіў з выпуска формавага на выпуск подавага хлеба і што дровы сырыя. Тав. Сліпіцын у сваім выступленні даказаў адваротнае. Ён прывёў рад фактаў безгаспадарчасці і няўмелага кіраўніцтва з боку раду комуністаў-гаспадарнікаў і ў тым ліку дырэктара хлбаезавода тав. ПЕТЛЯКОВА. Тав. Сліпіцын асабліва падкрэсліў, што ў прарыве на заводзе вінаваты не пераходы з аднаго стандарта на другі і не сырыя дровы, а дрэнная работа парт'ячэйкі хлебазавода на чале з т. КРАСНІКАМ.

**Ультыматум Курцмана**

І вось замест таго, каб шляхам большэвіцкай самакрытыкі выкрыць яшчэ цэлы рад другіх фактаў, перашкаджаючых у працы завода, рад выступленняў на гэтым сходзе былі прысвечаны толькі таму, што т. Сліпіцын у сваёй прамове дапусціў недакладнасць у фармулёўцы.

Калі ў газеце з'явілася заметка і вывады камісіі па абследванню фактаў самаснабжэння, загадчык крамы т. ЗЕЛЬЦЭР, а за ім загадчык сталовай ЗРК т. КУРЦМАН выступілі на агульным сходзе парткалектыва і беспакарана займаліся цкаваннем т. Сліпіцына і самой камісіі, якая расследавала заметку. Пры гэтым член бюро калектыва т. Курцман ультыматыўна патрабаваў ад партсхода разбора гэтых вывадаў тут-жа на сходзе, пагражаючы, што калі вывады не будуць разабраны і калі не будуць прыняты адпаведныя меры да Сліпіцына, ён з заўтрашняга дня зніме з сябе абавязкі загадчыка сталовай.

15-XII—33 г. у газеце «Окцябр» з'явілася заметка, у якой т. Сліпіцын абвінавачваўся ў шавінізме (не прапусціў заметку на яўрэйскай мове ў шматтыражцы «Ударны хлебапёк»). Заметка, аб якой пісалася ў газеце «Окцябр», фактычна была змешчана т. Сліпіцыным у шматтыражцы 11-XII—33 г., і расследванне паказала, што некаторае затрыманне ў змяшчэнні гэтай заметкі ў шматтыражцы адбылося па тэхнічных прычынах (праверка фактаў). Сакратар парткалектыва т. МАРОЗ, старшыня заўкома т. РОЗЕНБЕРГ і нам. дырэктара тав. ШВАРЦ лічаць, што абвінавачанне тав. Сліпіцына ў шавінізме не мае пад сабой ніякіх падстаў. Але прайшло тры тыдні, і бюро парткалектыва не знайшло нават патрэбным рэагаваць на гэту няправільную па адрасу рэдактара заметку.

**„Рэдактара толькі магіла выправіць“**

У гутарцы з нашым карэспандэнтам сакратар парткалектыва т. Мароз заявіў:

«СЛІПІЦЫНА ТОЛЬКІ МАГІЛА ЗМОЖА ВЫПРАВІЦЬ».

Паўстае пытанне: калі гэта так, калі рэдактар шматтыражкі дрэнны комуніст, нягодны работнік, то чаму да гэтага часу парткалектыў не прыняў ніякіх мер, не зняў рэдактара газеты з работы, нічога не зрабіў, каб карэнным чынам перабудаваць работу рэдкалегіі?

Справа-ж ідзе не аб рэдактары Сліпіцыне, а аб рабоце шматтыражкі камбіната, аб рабоце насценнага друку ў цэхах і брыгадах, аб разгортванні большэвіцкай самакрытыкі.

Калі да ўсіх гэтых фактаў яшчэ дадаць і тое, што ні бюро парткалектыва, ні заўком, ні цэхкомы, ні дырэкцыя хлебакамбіната, ні адміністрацыя хлебазавода да гэтага часу не займаліся рэагаваннем на змешчаныя заметкі як у цэнтральных газетах, так і ў сваім заводскім друку, то мы пераканаемся ў тым, што на хлебакамбінаце заціскаецца самакрытыка.

Справай становішча крытыкі і самакрытыкі, работай нізавога друку на менскім хлебакамбінаце павінен заняцца менскі гарком КП(б)Б.

О. К.

МАЦАВАЦЬ ПАРТЫЙНАЕ КІРАЎНІЦТВА ДРУКАМ

# ШЭСЦЬ МЕСЯЦАЎ БЕЗ РЭДАКТАРА

Звыш тысячы рабочых на менскай цукеркавай фабрыцы «Комунарка». Выходзіла раней на фабрыцы шматтыражка, якая мабілізавала і арганізоўвала рабочых на барацьбу за прамфінплан, за паляпшэнне якасці прадукцыі. Лічыцца гэта шматтыражка ў спісе выходзячых у БССР фабрычна-заводскіх друкаваных газет.

Але... шосты месяц няма на фабрыцы рэдактара шматтыражкі, шосты месяц, як шматтыражка фактычна спыніла сваё існаванне.

***

У прысутнасці комуністаў рабочых фабрыкі адбываецца гутарка прадстаўніка нашай рэдакцыі з сакратаром парткалектыва т. ГОЛЬДЗІНЫМ.

Па словах самога Гольдзіна бюро парткалектыва фабрыкі не займаецца пытаннямі работы нізавога друку пачынаючы з таго часу, як шматтыражка засталася без рэдактара.

— Былі, — заяўляе тав. Гольдзін, — спробы знайсці рэдактара для шматтыражкі. Хадзілі ў гарком. Дабіліся нават рашэння сакратарыята гаркома аб прысылцы да нас рэдактара. Маем абяцанне т. Хейфеца (культпропа гаркома), што рэдактара нам дадуць, але пакуль што з усяго гэтага нічога не вышла, і мы не можам выпускаць нашу шматтыражку.

— А чаму-б вам, т. Гольдзін, не падабраць рэдактара ў сябе, з саміх рабочых, рабкораў фабрыкі?

— Бачыце, у нас зусім мала ўсебакова граматных людзей.

— Але, — прызнаецца т. Гольдзін, — пры жаданні можна было-б выдзеліць сакратаром рэдакцыі т. АРЛОЎСКУЮ (рэдактар насценгазеты мякка-шакаладнага цэха) і, усклаўшы часова абавязкі рэдактара шматтыражкі на т. Фельдман (культпроп калектыва), можна было-б дабіцца рэгулярнага выпуску фабрычнай шматтыражкі.

Пад напорам прысутных пры гутарцы рабочых т. Гольдзін прымушан быў далей яшчэ прызнаць, што і з рабочага Гэрасіменка (сакратар адной з цэх'ячэек КП(б)Б) быў-бы не кепскі рэдактар шматтыражкі.

Дык у чым-жа справа? Чаму парткалектыў на працягу 6 месяцаў не змог вырашыць пытанне аб выдзяленні рэдактара і наладзіць работу фабрычнай шматтыражкі?

Справа заключаецца ў тым, што бюро парткалектыва не цікавіцца і не кіруе нізавым друкам. Гэта кідаецца ў вочы, калі знаёмішся са зместам насценгазет фабрыкі, якія працуюць самацёкам, без якога-б там ні было плана.

На фабрыцы выходзіць 12 насценгазет. Большасць змяшчаемых у насценгазетах матэрыялаў не канкрэтны, не маюць ніякага ўплыва на тых, хто сваёй дрэннай работай перашкаджае ў барацьбе за прамфінплан.

Так, напрыклад, насценгазета карамельнага цэха піша аб недахопах у сваім цэху:

> «У нас яшчэ не канчаткова знішчаны прагулы і зачастую маюцца спазненні, што безумоўна перашкаджае працаваць. У нас яшчэ на сёння не ліквідавана абязлічка. Маецца вялікі процант брака і недастатковы процант пачынкі. Санітарнае становішча цэха якбы кранулася з месца, але ўсё-ж далёка не так павінна выглядаць харчовае прадпрыемства, у прыватнасці, фабрыка «Комунарка».

А вось другая вытрымка з насценгазеты дражэйнага цэха:

> «За апошні час наглядаецца тое, што самі рабочыя не добра адносяцца да працы, асабліва з боку налiўшчыц, як, напрыклад, раней налівалі на дошчачку ад 300 да 500 грам, а зараз дасягаюць да 4 кіло і звыш, гэтак сама разліваюць на стол і на падлогу, што шкодзіць працы і гэта ўлічваецца як брак. І мы павінны гэта знішчыць».

Чаго-ж не хапае ў гэтых заметках, апрача газетнага стыля?

Канкрэтнасці, паказа жывых людзей, выкрыцця канкрэтных прагульшчыкаў, лодыраў, бракаробаў, іх прозвішч і імён.

Ці выпадкова гэта?

Не. Не выпадкова. Пастанова ЦК ВКП(б) аб харчовай прамысловасці фактычна (калі не падыйсці да справы фармальна — **С. Ш.**) не даведзена не толькі да кожнага рабочага, але нават да адм.-тэхнічнага персанала фабрыкі.

Ва ўсіх прагледжаных намі штодзенках мы не змаглі знайсці ніводнай заметкі, якая-б хоць адным словам расказвала рабочым аб змесце і вялізарным значэнні пастановы ЦК ВКП(б) адносна харчовай прамысловасці і аб тым, як рабочыя сустракаюць гэту пастанову.

Праўда, дзе-ні-дзе прамільгне ў насцен ках пара слоў аб асабістай гігіене рабочых.

**«Твар нашага кладаўшчыка зусім не падобен на тое, каб было відаць, што тав. Матусевіч змагаецца за санмінімум цэха і рабочага» (з насценгазеты мякка-шакаладнага цэха).**

Або:

**«Грязные у всех халаты,**
**Цехкомом меры не приняты.**
**В грязном он халате сам**
**Видно даже по плечам».**
**(Насценка карамельнага цэха змены майстра Міллера).**

Фармальна ёсць загад, які забараняе зайсці ў цэх без халата. На практыцы рабочыя і служачыя, праўда, апрануты ў халаты, але іх рэдка мяняюць. Халаты брудныя. Больш таго, ёсць паасобныя факты, калі нават некаторыя работнікі фабрычнай лабараторыі сабатуюць гэты загад і не хочуць адзяваць халаты. Так, напрыклад, лабарантка Смолікава 7 студзеня аблаяла вартаўніка, які не хацеў яе пусціць без халата, і плюнула ў твар сакратару комсамольскага калектыва тав. Шчуцкаму, які заступіўся за вартаўніка, заяўляючы, што загад дырэкцыі фабрыкі аб асабістай гігіене адносіцца не толькі да рабочых, але і да лабарантак.

Але справа не толькі ў Смолікавай і нават не толькі ў брудных халатах. Справа ў тым, што з санмінімумам на «Комунарцы» наогул дрэнна. Вось некаторыя характэрныя прыклады. Сіропны зборнік вакум-апарата ў мякка-шакаладным цэху (дзе знаходзіцца сіроп для выраба шакаладных цукерак) зусім адчынен, не гледзячы на тое, што да яго зроблена спецыяльная крышка і што ён заўсёды павінен быць зачынен. Сіропная станцыя гэтага цэха фактычна беспрытульная. Бруд і пах аміяка — вось што кідаецца ў вочы і б'е ў нос, калі заходзіш у памяшканне гэтай станцыі. І вось у гэтым смуродзе бочкі з яблычным пюрэ і адыходамі з працірачнай машыны стаяць адчыненымі, без крышак.

Паводле прамфінплана брак на «Комунарцы» не павінен перавышаць 0,5 проц. Але практыка на гэтай фабрыцы дае зусім іншы малюнак. З адной толькі трэцяй змены ў ноч з 1 на 2 студзеня г. г. майстар карамельнага цэха комсамолец ВАРАБЕЙЧЫК ухітрыўся з 5 тон цукерак даць 900 кілаграм брака, што складае 18 проц. Варабейчык, відаць, не выключэнне. Бракаробы на «Комунарцы» не рэдкасць.

Вось за барацьбу з гэтымі буйнейшымі недахопамі, з канкрэтнымі вінаватымі ў парушэнні санмінімума, бракаробамі і павінны былі ўзяцца насценгазеты і рабкоры фабрыкі.

Але гэта пры той умове, калі-б іх работай кіравала партарганізацыя фабрыкі, калі-б іх арганізоўвала, кіравала імі і дапамагала ім фабрычная шматтыражка. Шматтыражка не выходзіць, партарганізацыя нізавым друкам і рабкорамі не кіруе, насценгазеты фабрыкі прадастаўлены самі сабе і таму яны не могуць з'явіцца вострай і моцнай зброяй партарганізацыі фабрыкі ў барацьбе за прамфінплан.

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Чакаем, што бюро парткома фабрыкі «Комунарка» і Менскі гарком КП(б)Б прымуць тэрміновыя меры для аднаўлення выхада фабрычнай шматтыражкі і ўзмацнення кіраўніцтва работай ніззвога друку і рабкораў фабрыкі.**

---

**«ЛІСТЫ РАБКОРАЎ І РАБОЧЫХ, АДКАЗЫ НА ІХ, НАРЫСЫ, ЗАМЕТКІ, ФЕЛЬЕТОНЫ І Т. Д., НАПІСАНЫЯ САМІМІ РАБОЧЫМІ, ПАВІННЫ ЗАНЯЦЬ У ГАЗЕЦЕ ВІДНЕЙШАЕ МЕСЦА; ГАЗЕТЫ, УСЯЛЯК РАЗВІВАЮЧЫ МЕТАД УДАРНЫХ БРЫГАД ДРУКУ, ПАВІННЫ РАШУЧА ЗМАГАЦЦА СА СПРОБАМІ БЮРАКРАТЫЧНА РЭГЛАМЕНТАВАЦЬ РАБОТУ РАБКОРА, АБМЕЖАВАЦЬ ЯЕ РАМКАМІ ВУЗКІХ ЗАДАННЯЎ З БОКУ РЭДАКЦЫІ»** (З пастановы ЦК ВКП(б) аб фабр.-зав. друку).

**Юр. БЕЛЬКО**

*З ПРАКТЫКІ РАБОТЫ РАЁННАГА ДРУКУ*

# ЧАМУ СЕЛЬКОРЫ НЕ ПІШУЦЬ У ВАШУ ГАЗЕТУ?

## 1. Матэрыялы селькораў ідуць на... „падвёрстку“

Масавасць, як вядома, абавязковая адзнака кожнай бальшэвіцкай газеты. Варта толькі ўспомніць словы Уладзіміра Ільіча аб тым, што ў бальшэвіцкім органе на адзінкі кваліфікаваных журналістаў-літаратараў павінна прыходзіцца сотні і тысячы рабочых і сялянскіх карэспандэнтаў, каб пераканацца, якую вялікую ўвагу наша партыя надавала і надае **масавасці бальшэвіцкага друку.** Тым больш гэта датычыць раённых газет, якія стаяць асабліва блізка да працоўных мас і якія павінны быць моцна звязаны з працоўнымі масамі. Бясспрэчна, што ў раённай газеце матэрыял рабселькораў, лісты працоўных павінны займаць пераважную большасць газетнай плошчы.

Не тое мы бачым у сіроцінскай газеце.

Праглядаем нумары «Ленінскага шляха» за лістапад і снежань. Ужо па адных подпісах можна меркаваць аб тым, хто піша ў газету. Пераважна сустракаюцца прозвішчы: Калтуноў, Харытановіч, Дубаў — гэта работнікі рэдакцыі. Для «рознастайнасці» гэтыя прозвішчы часта замяняюцца псеўдонімамі, ініцыяламі: «Я. Д.», «Х. Калючы», «М. Хвойка» і т. д. Артыкулы работнікаў рэдакцыі вельмі часта непамерна доўгія — 150-200 радкоў. Апрача таго, рэгулярна, амаль у кожным нумары, друкуецца 2-3, а то і 4 пастановы. І рэдка, рэдка сустрэнеш невялікую заметку, напісаную селькорам, калгаснікам. Гэтыя заметкі ідуць, так сказаць, «на падвёрстку».

Праілюструем прыкладамі.

У нумары за 30 лістапада перадрукавана адозва ільнатрапальшчыц Маскоўскай вобласці, змешчана невялікая пастанова РК КП(б)Б, план камісіі па правядзенню гадавіны Октябра (120 радкоў), зводка аб ходзе зябліва, чорная дошка адстаючых калгасаў, 3 артыкулы работнікаў рэдакцыі, 1 артыкул раённага работніка. Вось пералік усіх матэрыялаў, што змешчаны ў гэтым нумары. **Ні адной заметкі рабселькора, калгасніка.** Нумар за 30 лістапада з'яўляецца тыповым: у астатніх нумарах газеты прыблізна такі-ж малюнак. У лепшым выпадку змяшчаюцца ў нумары 2-3 рабселькораўскія заметкі.

## 2. Што паказала картатэка

Гутарка адбываецца ў рэдакцыі газеты «Ленінскі шлях».

— Вы думаеце, мы самі не ведаем, што друкуем зараз вельмі мала матэрыялаў з месц і што гэта наш вялікі недахоп? Мы ведаем гэта, але што-ж зробіш...» і рэдактар **газ. Кірыенка** глыбока ўздыхае.

— Чаму-ж нельга нічога зрабіць? Колькі-ж вы атрымліваеце допісаў з месц...

— Вось тут якраз і ўся прычына. Пішуць нам мала. У лепшыя дні паштавік прыносіць 4-5 лістоў, а то праходзіць некалькі дзён — і ні аднаго ліста. Як хочаш, так і выкручвайся...

Мы разам шукалі адказа на пытанне: чаму-ж не пішуць селькоры ў газету «Ленінскі шлях».

...На стале тэхсакратара ляжыць салідная кіпа картак. Гэта картатэка селькораў. На кожнага селькора заведзена картка, на якой паказана прозвішча і адрас селькора і запісваецца кожная атрыманая ад гэтага селькора заметка. Вывучэнне гэтай картатэкі і набліжае да вырашэння цікавячага нас пытання.

Усяго селькораў згодна картак лічыцца 280. З гэтага ліку 150 селькораў напісалі ў «Ленінскі шлях» толькі па адной заметцы. Каля сотні налічваецца такіх, што прыслалі **па 3-4** заметкі і ўжо некалькі месяцаў **зусім не пішуць.** І толькі нязначная колькасць селькораў прыслалі ў рэдакцыю звыш 10 заметак і калі-ні-калі дасылаюць і зараз. Такія весткі дала нам картатэка.

## 3. Аб селькорах успаміналі перад кампаніямі

Зусім ясна, што рэдакцыя **не замацоўвала** за сабою селькораў. Напісаўшы 1-2 заметкі ў газету, большасць селькораў пакідала пісаць.

Вядома, якое вялікае значэнне мае **перапіска** рэдакцыі з селькорамі, асабліва

калі селькор толькі пачынае пісаць у газету. У гэты час талковы, таварыскі ліст з рэдакцыі на селькора робіць вялізарнейшае ўздзеянне.

Гэтага і не ўлічыла рэдакцыя «Ленінскага шляха», бо іменна перапіска яе з селькорамі пастаўлена вельмі дрэнна.

— Мы пасылалі селькорам лісты амаль перад кожнай кампаніяй, — спрабуе апраўдацца сакратар рэдакцыі тав. **Харытановіч.**

Праўда, лісты селькорам пасылаліся раней амаль перад кожнай важнай кампаніяй. Але, што гэта за лісты?! Яны заключалі ў сябе пералічэнне пытанняў, па якіх рэдакцыя жадае атрымаць ад селькора матэрыял... і толькі. Такі трафарэтны ліст пад капірку размнажаўся ў сотні экземпляраў і раз у 2-3 месяцы пасылаўся па спісу ўсім селькорам. Зразумела, што такія лісты прынеслі вельмі малую карысць.

Нельга ні ў якім разе абмяжоўвацца пасылкаю агульных лістоў. Трэба кожнай рэдакцыі раённай газеты шырока практыкаваць пасылку сваім селькорам **індывідуальных лістоў** — кожнаму селькору асобны ліст. У гэтых лістах трэба, безумоўна, паведаміць селькору аб тым, якія пытанні газета будзе асвятляць у бліжэйшых нумарах, але адначасова і пагаварыць з селькорам аб **прысланых ім заметках, указаць, што ў яго заметках добрага і што дрэннага, чаго не хапае, што слаба асветлена.** Інакш кажучы, праз такія таварыскія лісты трэба **ВУЧЫЦЬ** селькораў пісаць, накіроўваць іх практычную работу ў калгасе на тыя пытанні, якія высоўваюцца ў даны момант партыяй і ўрадам. Вось такія лісты адыграваюць вялізарнае выхаваўчае значэнне, яны будуць актывізаваць удзел селькораў у раённай газеце і адначасова будуць вучыць іх, дапамагаць іх ідэйна-палітычнаму росту і кваліфікаваць як селькораў.

Такім чынам, мы высветлілі, што дрэнная сувязь рэдакцыі «Ленінскага шляха» са сваімі селькорамі з'яўляецца адной з прычын слабай актыўнасці селькораў Сіроцінскага раёна. Але гэта не ўсё. Ёсць яшчэ не менш важныя прычыны.

### 4. Без рэагавання ляжаць сотні допісаў

Добра пастаўленае **рэагаванне** на заметкі з'яўляецца неабходнай умовай для паспяховай работы кожнай раённай газеты. Селькор піша ў газету заметку для таго, каб заметка прынесла пэўную карысць. Калі заметка паведамляе пра недахопы, значыць селькор жадае, каб гэтыя недахопы былі знішчаны. Калі ў артыкуле перадаецца вопыт таго ці іншага калгаса, значыць задача газеты, змясціўшы артыкул, дабіцца, каб гэты вопыт быў скарыстаны іншымі калгасамі. Інакш кажучы, трэба, каб на матэрыялы, што друкуюцца ў газеце ці пасылаюцца ёю на расследванне было заўсёды належнае рэагаванне. Толькі пры гэтай умове газета будзе выконваць сваю важнейшую задачу калектыўнага прапагандыста, агітатара і арганізатара мас.

На працягу мінулага года рэдакцыя «Ленінскага шляха» паслала звыш 400 допісаў на расследванне ў розныя раённыя арганізацыі і сельсоветы. Які-ж лёс гэтых допісаў? Праверка ўстанавіла, што 75 проц. допісаў, пасланых рэдакцыяй на расследванне і рэагаванне, **не былі нават расследаваны** і ляжаць без усякага руху ў розных раённых арганізацыях і сельсоветах. У раёне ёсць некалькі ўстаноў, якія не далі рэдакцыі **ні аднаго** адказа на пасланыя для рэагавання заметкі

З ліку гэтых устаноў перш за ўсё трэба адзначыць **райза,** які зусім не расследуе і не рэагуе на дасылаемыя з рэдакцыі заметкі. А між тым у райза пасылаецца допісаў больш, чым у любую іншую раённую ўстанову. Характар большасці допісаў надзвычай важны. Тут заметкі пра засмечанасць калгасаў, пра няправільнае размеркаванне ўраджаю і т. д. Матэрыял патрабуе тэрміновага расследвання і прыняцця мер. Але чыноўнікі з райза зусім спакойны. Атрыманыя заметкі кладуцца ў папку, на гэтым справа і скончана. Так у райза на 20 лістапада замарынавана 46 допісаў, прысланых з рэдакцыі «Ленінскага шляха».

Загадчык райза **Самусевіч** не лічыць патрэбным рэагаваць на заметкі. За ўвесь год рэдакцыя атрымала ад яго толькі 2 адказы. Гэтыя адказы з'яўляюцца нічым іншым, як узорамі наскрозь бюракратычных адносін.

**Райвыканком зусім не адказвае на заметкі,** якія дасылаюцца яму для расследвання. За апошнія тры месяцы ў РВК рэдакцыя паслала 90 заметак. **Ні на адну заметку адказа не атрымана.**

Райза і РВК не адзіныя ўстановы, якія так злачынна адносяцца да селькораўскіх допісаў і лістоў працоўных. Не лепшая справа і ў райАНА, у якім ляжыць без руху 46 допісаў настаўнікаў і вучняў.

Райпракурор павінен быць першым дапаможнікам рэдакцыі ў барацьбе за дзейснасць рабселькораўскіх лістоў, скарг працоўных. У Сіроціне-ж, наадварот, пракурор зусім не рэагуе нават на тыя допісы і скаргі, што дасланы непасрэдна яму з рэдакцыі. Ужо некалькі месяцаў у пракуратуры ляжаць на расследванні 10 асабліва важных рабселькораўскіх допісаў.

Большасць сельсоветаў сістэматычна не прымаюць мер па допісах, атрыманых з рэдакцыі. Напрыклад, Лаўжанскі сельсовет марыцуе 38 допісаў, Шумілінскі — 69 допісаў.

### 5. Работа з лістамі даручана... машыністцы

Хто ж вінават у тым, што на допісы, дасылаемыя «Ленінскім шляхам», не рэагуюць? **Вінавата перш за ўсё сама рэдакцыя. Рэдакцыя не клапоціцца аб лёсе допісаў, пасылаемых на расследванне,** не сочыць за іх рухам. «Сапхнулі з плеч допіс і наша справа скончана» — такога прынцыпа трымаецца рэдакцыя сіроцінскай газеты. А між тым справа рэдакцыі не толькі паслаць допіс на расследванне, а галоўнае заключаецца ў тым, каб прасачыць да канца — ці **расследуецца ён і як расследуецца, якія меры па ім прыняты** і пасля ўжо паведаміць селькору аб прынятых мерах.

Рэдакцыя «Ленінскага шляха» мела ўсе магчымасці для таго, каб паставіць рэагаванне на належную вышыню.

Гэтага рэдакцыя не зрабіла. Ні разу за апошнія 6 месяцаў не падняла яна на старонках газеты пытанне аб рэагаванні на допісы. Ні разу не пацікавілася зайсці ў раённыя ўстановы і праверыць рэагаванне.

Рэдактар Кірыенка меў поўную магчымасць паставіць пытанне аб злосных магільшчыках рабселькораўскіх допісаў у райкоме партыі і РКК-РСІ. Гэтага таксама зроблена не было. Ці-ж не ясна пасля гэтага, што вінаваціць трэба тут перш за ўсё самую рэдакцыю, ад яе патрабаваць адказа за адсутнасць рэагавання.

Рэдакцыя павінна мець спецыяльнага работніка па рабоце з лістамі рабселькораў. На гэту работу трэба падбіраць найбольш моцных, правераных таварышоў. У «Ленінскім шляху» работа з лістамі даручана... машыністцы. Гэта машыністка-універсал кіруецца наступнымі цвёрдымі правіламі: «замазаўшы прозвішчы селькораў чарнілам, пасылаць допіс на расследванне. Праз месяц рэгулярна пасылаць усім установам напамінанні. Калі прыходзіць адказ на заметку — падшыць яго да справы...».

Вось і ўсе нямудрыя «ўстаноўкі», па якіх у рэдакцыі «Ленінскага шляха» вялася «работа» з лістамі рабселькораў. Вынікі гэтай работы відавочныя: большасць селькораў з-за адсутнасці рэагавання кінулі зусім пісаць у райгазету, парвалі з ёю ўсякія сувязі. Да гэтага прывялі **казённа бюракратычныя** адносіны да рабселькораўскіх лістоў, перш за ўсё з боку **рэдакцыі** газеты «Ленінскі шлях».

Мы ўказалі на галоўныя прычыны адсутнасці масавасці ў газеце «Ленінскі шлях». Да іх трэба дадаць яшчэ некалькі.

У апошні час рэдакцыя спыніла ўсякую **масавую** работу з рабселькорамі. Вельмі рэдка склікаюцца злёты селькораў (апошні злёт быў у жніўні), не праводзяцца кустовыя нарады, семінары, рэдакцыя не правярае, як парт'ячэйкі на месцах кіруюць рабселькорамі і насценгазетамі.

Вось тыя заўвагі, якія павінна ўлічыць рэдакцыя сіроцінскай газеты. Яна павінна цвёрда памятаць, што райгазета не можа існаваць без селькораў, што з селькорамі трэба многа і сістэматычна працаваць, што трэба асабліва чула адносіцца да лістоў працоўных і допісаў рабселькораў.

**Е ЖУРАЎЛЁВА**
адказны рэдактар газеты
„Калгаснік Уздзеншчыны"

# З ЧЫМ МЫ ПРЫХОДЗІМ ДА З'ЕЗДАЎ ПАРТЫІ

Яшчэ ў 1931 годзе ў Уздзенскім раёне было ўсяго 26 насценгазет і 266 селькораў. За ўвесь год вышла толькі 5 нумароў райгазеты **«Калгаснік Уздзеншчыны».** Друкавалася газета тады на шклографе. Толькі з 26-га студзеня 1932 года пачала выходзіць друкаваная газета і то толькі 2 разы ў месяц. Актыў у газеце быў малы — усяго 50 рабселькораў.

З таго часу прайшло толькі 2 гады, але які вялікі зрух яны прынеслі! Пад канец мінулага года мы ўжо мелі 83 калгасныя насценгазеты, 139 брыгадных штодзенак і трохдзенак з арміяй рабселькораў у 3084 чалавекі. Лік рабселькораў раённай газеты ўзрос з 50 да 274. Раённая газета выходзіла рэгулярна 1 раз у пяцідзеўку, а з першага студзеня 9 раз у месяц.

Следам за разгортваннем работы райгазеты і нізавых насценгазет значна ўзрасла актыўнасць рабселькораў. Аб гэтым гаворыць колькасць атрымліваемых рэдакцыяй лістоў рабселькораў раней і зараз. У 1932 г. мы атрымалі 530 лістоў, а на працягу 1933 года атрымалі ўжо 2248 лістоў — больш чым у 4 разы.

Мы практыкуем пасылку ў калгасы і сельсаветы **«сігнальных лісткоў»,** на якіх друкуем на машынцы допіс селькора, і гэты «сігнальны лісток» вывешваецца ў тым калгасе, пра які напісана заметка. Такіх «сігнальных лісткоў» на працягу года мы паслалі **63.**

Наша масавая работа з селькорамі выражаецца ў асноўным у правядзенні нарад і злётаў рабселькораў і рэдактароў насценгазет. За 1933 г. праведзены **4 раённыя злёты** рабселькораў, **трохдзенныя курсы рэдактароў насценгазет і 27 нарад рабселькораў непасрэдна ў сельсаветах і калгасах.** Праведзена **8 спецыялізаваных нарад** рабселькораў (рабселькораў-трактарыстаў, конюхаў і інш.).

Апрача таго на старонках «Калгасніка Уздзеншчыны» змяшчаем агляды насценгазет. На працягу мінулага года змешчана **12 аглядаў.** Рэдакцыяй праведзены **23 рэйды** па розных пытаннях, да ўдзелу ў якіх прыцягваліся дзесяткі рабселькораў.

Праз актыўны ўдзел у друку рабселькоры-ударнікі павышаюць свой ідэйна-палітычны ўзровень, вырастаюць у моцных грамадскіх і савецкіх работнікаў. Актыўны селькор раённай газеты тав. **Стрэчань** высунут зараз старшынёю Самонскага сельсовета, селькор **Шынкарык** — старшынёю Цеплянскага сельсовета. Старшынёю калгаса імя Будзённага выбраны селькор **Аксенчык,** членам праўлення калгаса «6-ы з'езд Советаў» — селькор **Каранецкі Іван.** Актыўны селькор калгаснік тав. **Белевіч** зараз вылучаны на работу ў рэдакцыю райгазеты інструктарам-масавікам.

У рады рабселькораў імкнуцца прайсці і часам пралазяць класава-варожыя элементы. Таму ўвесь час мы праводзім лінію на ачыстку радоў рабселькораў ад усіх антысавецкіх і антыграмадскіх элементаў — кулакоў, падкулачнікаў і т. д. За 1933 год мы выкрылі і вычысцілі з радоў рабселькораў 12 чужакоў. Адначасова праводзім работу, каб ужо ў бліжэйшым будучым кожны ўдарнік-калгаснік стаў актыўным селькорам «Калгасніка Уздзеншчыны» ці сваёй калгаснай насценгазеты.

Вялікае ажыўленне ў работу нізавога друку і рабселькораў унёс палітаддзел МТС. Палітаддзел рэгулярна адзін раз у пяцідзеўку выдае газету **«Большэвіцкі прызыў»** у ліку 500 экземпляраў. Той вялікі рост брыгадных газет у нашых калгасах у часе ўборкі і загатовак тлумачыцца іменна вялікаю ўвагаю, якую аказвае палітаддзел нізавому друку і рабселькорам. Нарэшце, трэба адзначыць, што пачала выходзіць пяцідзенная друкаваная газета ў саўгасе **Кухцічы.**

Ад маленькай шклографнай газеткі з дзесяткам рабселькораў, да трох друкаваных газет, 83 калгасных і 139 брыгадных штодзенак і 3000 селькораўскай арміяй — такі шлях прайшоў нізавы друк Уздзеншчыны ад 1931 года да 15 з'езда КП(б)Б.

Б. ПАПОЎ

# ДАЙЦЕ Ў ГАЗЕТУ БОЙКІ, ПАЛІТЫЧНА ЗАВОСТРАНЫ ЗАГАЛОВАК

«Шапкі» і загалоўкі павінны займаць віднае месца ў рабоце кожнай газеты. Палітычна завостраны, літаратурна пісьменны, свежы загаловак мае аграмаднае значэнне. Ён мабілізуе чытача, прыцягвае ўвагу да змяшчаемага матэрыяла, спрыяе правільнаму арыентаванню ў тым ці іншым пытанні.

І наадварот, блытаны, шаблонны, няўдалы загаловак значна зніжае значэнне артыкула або заметкі, выклікае недаўменне, а часамі проста адштурхоўвае чытача. Не прыходзіцца ўжо гаварыць аб шкодзе палітычна няправільнай «шапкі» або загалоўка.

Якім патрабаванням павінен адказваць загаловак? Ён павінен «адпавядаць змяшчаемаму матэрыялу, ускрываць сутнасць артыкула або заметкі, быць зразумелым, простым, пісьменным, але не шаблонным» («Районная и политотдельская печать» — журнал ЦК ВКП(б).

Асабліва трэба падкрэсліць арганізуючае значэнне «шапкі» і загалоўкаў.

Работа над «шапкай» і загалоўкам — неадлучна ад усёй работы над мовай газеты, яе стылем. А мова-ж—гэта асноўная зброя газетчыка. Такім чынам гаварыць аб якасці «шапкі», загалоўка, значыць гаварыць аб адным з асноўных участкаў газетнай работы.

Між тым іменна мова, а асабліва мова «шапак» і загалоўкаў з'яўляецца ахілесавай пятой вельмі многіх раённых газет.

Перад вачыма кожнага газетчыка ёсць сотні прыкладаў таго, як трэба працаваць над «шапкай» і загалоўкам. Вазьміце нашу ленінскую «Праўду», дзе кожная фраза, кожны лозунг з'яўляецца шэдэўрам літаратурнага мастацтва, дасканаласцю сапраўды большэвіцкага друкаванага слова. Увесь стыль «Праўды»—стыль нашай вялікай эпохі, стыль работы Сталіна і яго баявых саратнікаў.

Або вазьміце «Комсомольскую правду». Колькі маладога энтузіязма, арыгінальнай, вострай мыслі ўбачыце вы ў яе «шапках» і загалоўках. А чаму? Таму, што тут работа над «шапкай» і загалоўкам займае тое месца, якое яна павінна займаць у газеце.

**
*

Паглядзім старонкі некаторых нашых раённых газет. Возьмем к прыкладу «Рэчыцкую праўду».

Вось нумар за 29 снежня. І вось «шапкі» гэтага нумара.

**«Безагаворачна, у бліжэйшыя дні поўнасцю ВЫКАНАЦЬ план загатовак ільну і пянькі».**

**«Цвёрда ТРЫМАЦЬ большэвіцкія тэмпы».**

**«УМАЦАВАЦЬ кіраўніцтва партгрупай і парторгам, узняць на вышэйшую ступень марксісцка-ленінскае выхаванне — задача справаздачна-перавыбарчых сходаў парт'ячэек».**

**«МАБІЛІЗУЕМ усе сілы на неадкладную ліквідацыю прарыва».**

**«РАЗГАРНУЦЬ соцспаборніцтва за атрыманне мандата на права ўдзела ва ўсебеларускім злёце перадавых ільнаводчых калгасаў».**

**«Поўнасцю, штодзенна, згодна заключаных дагавароў ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ выхад лесарубаў і возчыкаў на лесазагатоўкі і вывазкі» і т. д. і т. д.**

Мы не будзем падрабязна разбіраць якасць усіх гэтых «шапак». Возьмем іх толькі з аднаго пункту гледжання. Ці не ясна, што ўжыванне падобнай колькасці загаднага ладу стварае хутчэй уражанне зборніка загадаў, чым газетных «шапак»? Ці не гавораць падобныя «шапкі», што аўтары над імі зусім не думаюць, а, ідучы па лініі найменшага супраціўлення, пішуць тое, што ўздумаецца, толькі-б хутчэй збыць.

Гэты загадны характар «шапак» уласцівы вельмі многім газетам. І не цяжка здагадацца чаму. Даць такую «шапку», загаловак—лягчэй і прасцей за ўсё. Не трэба доўга ламаць галаву.

У гэтай-жа сувязі трэба адзначыць даволі пашыраную думку аб тым, што нібыта шапка будзе насіць арганізуючы характар толькі тады, калі ў ёй абавязко-

за ёсць Дзеяслоў у загадным ладзе. Няправільны гэты погляд і шкодны.

Прывядзем для прыклада «шапку» палітаддзельскай газеты «Красное знамя» (Паўночны Каўказ).

**«Тревога! Глаза коммунистов на хлеб!»**

Ці не ясна, што гэта сапраўды мабілізуючая «шапка», але выдажаная ў прыгожай літаратурнай форме, лепш за дзесятак такіх, дзе нязменна следуюць: «ударыць», «выканаць», «разбіць» і т. д.

У той-жа «Рэчыцкай праўдзе» (за 20 студзеня) над разваротам красуецца «шапка»:

**«Разгарнуць да перавыбараў масавую праверку выканання ўказанняў, зробленых па чыстцы і выпраўленню выкрытых чысткай недахопаў».**

Вядомы дзіцячы пісьменнік Маршак, карыстаючыся гукапераймаппем, малюе ход аўто: «машыны шынамі шуршаць». Ад гэтых слоў у вас перад вачыма міманволі паўстае безліч аўтамабіляў. Ці не выклікае аўтар прыведзенай «шапкі» вобраз «словатворцы» з якой-небудзь акцызнай управы ды яшчэ з гусіным пяром за вухам?

Нельга-ж так бесцэрэмонна выпрабоўваць цярплівасць чытача. Трэба аўтару «шапкі» падвучыцца і правілам дапасавання слоў. Вельмі трэба.

«Шапкі» і загалоўкі газеты «Сталінскі прызыў» (Касцюковічы) адрозніваюцца вялікай змрочнасцю, мяжуючай з бесправетнасцю. Вось у адным толькі нумары (за 3 снежня) знаходзім такія жахі:

**«Пакласці канец самацёку і злачыннаму ігнараванню».**

**«Сігнал друку не пачуты, насенныя і страхавыя фонды не ссыпаны».**

**«Аграномы МТС затрымліваюць ссыпку насенфондаў і размеркаванне ураджаю».**

**«Нанесці руйнуючы ўдар па малейшым зацягванні ільназагатовак».**

**«Кулак Траханаў сарваў пабудову цялятніка».**

**«Сурова судзіць за барбарскае знішчэнне коняй».**

**«Кулацкае супраціўленне ў бульбапастаўках».**

**«Пакараць сабатажнікаў».**

**«Зрыўшчыкі фінплана павінны атрымаць па заслугах».**

У нумары за 10 снежня зноў паўтараецца:

**«Да суровай адказнасці Царковіцкіх і Смолькаўскіх сабатажнікаў і «очковтирателей» засыпкі насення».**

**«План не выконваецца, траста раскрадваецца».**

**«Сурова караць дэзертыраў».**

**«Разграміць сабатаж, выканаць фінплан за 4-ы квартал да 20-XII—33 г.».**

**«У Машаўскім сельпо арудуюць чужакі, зрываюць мабілізацыю сродкаў».**

**«Даволі ліберальнічаць з сабатажнікамі».**

**«Шкоднік Сапялёў разбурае калгас».**

К чаму такая аднабаковасць? Усё-ж гэтыя змрочныя «шапкі» і загалоўкі гавораць аб тым, што газета яўна недаацэньвае вялікую сілу прыклада, важнасць перанясення станоўчага вопыта работы. Мера «патромных» «шапак» і загалоўкаў стварае ў чытача няправільнае ўяўленне аб рабоце партарганізацыі раёна.

Добра выносіць у «шапкі» назвы калгасаў і прозвішчы людзей. Але рабіць гэта трэба ўмеючы. Інакш можа атрымацца абсурд.

Як, к прыкладу, можа ўспрыняць чытач такі загаловак («Сталінскі прызыў» за 17-XII):

**«Дзве брыгады «Чырвонага Інтэрнацыянала» сабатуюць ільназагатоўкі».**

Зразумела, што тут гутарка ідзе аб назве калгаса. Але, па-першае, якое спалучэнне слоў? А па-другое, што атрымліваецца, калі, дапусцім, сядзіць група калгаснікаў і адзін з іх голасна чытае гэту заметку. Чытач павінен або вымаўляць гэтыя несуразныя словы, або-ж агаворвацца так: «Дзве брыгады, двукоссі Чырвонага Інтэрнацыянала, двукоссі, сабатуюць ільназагатоўкі». Таксама атрымліваецца нясклапна. Выходзіць, вельмі карысна заўсёды праверыць «шапку» і загаловак не толькі вачыма, але і на слух.

***

Мы прывялі ўсяго толькі некалькі «шапак» і загалоўкаў з першых трапіўшых пад руку нумароў.

Але і прыведзеныя факты пераканаўча гавораць аб тым, наколькі важна задача палянпшэння якасці «шапак» і загалоўкаў, наколькі павінна быць узнята адказнасць газетчыкаў за літаратурную апрацоўку матэрыяла.

Г. ЦЫПІНА

## ГУТАРКА З РЭДАКТАРАМ

# АБ АДНЫМ НЯУДАЛЫМ ВОПЫЦЕ

15 студзеня калгаснікі Пухавіцкага раёна атрымалі чарговы нумар сваёй раённай газеты **«За калгасы».**

Гэта быў незвычайны нумар. Пачынаючы ад загалоўка і канчаючы подпісам рэдактара гэты нумар адрозніваўся ад усіх папярэдніх нумароў газеты.




З гэтага пачынаецца першая паласа.

Адказныя рэдактары: **І. П. Панкратаў і М. Жук** — заключны радок другой паласы.

І так — гэта быў аб'яднаны нумар пухавіцкай раённай газеты і газеты палітаддзела Пухавіцкай МТС.

Зусім зразумела, што ад аб'яднанага нумара раённай і палітаддзельскай газеты чытачы чакалі і спецыяльнага зместа.

Але... змест газеты аказаўся звычайным: зварот калгаснікаў калгаса «Ш рашаючы» да ўсіх калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў раёна аб уключэнні ў паход імя 17 партз'езда, пастанова РК КП(б)Б, РК ЛКСМБ, РВК і палітаддзела МТС аб абвяшчэнні конкурса на лепшую падрыхтоўку да 17 з'езда ВКП(б) і 15 з'езда КП(б)Б, пастанова РК КП(б)Б па адозве калгаса «Ш рашаючы», яшчэ адна пастанова РК ЛКСМБ і палітаддзела МТС аб ходзе кантрактацыі цёлак для бескароўных калгаснікаў і некалькі заметак.

27 снежня зноў вышаў аб'яднаны нумар газет **«За калгасы» і «Сталінец».** Уся першая паласа гэтага нумара занята пастановай ЦК КП(б)Б аб ходзе загатовак ільну і пянькі. Поўныя 3 калонкі другой паласы — аналагічнай пастановай РК КП(б)Б.

Мы пытаемся ў рэдактароў газеты «За калгасы» — **т. Панкратава** і «Сталінец» — **т. Жука** — з якой мэтай вы выпусцілі гэтыя два аб'яднаныя нумары?

Аб'яднаныя-ж нумары раённай і палітаддзельскай газет — гэта адна з форм сумеснай работы гэтых газет. Формы сумеснай работы газеты палітаддзела з раённай газетай могуць быць самыя рознастайныя. Назавем хоць-бы такія формы, як выязныя рэдакцыі раённай і палітаддзельскай газеты ў адзін або некалькі калгасаў МТС, ці сумеснае правядзенне масавага рэйда брыгад друку па праверцы той ці іншай галіны работы калгасаў (засыпка насенфондаў, пастаноўка ўліку, догляд каня і т. д.), правядзенне мітынга-пераклічкі лепшых калгасаў, вытворчых брыгад і т. д.

Вось у гэтых выпадках можна практыкаваць выпуск аб'яднаных нумароў газет, каб найшырэй папулярызаваць лепшы вопыт, каб мабілізаваць і чытачоў раённай і чытачоў палітаддзельскай газеты на далейшае паляпшэнне работы сваіх калгасаў.

Але гэтай формай (аб'яднаныя нумары газет) нельга злоўжываць.

Нават пры правядзенні сумесных мерапрыемстваў можна частку матэрыялаў друкаваць у раённай, частку ў палітаддзельскай газеце.

Вы-ж, т. т. Панкратаў і Жук, іменна злоўжылі гэтай формай.

Адзінае-ж, чаго вы дасягнулі выпускам двух аб'яднаных нумароў, гэта эканомія паперы (не друкаваць два разы адных і тых-жа пастаноў). Але і палітаддзельскай і раённай газетам зусім не абавязкова было змяшчаць усе гэтыя пастановы. Яны з поспехам маглі-б папулярызаваць, давесці іх да шырокіх мас калгаснікаў і не перадрукоўваючы іх.

Вось чаму гэтыя два нумары вашых газет не далі належнай карысці ні раённай, ні палітаддзельскай газеце.

# НЕ ПЕРАТВАРАЙЦЕ ГАЗЕТУ
## *Ў АФІЦЫЯЛЬНЫ БЮЛЕТЭНЬ*

ЦО партыі «Праўда» яшчэ ў верасні 1933 г. папярэджвала раённыя і палітаддзельскія газеты, што **«адзін з буйнейшых недахопаў значнай (хоць і не пераважнай) часткі раённых газет — той, што яны з баявых, палітычных масавых органаў партыі часамі ператвараюцца ў бюлетэні, ведамасці райкомаў і райвыканкомаў».**




Гэта небяспека ператварэння ў бюлетэнь, ведамасці паўстае перад быхаўскай раённай газетай **«Маяк комуны».**

Разгледзім змест трох нумароў «Маяка комуны», вышаўшых 15, 16 і 20 снежня 1933 г.

**15 снежня.** Уся першая старонка занята пастановай бюро райкома КП(б)Б «Аб правядзенні справаздачна-перавыбарчай кампаніі партыйных органаў», пастановай бюро РК КП(б)Б, РВК і палітаддзела МТС «Аб ходзе забеспячэння бескароўных калгаснікаў цёлкамі». Уся другая і дзве трэці трэцяй старонкі — «З прамовы т. Постышава на пленуме ЦК КП(б)У» (прычым, працяг гэтай прамовы перанесен у наступны нумар). На трэцяй-жа старонцы зноў такі пастанова РК КП(б)Б «Аб ходзе выканання фінплана 4-га квартала», зводка аб ходзе мабілізацыі сродкаў па раёну і толькі 2 невялікія заметкі. І, нарэшце, на чацвертай старонцы яшчэ адна пастанова РК КП(б)Б, РВК і палітаддзела МТС «Аб ходзе загатовак тэхкультур», паведамленне аб арганізацыі газетай «Калгаснік Беларусі» завочных агратэхнічных курсаў, паведамленне ад рэспубліканскай камісіі па чыстцы КП(б)Б, абвестка аб прыёме і ўмовах падпіскі на газету «Маяк комуны», абвестка аб адкрыцці аднагадовых педагагічных курсаў.

Ва ўсім нумары толькі 3 заметкі рабселькораў.

16 снежня «Маяк комуны» вышаў на 2 паласах. Але і гэтыя дзве паласы заняты афіцыяльнымі матэрыяламі.

**16 снежня.** Уся другая паласа — працяг прамовы т. Постышава (і зноў працяг у наступным нумары). Амаль поўныя дзве калонкі першай паласы — з пастановы райпрафсовета «Аб масавым вытворчым паходзе па сустрэчы 17 з'езда ВКП(б) і 15 з'езда КП(б)Б».

**20 снежня.** Першая старонка — пастанова бюро РК КП(б)Б «Аб контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай вылазцы ў 1-й сямігодцы», пастанова пленума ЦК КП(б)Б «Аб ходзе загатовак ільну і калгасным будаўніцтве», вялікая зводка (на 85 радкоў петыта) аб ходзе выканання плана загатовак тэхкультур па раёну і два рэдакцыйныя матэрыялы. Другая старонка — канец прамовы т. Постышава і пастанова пленума ЦК КП(б)Б па рэзалюцыі пленума ЦК КП(б)У аб выніках правядзення нацпалітыкі на Украіне.

Трэцяя старонка (комсамольская) — амаль на ўсю паласу пастанова райкома комсамола «Аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да 17-га з'езда ВКП(б), 15-га з'езда КП(б)Б і 15-годдзя ЛКСМБ». Апрача пастановы на гэтай старонцы — абвестка аб скліканні пленума РК ЛКСМБ і толькі адна заметка аб глухаўскай комсамольскай ячэйцы.

На 4-й паласе яшчэ адна пастанова РК КП(б)Б і прэзідыума РВК «Аб выкананні пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 22 лістапада 1932 г. «Пра абавязковыя пастаўкі малака і масла дзяржаве ў 1934 г.».

Мы наўмысля поўнасцю прывялі змест гэтых трох нумароў «Маяка комуны», каб паказаць, **як не трэба рабіць раённую газету.**

І сапраўды, т. **Левін,** уявіце сабе становішча чытача газеты, якую вы рэдагуеце, калі ён атрымаў падрад тры нумары

газеты з аднымі прамовамі і пастановамі.

Навошта вам патрэбна было 15 снежня змяшчаць адразу 4 вялікія пастановы?

**«На ўменні выкладаць, папулярызаваць пастановы партыйных і совецкіх органаў так, каб яны дайшлі да калгасніка яснымі, неперакручанымі, нескажонымі — на гэтым практычна правяраецца кожны рэдактар газеты»** — так вучыла нас «Праўда».

Ці значыць гэта, што трэба друкаваць у газеце ўсе пастановы?

Безумоўна, не.

Гэта не значыць таксама, што трэба зусім адкінуць усе пастановы і рэзалюцыі. Давесці пастановы партыі да шырокіх працоўных мас — першы абавязак газеты. Але гэта можна зрабіць не толькі перадрукам усіх пастаноў у газеце. Значную большасць іх можна друкаваць не поўнасцю, а выкладаць і растлумачыць чытачу характар і значэнне гэтых дакументаў. Прычым выкладаць так, каб не скажаць сэнсу пастановы, адозвы, рэзалюцыі, **не спрашчаць, а іменна папулярызаваць.**

Вялікі пролетарскі пісьменнік **Максім Горкі**, прачытаўшы раз адну аповесць, сказаў: «Як відаць, аўтар перад сабой чытача не бачыў».

**Рэдактар газеты павінен заўсёды бачыць перад сабой чытача.**

Раённая газета разлічана на масавага чытача, на радавога рабочага, калгасніка, працоўнага аднаасобніка. Гэтага ні ў якім разе нельга забываць, т. Левін.

І таму зусім недапушчальна загружаць газету шматлікімі пастановамі і рэзалюцыямі. Трэба газетныя паласы прадаставіць самім рабочым і калгаснікам, каб на іх матэрыялах, на жывых канкрэтных прыкладах выхоўваць шырокія працоўныя масы, падымаць іх на барацьбу за выкананне пастаўленых партыяй задач. Адна з галоўных умоў для таго, каб стаць сапраўды масавай газетай — гэта даць магчымасць загаварыць на яе старонках сотням самых калгаснікаў і калгасніц, гэта гаварыць з калгаснікам простай, яснай і зразумелай мовай.

**Гэта трэба ўлічыць пры рабоце над пастановай, рэзалюцыяй, адозвай.**

**Крытычныя заметкі**

## ЧЫЮ ГАЗЕТУ ВЫ РЭДАГУЕЦЕ, т. ДЛУГАШЭЎСКІ?

7 студзеня мы атрымалі невялічкую, надрукаваную на «амерыканцы» газетку, памечаную датай 5 студзеня 1934 года.

Толькі па аднаму петытнаму радку на чацвертай паласе: **«г. Ветка, Друкарня «ЗБТ»** ды па змешчанаму рапарту на 1-й паласе **«VII Веткаўскай райпартканферэнцыі»** мы здагадаліся, што гэта веткаўская раённая газета **«За большэвіцкія тэмпы»**. Бо газета выйшла з такім загалоўкам:

**„ЗА БОЛЬШЭВІЦКІЯ ТЭМПЫ“**
**Орган РК КП(б)Б, РВК і РПС**

| |
|---|
| Пятніца 5-га студзеня 1934 г. |

Мы, пытаем у адказнага рэдактара веткаўскай райгазеты тав. **Длугашэўскага:** чаму вы трымаеце ў такім строгім сакрэце орган якога РК КП(б)Б вы рэдагуеце і які нумар гэтай газеты вышаў 5 студзеня 1934 года — 1-ы ці 101-шы?

Няўжо вы саромеецеся сваёй газеты?

## З КІМ ВЯДЗЕЦЕ ГУТАРКУ?

**«Тав. Хвацік, ты павінен быць лепшым ударнікам у калгасе»** — гэта загаловак заметкі.

**«Праўленне калгаса павінна гэтага сабатажніка прыцягнуць да адказнасці»** — гэта канец заметкі.

Вы думаеце, што справа ідзе аб двух розных заметках ці хоць-бы аб двух розных людзях?

Памыляецеся. Гэта газета палітаддзела Лельчыцкай МТС заклікае быць лепшым ударнікам калгасніка **Хваціка**, які адмаўляецца ад даручаемай яму працы, **«праводзіць шкодную агітацыю сярод калгаснікаў»** і які **«толькі што вярнуўся з Чырвонай арміі»** і тут-жа газета прапануе прыцягнуць гэтага Хваціка да адказнасці, як **сабатажніка.**

Адно з двух — або Хвацік сабатажнік, тады няма чаго заклікаць яго стаць лепшым ударнікам, або ён проста недысцыплінаваны калгаснік і яго трэба падцягнуць, перавыхоўваць, тады нельга залічваць яго ў сабатажнікі, тав. Скурат-Анісовіч!

Я. ІВАШЫН.

З АПОШНЯЙ ПОШТЫ

# ЯК У БЕШАНКОВІЧАХ АПОШЛІЛІ ДОБРУЮ ІНІЦЫЯТЫВУ

Слова «лодыр» у наш час гучыць ганьбай. Тым не менш гультайства, лодырніцтва, як з'явішча адсталасці і ўплыву кулацкіх элементаў, мае сваё месца, галоўным чынам, у тых калгасах, дзе не вядзецца сапраўдная бальшавіцкая барацьба за свядомую жалезную працоўную дысцыпліну.

Калгаснікі с.-г. арцелі «Новая зара», **Бешанковіцкага** раёна, выкарыстаўшы вопыт палітаддзела Будзёнаўскай МТС (Паўночны Каўказ), праявілі добрую ініцыятыву ў барацьбе з парушальнікамі працоўнай дысцыпліны. Калгаснікі паставілі пытанне перад раённым кіраўніцтвам аб склікашні раённага злёта... лодыраў.

Райком і палітаддзел ухвалілі гэту прапанову і абавязалі праўленні калгасаў вылучыць кандыдатуры лодыраў на раённы злёт. Спісы гэтых кандыдатур прысылаць у раённую газету **«Сталінец»** для апублікавання. Разам з тым пастановай райкома і палітаддзела праўленням калгасаў прадастаўлена права здымаць з кандыдатаў на злёт лодыраў тых асоб, якія пасля вылучэння выпраўляюцца, рэгулярна выходзяць на работу і добрасумленна выконваюць свае абавязкі.

У калгасах імя Калініна, 1-га мая, і інш. вылучэнне кандыдатур на раённы злёт лодыраў праводзілася масава, на агульных сходах, дзе кожнага лодыра «па костачках перабралі». Такое ўздзеянне грамадскасці дало свае станоўчыя вынікі. Многія прагульшчыкі назаўтра-ж першымі выйшлі на работу.

У калгасах Пажарышчанскага сельсовета, дзякуючы разгорнутай масавай рабоце вакол злёта дабіліся поўнай ліквідацыі прагулаў. Кандыдатур на злёт лодыраў там пакуль што не знаходзіцца.

Але, як кажуць, няма кепскага без добра. Найлепшы пачын, найлепшую ініцыятыву, калі падысці да яе правядзення фармальна, непрадумана, можна ператварыць у нішто, а то і зусім апашліць. Прачытаўшы пастанову РК КП(б)Б і палітаддзела па скліканню раённага злёта лодыраў, **Навікоўскі** сельсовет адным узмахам пяра залічыў у лодыры 19 чалавек актыва сельсовета. Раённая газета гэты спіс апублікавала.

Галавацяпы, узначальваючыя Навікоўскі сельсовет, лічаць, што дырэктыву райкома і палітаддзела выканалі. Па форме гэта так, а па сутнасці — самы абураючы здзек і з дырэктывы і з людзей.

Не меншае галавацяпства праявілі ў гэтым пытанні і кіраўнікі Каўлякоўскага сельсовета. Прэзідыум сельсовета вылучыў кандыдатамі на злёт лодыраў старшыню калгаса «Чырвоны Октябр» Фрыдмана, партпрымацаванага да калгаса «Перамога» Антоньшава, настаўніка Пятніцкай школы Шыёнка П. і інш.

За што?

Старшыня калгаса Фрыдман залічан у кандыдаты на злёт лодыраў за тое, што не выконваў ільназагатовак і ў той-жа час хаваў трасту для размеркавання сярод калгаснікаў. Антоньшаў і Шыёнак— за дрэнную работу па ільназагатоўках.

Правільна зрабілі з такім вылучэннем?

Безумоўна не. Не з гэтага пачалі каўлякоўскія кіраўнікі.

У пастанове Бешанковіцкага РК КП(б)Б і палітаддзела ясна гаворыцца аб лодырах, якія «не выходзяць на работу трапляя ільну, ці даюць зусім нізкую норму выпрацоўкі».

А ў Каўлюковічах пачалі са старшынь калгасаў і настаўнікаў. Калі-ж справа ідзе канкрэтна аб старшыні калгаса Фрыдмане, дык яго трэба прыцягваць да адказнасці за кулацкія, мясніцкія тэндэнцыі, накіраваныя на зрыў ільназагатовак. Тут не лодырства, а больш цяжкае злачынства перад дзяржавай, і змазваць гэта пад відам барацьбы з лодырніцтвам нельга.

Цяпер аб настаўніках. Ад настаўніцтва безумоўна патрабуецца актыўны ўдзел у правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній на вёсцы. Але не трэба забываць, што асноўная работа настаўніка ўсё-ж у школе і калі, скажам, настаўнік Шыёнак працуе ў школе добра, а ў грамадскай рабоце не праяўляе сябе як трэба, дык яго неабходна ўцягваць у гэту работу, а не шальмаваць лодырам, як гэта робіць Каў-

лякоўскі сельсовет.

І горш за ўсё тое, што раённая газета **«СТАЛІНЕЦ» не толькі штампуе такія ганавацяпскія ўчынкі, а з захапленнем усхваляе іх.** У артыкуле «Як патрэбна вылучаць лодыраў на раённы злёт лодыраў» (28 снежня № 112), рэдактар газеты **Шылянкоў** павучае:

> **«Падхапіць вопыт... Каўлякоўскага сельсовета, як патрэбна весці барацьбу з лодырамі, ворагамі заможнага жыцця ў калгасах. І тады непатрэбна будзе брыгадзірам і старшыням калгасаў бегаць па хатах, а калгаснікі самі кожны раз вечарам будуць патрабаваць работы ад брыгадзіра на заўтрашні дзень».**

Сказана зусім у стылі «прыдзе каза да воза...» Нельга так спрашчаць пытанне, зводзіць усю выхаваўчую работу ў калгасах па ўмацненню працоўнай дысцыпліны толькі да вылучэння кандыдатур на раённы злёт лодыраў. Ініцыятыва калгаснікаў «Новай зары» аб скліканні раённага злёта лодыраў—добры пачын. Дрэнна толькі, што гэту важную справу ў пачатку яе разгортвання пачалі з благаславення газеты «Сталінец» апашляць у многіх мясцах раёна.

# „МЫ ЛЮБІМ КАНЯ, ТАМУ НАШЫ КОНІ ДОБРЫЯ"

«Добра дагледзіш, своечасова накорміш і напоіш каня, зробіш для яго добрае стойла — конь будзе добра цягнуць, добра нацягне конь — значыць у тэрмін і высокаякасна выканаеш тыя ці іншыя сельскагаспадарчыя работы» — так пачалі свой ліст у раённую газету **«Сцяг калектывізацыі»** ўдарнікі-конюхі калгаса **«Іскра рэволюцыі», Глускага раёна.**

У калгасе 25 коняй. У дні завяршэння сельскагаспадарчых работ і выканання плана здачы дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі гэтай цяглавай сіле была дана дадатковая нагрузка: адвезці на станцыю Ратміравічы (35 кілометраў ад калгаса) 700 пудоў збожжа, 2592 пуды бульбы, сена, саломы і інш. Конюхі-ўдарнікі дапамаглі калгасу справіцца з гэтымі абавязкамі, бо яны ведалі, што «раз коні моцна нагружаны, значыць і мы, конюхі, павінны сябе больш нагрузіць увагай і клопатамі да каня».

Як-жа Чарнушын, Кікар і Тараховіч — гэтыя лепшыя ўдарнікі калгаса — даглядаюць сваіх коняй? Аб гэтым і расказвае раённая газета «Сцяг калектывізацыі» ў спецыяльнай старонцы «Арганізаваць догляд за канём такі, як арганізаваў комсамолец, Кікар Антось».

Першае, што зрабілі конюхі калгаса «Іскра рэволюцыі», гэта добра ацяплілі канюшню. Падшылі дзверы, пазатыкалі ў сценах дзіркі і, урэшце, зрабілі кухню для варкі бульбы. Конюхі дабіліся павялічэння кармавога фонда для коняй. Зараз коням вызначан спецыяльны фонд бульбы ў 1500 пудоў і аўса — 600 пудоў.

Уся збруя ў конюхаў на ўчоце, яе спраўнасць правяраецца штодзенна. Кожны конь і збруя да яго прымацаваны да асобнага калгасніка.

У канюшні калгаса «Іскра рэволюцыі» вісіць гадзіннік. Раніцой, калі праб'е чатыры гадзіны, конюхі бяруцца за работу: яны адчыняюць душнікі, асвяжаюць паветра ў стайні, даюць коням вызначаную норму сена. Праз гадзіну коні пояцца, падкормліваюцца паранкай з бульбай, потым аўсом і т. д.

9 гадзін вечара. Старшы конюх, удзельнік 1-га ўсебеларускага злёта конюхаў-ударнікаў, комсамолец Кікар Антось правярае коняй, аглядае іх. І так штодзенна...

**
*

Такі лепшы ўзор прыкладнага догляду коняй папулярызуе на сваіх старонках глуская раённая газета «Сцяг калектывізацыі». Газета заклікае ўсіх конюхаў раёна раўняцца па конюхах калгаса «Іскра рэволюцыі», яна мабілізуе калгаснікаў на лепшы догляд коняй, на большэвіцкую пільнасць да калгаснай канюшні, на падрыхтоўку каня да веснавых работ.

ПРАЎДЗІНСКІ ПАПЯРОВЫ КАМБІНАТ.



НА ЗДЫМКУ: Агульны выгляд камбіната. (Горкаўскі край).

М. ЗЕРНІЦКІ

# ПА-НОВАМУ АРГАНІЗУЕМ
## ЗАВОЧНУЮ ВУЧОБУ ГАЗЕТНЫХ КАДРАЎ

Вялізарны рост культурна-палітычнага ўзроўня рабочых і калгасных мас, рост сеткі нашых газет, стварэнне новага магутнага звяна большэвіцкага друку — палітаддзельскіх газет — усё гэта патрабуе вялікіх кваліфікаваных газетных кадраў.

Усё больш востра ад газетных работнікаў патрабуецца «сапраўды большэвіцкай вытрыманасці і арганізатарскіх здольнасцяй, умення па-баявому і неабходнымі тэмпамі арганізоўваць масы па вырашэнне асноўных задач соцыялістычнага будаўніцтва» (з пастановы ЦК ВКП(б) аб кадрах газетных работнікаў).

Між тым, вялікая колькасць работнікаў у раённых і палітаддзельскіх газетах маюць вельмі нязначную газетную падрыхтоўку і кваліфікацыю.

Задаволіць у значнай ступені цягу да вучобы, да павышэння газетнай кваліфікацыі кіруючых работнікаў, раённых і палітаддзельскіх газет і ставяць сваёй задачай курсы па завочнаму навучанню, арганізаваныя пры КІЖ'ы БССР згодна пастановы ЦК КП(б)Б.

Курс завочнага навучання разлічан на 1 год. Вучэбны план ахапляе наступныя дысцыпліны:

1) Ленінізм, 2) работа над газетай, 3) арганізацыйна-масавая работа газеты, 4) тэхніка афармлення газеты, 5) беларуская мова і 6) літаратура.

Асноўны прынцып завочнага газетнага навучання — гэта ажыццяўленне арганічнай узаемасувязі вучобы з канкрэтнымі практычнымі задачамі газетных работнікаў, іх газетнай практыкай. **Павышэнне агульна-палітычнага ўзроўня рэдакцыйных работнікаў, дапамога кожнаму з іх на-хаду, у працэсе штодзеннай практычнай работы — вось баявая задача завочнага навучання. Адсюль важнейшым паказальнікам паспяховасці вучобы завочніка павінна стаць газета, якую рэдагуе, ці ў якой працуе завочнік.**

Таму пры праходжанні курса «Работа над газетай» (літаратурна-палітычнае афармленне газеты — карэспандэнцыю, артыкул, агляд друку і т. д.), як і курса «Арганізацыйна-масавая работа», мы бу-

дзем выходзіць як з якасці выканання вучэбных пісьмовых заданняў, так і з вывучэння і ацэнкі работ і матэрыялаў завочнікаў, змешчаных і правадзімых у газетах, дзе завочнікі працуюць. Такім шляхам мы правядзем заняткі, напрыклад, па рабоце над лістом калгасніка, над газетнай справаздачай, артыкулам, над складаннем плана газеты і т. д.

Курс **тэхнікі афармлення газеты** будзе праводзіцца таксама на матэрыяле газет, дзе працуюць завочнікі, шляхам паказа дадатных узораў вёрсткі, з таксама і няўдала звёрстаных газет. Задача гэтага курса — навучыць умеламу апераванню наяўнымі запасамі шрыфтоў, паказаць, як будаваць загалоўкі, шапкі, як афармляць паасобныя падборкі, макет-план нумара — усё гэта шляхам ілюстрацыі вопыта і асобных раённых і палітаддзельскіх газет, дзе працуюць завочнікі.

Разам з прахаджэннем курса **ленінізма** завочнікі прапрацуюць **пытанні марксіцка-ленінскага вучэння аб друку,** аб партыйнасці друку, аб характары агітацыйтыйнасці друку, аб характары агітацыйна-прапагандысцкай дзейнасці большэвіцкага друку, аб арганізатарскай ролі нашых газет (артыкулы, выказванні Маркса-Леніна і Сталіна аб ролі друку).

Слабае веданне **мовы** досыць часта прыводзіць да скажэння думак аўтара. Памылкі ў карыстанні словам і будове сказа досыць часта перарастаюць у палітычныя памылкі. Трэба памятаць аб тым, што мова — адзін з участкаў класавай барацьбы. У БССР, як вядома, беларускія контррэвалюцыйныя нацдэмы працягнулі свае шкодніцкія рукі і сюды —у галіну мовы, у тэрміналогію, у граматыку.

Завочнікі — газетныя работнікі павінны ўзняць свае веды ў галіне мовы, **аўладаць у дасканаласці новым беларускім правапісам,** стаць сапраўднымі праваднікамі пастановы СНК БССР аб зменах і спрашчэнні беларускага правапіса. Гэта пастанова — магутная зброя барацьбы за далейшы росквіт беларускай нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры, магутная зброя ў барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм. Завочніку будзе дан элементарны курс мовы, які павінен прывесці ў сістэму яго веды, дапамагчы навучыцца пісаць зусім граматна.

Мастацкае слова — магутная зброя выхавання шырокіх мас рабочых і калгаснікаў. Напісаць у газету заметку, артыкул або справаздачу жыццёва, вобразна, ярка, значыць зрабіць газету яшчэ больш зразумелай, яшчэ больш уплываючай, яшчэ глыбей давесці праз газету лозунгі партыі ў шырокія масы працоўных.

**Курс літаратуры** ў нашым завочным навучанні і ставіць сваёй мэтай навучыць газетных работнікаў карыстацца мастацкім словам, арганізаваць чыткі завочнікам калгаснікам лепшых узораў сучаснай мастацкай літаратуры.

За час завочнай вучобы мы разбярэм 1-2 праблемы з галіны літаратуры, у першую чаргу праблему «сялянства ў мастацкай літаратуры» на матэрыяле класікаў рускай літаратуры і аналізе лепшых твораў аб совецкай вёсцы: «Бруські» Панферава, «Разбег» Стаўскага, «Паднятая цаліна» Шолахава.

***

Вось у асноўных рысах праграма заняткаў па завочнаму навучанню пры КІЖ'ы БССР.

Задачы, пастаўленыя перад завочным навучаннем, змогуць быць дасягнуты толькі пры добрасумленных адносінах кожнага завочніка да вучобы. Трэба навучыцца ўмела, рацыянальна скарыстаць час, які павінен прадастаўляцца завочніку згодна пастановы ЦК КП(б)Б.



РАБОЧЫЯ ЗА ЧЫТКАЙ ШМАТТЫРАЖКІ.

Неабходна арганізаваць сваю вучобу па пэўнаму плану, каляндарнаму раскладу. Упершую чаргу патрабуецца даскапала, у вызначаныя тэрміны выконваць вучэбныя, пісьмовыя заданні, па якіх завочнікам будуць пасылацца водгукі-рэцэнзіі.

Вялікую ролю павінна адыграць **соцыялістычнае спаборніцтва паміж завочнікамі** *) на лепшую работу ў газеце і лепшую вучобу, абмен газетамі і лепшым вопытам паміж спаборнічаючымі.

**Сувязь і актыўны ўдзел у журнале «Большэвіцкі друк»** — адна з важнейшых умоў правільнай пастаноўкі завочнага навучання.

На старонках журнала ўводзяцца спецыяльныя аддзелы па абмену вопытам і пастаноўцы актуальных пытанняў газетнай работы — **«Трыбуна рэдактара»**, а таксама аддзел **«Кансультацыя завочнага КІЖ'а»**, куды завочнікі павінны накіроўваць усе пытанні, узнікаючыя ў працэсе іх работы ў газеце і завочнай вучобе.

Ад ступені актыўнасці і сувязі завочнікаў з КІЖ'ам БССР і журналам «Большэвіцкі друк» будзе ў значнай ступені залежаць паспяховая пастаноўка і разгортванне завочнага навучання.

*) Спісы прынятых на завочную вучобу ў КІЖ БССР друкуюцца ў журнале «Большэвіцкі друк».

## СПІС ТАВАРЫШОЎ, ПРЫНЯТЫХ НА ЗАВОЧНАЕ НАВУЧАННЕ У КІЖ

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Баранаў П. А. | адказны рэдактар газ. „Ударнік“ (Сураж) |
| 2. | Прахарэнка Я. М. | „ „ „ „Барацьбіт за калектывізацыю“ (Плешчаніцы) |
| 3. | Іофін М. І. | „ „ „ „Ленінскі сцяг“ (Хойнікі) |
| 4. | Жураўлёва В. Г. | „ „ „ „Калгаснік Уздзеншчыны“ (Узда) |
| 5. | Байкачоў Р. М. | „ „ „ „Калгаснік Талачыншчыны“ (Талочын) |
| 6. | Зайцэў К. Г. | „ „ „ „Калгаснік Любаньшчыны“ (Любань) |
| 7. | Старасценка Ц. П. | „ „ „ „Калгасная праўда“ (Асіпавічы) |
| 8. | Левін Н. Г. | „ „ „ „Маяк комуны“ (Быхаў) |
| 9. | Прахарэнка Ф. М. | „ „ „ „Сталінскі прызыў“ (Касцюковічы) |
| 10. | Вярхоўскі Р. Б. | „ „ „ палітаддзела Рагачоўскай МТС |
| 11. | Скурат-Анісовіч | „ „ „ палітаддзела Лельчыцкай МТС |
| 12. | Казачук Я. Я. | нам. рэдактара газ. „Ленінскі сцяг“ (Хойнікі) |
| 13. | Стефановіч А. Ф. | „ „ „ „Большэвік Барысаўшчыны“ (Барысаў) |
| 14. | Адамаў І. М. | „ „ „ „Комунар“ (Рагачоў) |
| 15. | Капырын А. М. | „ „ „ „Ленінскі сцяг“ (Лёзна) |
| 16. | Этчык Ц. С. | „ „ „ „Калгаснік“ (Чырвоная Слабада) |
| 17. | Садоўскі Л. В. | „ „ „ „Калгасная праўда“ (Лепель) |
| 18. | Шэўчэнка А. К. | „ „ „ «Калгаснік Капыльшчыны» (Капыль) |
| 19. | Трацэўскі С. А. | рэдактар польстаронак газ. „Калгаснік Капыльшчыны“ |
| 20. | Крэйзель І. В. | літпраўшчык газ. „Калгасная праўда“ (Асіпавічы) |
| 21. | Трапэўскі П. В. | адказны сакратар газ. „Калгасная праўда“ (Асіпавічы) |
| 22. | Камісвік Т. Р. | загадч. с.-г. сектара „ „ „ |
| 2 . | Кляцкоў Х. Я. | „ „ „ „ „Калгасны сцяг“ (Камарын) |
| 24. | Снітко Ю. Г. | адказны сакратар „Калгаснік Уздзеншчыны“ (Узда) |
| 25. | Дрозд С. Р. | загадчык вясковага сектара газ. „Большэвік Барысаўшчыны (Барысаў) |
| 26. | Базылевіч А. М. | „ партмасавага сект. газ. „Прымежны калгаснік“ (Ушачы) |
| 27. | Ярмош П. Р. | „ с.-г. сектара газ. „Прымежны калгаснік“ (Ушачы) |
| 28. | Дзесюкевіч С. К. | „ сектара рабселькораўскага руху газ. „Калгасная праўда“ (Лепель) |
| 29. | Гарбароў А. В. | загадчык селгасаддзела газ. „Ленінскі сцяг“ (Лёзна) |
| 30. | Давыдава А. А. | загадчык бюро расследвання газ „Чырвоная змена“ (Менск) |
| 31. | Булай В. П. | адказны рэдактар газ. „Сцяг Леніна“ (Бярэзіна) |
| 32. | Сакалоўскі М. Р. | „ „ „ „Калгаснік“ (Чырвоная Слабада) |
| 33. | Сухоц В. М. | загадчык масавага сектара газ. „Чырвоная Тураўшчына“ (Тураў). |

АЛЕМІЧ

# ВІТРЫНА БРАКУ

## АБ КАНЦЫЛЯРШЧЫНЕ, ШАБЛОНЕ І БЮРАКРАТЫЗАЦЫІ МОВЫ

Дзесяткі папраўак, якія з'яўляюцца на многіх раённых газэтах на другі дзень пасля выхаду нумара, лаканічна гавораць: «па віне друкарні ўчора дапушчана памылка. Надрукавана..., а павінна было быць...».

Сёння мы парашылі паказаць вітрыну браку і вялікіх ляпсусаў, дапушчаных самымі рэдакцыямі асобных раённых і палітаддзельскіх газет.

### ПРА «БЯЗДОННАЕ БАЛОТА» І «БАЛЬШУЮ ШЛЯПУ»

Перад намі адзін з прыкладаў своеасаблівай «паэзіі» **«Калектывіста Расоншчыны»**. Апісваючы бяздзейнасць кіраўніцтва ільназавода, адзін з работнікаў рэдакцыі ў парыве мастацкага натхнення піша:

> **«Кіраўнікі ільназавода пагрузіліся ў бяздоннае балота і зверху накрыліся бальшой шляпай, закупарыліся ў бочку і дажыдаюць абозаў з трастой».**

Пямры, Дзяніс, лепш не напішаш.

Мы хочам толькі запытацца ў рэдактара газеты т. **Фонкаце**: аб чым ён думаў, калі прапускаў гэтыя радкі?

### НАХАБНАСЦЬ ПАД ВІДАМ «ФІЛАСОФІІ»

**«Звязда на рубяжы»** (Дрыса) у адным са сваіх «нібы фельетонаў» пад загалоўкам **«Героі голых дэкларацый»** так ахарактарызавала работу сваёй пошты:

> **«З малюнкаў работы некаторых сувязістаў можна зрабіць адзіныя вывады:**
>
> **1. Многа ёсць лапсутых тэлефонаў, але яшчэ больш лапсутых тэлефаністак і манцёраў.**
>
> **2. Слаба яшчэ працуе РСІ і пракуратура ў галіне перавыхавання работнікаў сувязі...» і т. д.**

Такую, з дазволу сказаць, «філасофію», якая перашытаецца з літаратурнай нахабнасцю, дапусціў тав. **Кацюшэнка** на старонках рэдагуемай ім **дрысенскай раённай газеты.** А займаецца гэтай «філасофіяй» нейкі **Барчук.** Падобную рэч ні ў якім разе нельга дапусціць на старонках савецкага друку.

### «ТАБАРЫШЫ САБАТАЖНІКІ»

Сабатажнікаў ільназагатовак мы не можам інакш разглядаць, як лютых ворагаў мерапрыемстваў партыі і ўрада, ворагаў соцыялістычнага будаўніцтва. Чашніцкая-ж раённая газета **«Шлях соцыялізма»** ў нумары за 4 студзеня ў аншлагу на 1-й старонцы сабатажнікаў ільназагатовак называе не інакш, як:

> **«ТАВАРЫШЫ Бурбо, Кацман, Бурэц, Смалякоў, Астаповіч, Атрашэвіч, Баркевіч, Багданаў, Зялёнка! Ваш далейшы сабатаж у ільназагатоўках больш несцярпім».**

Па думцы рэдакцыі раённай газеты выходзіць, што гэтыя, гаворачы мовай данага-ж аншлага «таварышы сабатажнікі», раней маглі і не выконваць плана ільназагатовак, бо толькі зараз «далейшы сабатаж несцярпім». Замест выкрыцця сапраўднага твара сабатажнікаў рэдакцыя займаецца ўгаворваннем іх. Тут газета дапусціла яўную палітычную памылку.

### «АПАРАТ ЗАГОТЗЯРНО РАБОТАЕ СА СКРЫПАМ»

Плешчаніцкая раённая газета **«Барацьбіт за калектывізацыю»** ў свой час пачала практыкаваць «мастацкае» афармленне загалоўкаў перадавых артыкулаў, Так, напрыклад, загаловак перадавога артыкула дае газэта ў № 90.

Мы так і не даведаліся, што азначавае «працаваць са скрыпам», відаць скрып пер'яў у рэдакцыі ўеўся ў плоць і кроў работнікаў газеты і яны без гэтага слова не могуць ужо існаваць.

### «ПОЎНЫМ ВЫКАНАННЕМ ВЫНІКАЎ...»

Як можна **«выканаць вынікі»** — трудна зразумець. Аднак, гэта нікольк не турбуе ушацкую раённую газету. У № 3 за 9 студзеня **«Прымежны калгаснік»** выкідвае на другой старонцы такі аншлаг:

> **«Поўным выкананнем вынікаў камісіі па чыстцы забяспечым узняцце палітычнага ўзроўня кожнага комуніста».**

***

### У РАГАЧОВЕ ЗАГАВАРЫЛІ... КАНОПЛІ

**«Комунар»** — рагачоўская раённая газета — адкрыла нечуваныя «цуды» пры-

роды, яна падслухала гутарку—скаргу канапель калгаса «Іскра». Скаргу гэту запісаў нехта «І. С. Ч.» і ў выніку ў раённай газеце з'явілася заметка:

**«СКАРГА КАНАПЕЛЬ КАЛГАСА «ІСКРА»**

**Дарагія таварышы калгаснікі і калгасніцы калгаса «Іскра»! Мы, каноплі вашага калгаса, пішам гэты ліст вам з тым, каб вы ўспомнілі на тую працу, якая патрачана вам на сяўбу, апрацоўку глебы і вырошчванне нас, канапель. Вы, таварышы калгаснікі і калгасніцы, нас даўно паставілі пад стрэхі хлявоў...» і т. д., і т. д.**

Трэба спадзявацца, што пры такіх тэмпах «вынаходства» рэдакцыя «Камунара» хутка абвесціць: каноплі калгаса «Іскра» ліквідуюць непісьменнасць і ўласнаручна пішуць скаргі на самога намесніка рэдактара тав. **Адамава.**

### І, УРЭШЦЕ, «ЦУДЫ ТЭХНІКІ»

Пра «сакрэт» пераносаў і змяшчэнне артыкулаў з працягам у чырвонапольскай газеце **«Чырвоны сцяг»** ведае бадай уся БССР. Там гэта аперацыя робіцца вельмі проста. Не ўваходзіць, скажам, 30-50 радкоў артыкула ў старонку, метранпаж, з дазволу выпускаючага, адсоўвае гэтыя 30-50 радкоў для будучага нумара, абрывае сказ напалове якога-небудзь слова і выходзіць, прыкладна, наступнае:

**«Зараз кожны сумленны кал-»**

або

**«... мы ведаем, што кож-**

**(працяг у чарговым нумары)»**

На жаль, гэты дрэнны прыклад падхапіла і лельчыцкая раённая газета **«Калгаснік на варце»**. У нумары 74 яна змясціла артыкул тав. Яраслаўскага і, калі не ўвайшло некалькі абзацаў, рэдакцыя не пасаромілася зрабіць такі перанос:

**«...значыцца, калі мы зараз прад'яўляем да кож-**

**(працяг у наст. нумарах)».**

А ў чарговым нумары рэдакцыя спакойна прадаўжае:

**нага члена партыі...» і т. д.**

# ПА СТАРОНКАХ ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКАГА ДРУКУ

**Культурна-бытавая канферэнцыя калгаснікаў Рагачоўскага раёна,** праведзеная палітаддзелам МТС у лістападзе, узяла на сябе рад практычных абавязацельстваў па культурна-бытавому будаўніцтву ў калгасах. Зараз газета палітаддзела **«За бальшэвіцкія калгасы»** арганізавала праверку практычнага ажыццяўлення пастаноў канферэнцыі. У № 42 газета прысвячае гэтай праверцы спецыяльную старонку, у якой адзначае, што яшчэ і сёння не выканана абавязацельства раённага кіраўніцтва Чырвонага крыжа аб адкрыцці цырульняў у калгасах і пабудове лазняў.

**«За бальшэвіцкія тэмпы»**—газета палітаддзела Танежыцкай МТС, Чырвонаслабодскага раёна, змагаецца за стварэнне ў кожным калгасе бібліятэкі. Пад аншлагам **«Кожнаму калгасу—бібліятэку, кожнаму калгасніку—кнігу»** газета падае старонку, прысвечаную пытанням прасоўвання кнігі ў калгасы. Рад калгасаў раёна, рыхтуючыся да канферэнцыі, пастанавілі выдзеліць па 200-400 рублёў для закупкі стандартных бібліятэчак.

**За бальшэвіцкую сустрэчу 17 з'езда ВКП(б)** — такі бюлетэнь, прысвечаны вытворчаму паходу імя 17 з'езда ВКП(б), выдае **палітаддзел Хойніцкай МТС** і рэдакцыя раённай газеты **«Ленінскі сцяг».** Праз бюлетэнь праведзена значная работа па падрыхтоўцы да ўсераённага дня «свята калгаснай працы».

**Супроць безгаспадарчых адносін да гаража МТС** выступіла газета палітаддзела Жлобінскай МТС **«Чырвоны трактарыст».** Газета патрабуе ацяплення гаражоў і больш уважлівых адносін да машын пры заводцы.

Газета палітаддзела Лельчыцкай МТС **«Ленінскі шлях»** пад аншлагам «Трактар адрамантаваць, трактарыста падрыхтаваць» дае спецыяльную старонку, прысвечаную пытанню рамонта трактароў.

### ПА РЭДАКЦЫЯХ ЦЭНТРАЛЬНЫХ ГАЗЕТ БССР

**«Калгаснік Беларусі»** — газета ЦК КП(б)Б арганізуе на сваіх старонках завочныя агра-тэхнічныя курсы. Лекцыі будуць друкавацца на старонках газеты. Прапрацоўваць іх змажа кожны калгаснік і працоўны аднаасобнік, не адрываючыся ад сваёй вытворчасці.